27 мая 2016 | № 21 (486)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Чаму варта весці дзетак у беларускі клас. 12 прычын**

Стар. 11

**5 «СПІСЫ АПАЗІЦЫІ»: РЭАЛЬНАСЦЬ І ФАНТАСТЫКА**

Апазіцыя падыходзіць да парламенцкай кампаніі ва ўжо звыклым для сабе стане драбнення. А можа, у гэтым ёсць глыбінны сэнс?



**6 УЛАДА РАЗЛІЧВАЕ НА НОВУЮ ДАМОВУ З НАРОДАМ**

Чарговы ўсебеларускі сход патрэбны ўладзе, каб атрымаць яшчэ адзін мандат усёдазволенасці на чарговы пяцігадовы тэрмін. Пытанне ў тым, як яна ім скарыстаецца?

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22 КАЛІ Б НЕ ЯНЫ, КРАІНА БЫЛА Б ІНШАЙ**

Мы пазнаёміліся на кухні Уладзіміра Някляева ў славутым «пісьменніцкім» доме па вуліцы Карла Маркса, 36. Я тады працаваў над альбомам «Танга з ружай». Было гэта дзесяць гадоў таму

# Аб'яднаць можа толькі нацыянальная ідэя

## Еднасць дасць апазіцыі давер шырокіх слаёў грамадскасці



Аляксей КАРОЛЬ




Сёння мы як заклінанне паўтараем словы «аб'яднанне», «адзінства». Адрасуючы іх апазіцыі, дэмакратычным сілам, інтэлігенцыі, народу. У адсутнасці адзінства мы бачым галоўную перашкоду ажыццяўленню дэмакратычнай альтэрнатывы аўтарытарнаму рэжыму Лукашэнкі.

Аднак для аб'яднання, акрамя жадання, неабходна агульная аснова. Неабходна аб'яднаўчая ідэя, якая можа стаць асновай новай канцэпцыі, новай мадэлі развіцця Беларусі, што адпавядае выклікам часу і інтарэсам большасці насельніцтва. Але каб стаць такой асновай, сама ідэя павінна быць успрынятая і падзяляецца большасцю грамадства, дакладней, напачатку той адной яго чвэрцю, якая, згодна з навуковымі даследаваннямі, схільная генераваць канцэпцыі развіцця, і да якой затым далучаюцца астатнія тры чвэрці.

Як толькі нацыянальная эліта спыняе свой выбар на пэўнай ідэі, то адразу ж адпадае ўсё дробнае, выпадковае, эмацыйнае, амбіцыйнае, што расколвае яе знутры, расцярушвае на групоўкі, сутыкае аднаго з другім.

Якая ж ідэя ва ўмовах сучаснай Беларусі можа стаць аб'яднаўчай?

Гісторыі ведае тры аб'яднаўчыя ідэі: рэлігійную, класавую і нацыянальную. Класавая аказалася падманам і ілюзіяй, абярнулася таталітарызмам. Рэлігійная для Беларусі выключаецца часам, існаваннем мноства канфесій, верацярпімасцю і талерантнасцю насельніцтва. Застаецца нацыянальная.

### Прычыны няўдач

Ці ж здатная менавіта нацыянальная ідэя стаць той, якая кансалідуе эліту і народ? Ці здольная яна стаць канцэпцыяй новага этапу барацьбы за перамены ў Беларусі?

Часткова адказ хаваецца ў прычынах, што абумовілі няўдачу дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі. Большасць з іх якраз і гуртуецца вакол нацыянальнай ідэі і стану нацыянальнай эліты.

Прычына зыходная — працэс дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі пачаўся пад уплывам звонку. Гэта ў гістарычнай традыцыі краіны: усе больш-менш важныя сацыяльна-палітычныя зрухі пачыналіся тут пад уплывам знешніх імпульсаў. І тут ніколі не была сфармаваная ў неабходных параметрах самастойная нацыянальная палітычная сіла, здольная пачаць рух і дамагчыся вызначаных мэтаў.

Гэтая асаблівасць дапамагла народу выжыць у шматлікіх чужых войнах і сацыяльных катаклізмах, захаваць свае імя, мову і культуру, не растварыцца сярод другіх народаў. Але яна ж перашкодзіла фарміраванню развітой і актыўнай самасвядомасці беларускага народа, перашкодзіла давесці да лагічнага завяршэння — стварэння нацыянальнай дзяржавы — рух нацыянальнага адраджэння.

Прычына другая — дэнацыяналізацыя, максімальна ўзмоцненая за гады савецкай улады. Беларусь аказалася адносна дрэнна падрыхтаванай да атрымання незалежнасці ў жніўні 1991 года. Адсутнічала моцная аб'яднаўчая ідэя, дзякуючы якой адрадзіліся ў якасці незалежных і дэмакратычных Польшча, краіны Балтыі ды іншыя.

Прычына трэцяя — вельмі вузкі і слабы, некансалідаваны слой беларускай эліты, беларускай нават не па паходжанні, і нават не па мове, а па арыентацыі на нацыянальныя інтарэсы. Як вядома, палітычная ідэнтыфікацыя можа быць не толькі праз этнацысцкі спосаб, але і праз этацысцкі — прававую ўласцівасць грамадзянства.

Слабасць эліты праявілася ў слабасці нацыянальнай інтэлігенцыі — генератара ідэй і творцы канцэпцый, мадэляў развіцця. Збегам гістарычных абставін лепшыя прадстаўнікі нацыі траплялі ці то ў польскую, ці то ў расійскую інтэлігенцыю. Рэпрэсіі 1920–1930-х гадоў вынішчылі пад корань тую моцную купку беларускіх інтэлектуалаў, якая сфарміравалася на мяжы XIX і XX стагоддзяў.

Прычына чацвёртая — моцны і маналітны слой савецка-партыйнай наменклатуры — сурагат палітычнай эліты ў Беларусі, які сапраўды быў неад'емнай часткай агульнасаюзнай. Квазіэліта без аніякіх гістарычных каранёў і традыцый, маралі і прафесійнага кодэксу гонару. Яе асноўны інстынкт — інстынкт самазахавання. Любой цаной.

Прычына пятая — атамізаванае несалідарнае грамадства пры больш высокім на той час, чым у іншых рэгіёнах Савецкага Саюза, узроўні жыцця.

Гэта, з аднаго боку, давала беларускаму аўтарытарызму дастаткова шырокую сацыяльную аснову. З другога — стварала дадатковую глебу для фарміравання ідэалогіі настальгіі аб былым добрым жыцці, ідэалогіі інтэграцыі з Расіяй. Але над усім гэтым лунаў страх перад уладай у спалучэнні са страчанай здольнасцю да супраціву. Свайго роду псіхалагічная траўма, замацаваная ў свядомасці не аднаго пакалення.

Прычына шостая — адносна невялікі, стракаты і слаба кансалідаваны слой дэмакратычнай апазіцыі. Гэта была постсавецкая эліта, якая выйшла з таталітарнай сістэмы, не маючы за сабой дэмакратычнай традыцыі. Фарміравалася яна з актывістаў першай хвалі (галоўным чынам інтэлігенцыі) і прадстаўнікоў былой наменклатуры (галоўным чынам ніжэйшага і сярэдняга звенняў).

Пасля першых прэзідэнцкіх выбараў, і асабліва пасля лістападаўскага 1996 года антыканстытуцыйнага перавароту, палітычная эліта краіны ўсё больш выразна пачала расколвацца на дзве групы: на дэмакратычную апазіцыю і ўладную бюракратыю.

Працяг на стар. 4.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ЖОДЗІНА. Суды і штрафы за салідарнасць

**У Жодзінскім гарадскім судзе 23 мая прайшлі суды над актывістамі аргкамітэта прафсаюзу прадпрымальнікаў «Салідарнасць», якіх затрымалі падчас мітынгу на жодзінскім рынку.**

Алеся Макаева аштрафавалі на 50 базавых велічынь, Алеся Абрамовіча — на 40, Паўла Пракаповіча — на 25, Міхаіла Латышова і Паўла Старавойтава — на 15 базавых велічынь.

Нагадаем, грамадскія актывісты і прадпрымальнікі былі да суду ўзятыя пад варту і правялі выходныя ў ізалятары часовага ўтрымання. Толькі Алесь Абрамовіч па стане здароўя быў адпушчаны да суду дадому.

Падтрымаць актывістаў у Жодзіна прыехала вялікая група актывістаў з Мінску. У іх ліку Павал Севярынец, Мікола Аўтуховіч, Вячаслаў Сіўчык ды яшчэ больш за 10 актывістаў.

**Паводле spring96.org**

### МАГІЛЁЎ. Прызыўнік супраць камісіі

**Незалежны журналіст Аляксандр Буракоў разам з праваабаронцам Барысам Бухелем падалі скаргу ў суд на рашэнні гарадской і абласной прызыўных камісій.**

«З рашэннем, што я «прыдатны з абмежаваннямі», вядома ж, не згодны. У мяне ёсць абгрунтаванні сваёй слушнасці наконт таго, да якога з пунктаў мяне адносіць — да «не прыдатны ў мірны час» ці «прыдатны з абмежаваннямі». Не буду пра гэта распаўсюджвацца зараз — пакіну для суда», — пракаментаваў Аляксандр Буракоў.

Ён не выключае магчымых правакацый з боку ваенкамата: «Раней я ўжо казаў пра тое, што абодва разы, калі я быў на адборы ў вайсковыя часткі, ад мяне адмаўляліся. Нягледзячы на гэта, ваенкамат выдаў мне позву на адпраўку. Зараз я падаў скаргу ў суд — згодна з Законам аб вайсковым абавязку, рашэнне прызыўной камісіі пры гэтым прыпыняецца. Такім чынам, нікуды мяне адпраўляць не павінны. Але я разумею, якая логіка ў «вайскоўцаў», і не выключаю, што да мяне на дом завітае хто-небудзь з ваенкамата з міліцыянтамі і сілавым метадам даставяць на адпраўку, як «касінера». Вядома, што адтуль я ўжо наўрад ці змагу што-небудзь даказаць. Таксама я не выключаю, што дату суда могуць прызначыць у бліжэйшыя два дні, каб паспець «вырашыць пытанне» да адпраўкі», — заяўляе прызыўнік.

«Спроба прызваць Аляксандра незаконная, што відавочна па тых дакументах, што ёсць у нас, і афіцыйных патрабаваннях да прызыўнікоў. Відавочна праглядаецца палітычны падтэкст у гэтай справе. У дадзеным выпадку ўлады выкарыстоўваюць прызыўную кампанію як інструмент палітычнага ціску. Мы пераканаными, што закон на нашым баку. Будуць парушаць — будзем скардзіцца», — заявіў Барыс Бухель.

**«Магілёўская Вясна»**

### ГОМЕЛЬ. Супраць збяднення нельга

**Намеснік старшыні Гомельскага гарвыканкама Сяргей Андрэеў адмовіў незалежнаму прафсаюзу РЭП правесці пікет супраць зніжэння памеру аплаты працы наёмных работнікаў.**

У гарвыканкаме палічылі, што для пікету з удзелам да 15 чалавек неабходная карэта хуткай дапамогі і брыгада прыбіральшчыкаў.

Кіраўнік гомельскага прадстаўніцтва прафсаюза РЭП Віктар Казлоў нагадвае, што толькі за апошні час у прафсаюз звярнуліся працаўнікі шэрагу прадпрыемстваў горада са скаргамі на зніжэнне заработнай платы, на істотнае змяненне ўмоваў працы, звязанае са скарачэннем працоўнага тыдня.

«У ААТ «Гомельхлебпрам» працоўны дзень скарацілі на тры чвэрці — да 2 гадзін у дзень, у ААТ «Гомельпрамбуд» аўтакранаўшчыкам сталі плаціць за працу 2 мільёны рублёў у месяц, у ААТ «Сейсматэхніка» наогул перавялі сваіх працоўных на адзін працоўны дзень на тыдзень, прапанаваўшы працаваць толькі па чацвяргах, а з тымі, у каго заканчваюцца працоўныя кантракты, іх не працягваюць», — пералічвае факты прафсаюзны лідар.

Прававы інспектар прафсаюза РЭП па Гомельскай вобласці Леанід Судаленка падкрэсліваe, што ўскладанне на іх, як арганізатараў мірнага сходу абавязку па заключэнні аплатных дагавораў з медыцынай і санітарнай ачысткай горада з'яўляецца грубым парушэннем іх правоў на мірны сход і, як следства, на выказванне свайго меркавання. Па словах юрыста, прафсаюзныя актывісты ўпэўненыя ў сваёй праваце і маюць намер абскардзіць забарону чыноўнікаў у судзе.

**«Гомельская Вясна»**

# Колькі слоў пра акцыю ў абарону парку Катоўка

Юлія ГАЛІНОЎСКАЯ

**Прыкра назіраць, як матэрыялы эколагаў радыкалізуюцца і робяць з вернікаў ворагаў жывой прыроды і чалавека. І кожны наступны загаловак гучыць усё больш і больш пагрозліва.**

Пра загалоўкі зразумела — яны мусяць быць гучнымі і правакацыйнымі, мэты гэтых артыкулаў таксама, здаецца, зразумелыя: напужаць чытача і праз гэта зрабіць тэму больш гучнай і павялічыць колькасць паплечнікаў.

Упэўненая, што мэты эколагаў добрыя і светлыя — захаваць жыццё і яго разнастайныя формы. Але яны не заўважаюць, што сваімі дзеяннямі, па сутнасці, руйнуюць супольнасць вернікаў, якую таксама можна параўнаць з жывым арганізмам. Я добра разумею, пра што кажу, бо сама з'яўляюся вернікам такой «бяздомнай» парафіі. І добра разумею, што для супольнасці св. Пятра і Паўла дазвол на будову свайго ўласнага дома выклікаў вялікую радасць.

Мне зразумела, што гэтая супольнасць даволі слабая, мае мала сілы, таму што ім спатрэбілася ажно 5 гадоў, каб аформіць усе паперы, сабраць неабходныя сродкі, якіх бы хапіла на тое, каб распачаць будову.

Дзякуючы распрацаванаму, наладжанаму механізму ўзаемадзеяння са СМІ, гэтай піяр-кампаніяй эколагі, па сутнасці, забіваюць мары гэтай супольнасці. Супольнасць не зможа адказаць такім жа чынам.




Але давайце паспрабуем паглядзець на радыкалізм эколагаў з іншага боку. Як вам такія загалоўкі: «Эколагі хочуць знішчыць хрысціянскую супольнасць», «Эколагі адмаўляюць хрысціянам у праве вызнавання сваёй веры», «Ваяўнічы атэізм пад маскай экалагічнага руху».

Канечне, вернікі так не скажуць. Дый я не хачу правакаваць — хачу толькі, каб вы паглядзелі на свой радыкалізм іншымі вачыма.

Бо інакш — гэта ідэальны сцэнар гарантаванага ўзаемнага прыніжэння.

Як гэта не падасца дзіўным, але будаўніцтва касцёла ў гэтым парку — гарантыя яго захавання. Са слоў тых жа жыхароў мы ведаем, што парк знаходзіцца ў трошкі занядбаным стане, для горада — гэта праблема, а мясцовыя жыхары не ўзялі яго на ўласнае ўтрыманне. Разам з тым, парк застаецца «смачным кавалкам», які будзе стала прыцягваць увагу інвестараў як месца пад будову дамоў або бізнэс-цэнтраў і іншых камерцыйных пабудоў. Калі там будзе касцёл, то там не пабудуюць некалькі шматпавярховікаў — гэта па-першае. Калі там будзе касцёл, дык гэта будзе прыгожае, дагледжанае месца, даступнае для адпачынку, шпацыраў для людзей, якія прытрымліваюцца здаровага ладу жыцця, — гэта па-другое.

Хачу дадаць, што касцёл, які збіраюцца будаваць, разлічаны ўсяго на 300 вернікаў, а гэта маленькі касцёл, ён будзе займаць невялічкую частку тэрыторыі парку. І апошняе — там, дзе будуецца ДОМ БОЖЫ, не можа быць не прыгожа, самі вернікі зацікаўленыя ў тым, каб навокал быў захаваны парк.

Канечне, пры будове непазбежна і тое, што давядзецца высечы частку дрэваў. Але ж можна дамовіцца супольна кантраляваць гэты працэс, каб па заканчэнні будовы аднавіць гэтую тэрыторыю. У дадатак, за кожнае дрэва, ссечанае пры будове, касцёл плаціць дзяржаўным установам даволі вялікія грошы — давайце разам пракантралюем, каб гэтыя грошы пайшлі менавіта на добраўпарадкаванне парку, высадку новых дрэваў і г.д.

Зразумела, што эколагі ў гэтай справе адстойваюць свае каштоўнасці і хочуць, каб з гэтымі каштоўнасцямі лічыліся. Але вернікі ў справе захавання парку могуць быць не ворагамі, а памочнікамі — пры ўмове, калі і з іх каштоўнасцямі будуць таксама лічыцца.

# Дарога, па якой везлі на расстрэл

Марат ГАРАВЫ

**У межах даследавання тэрыторыі Курапатаў, якое ладзіцца актывістамі грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў», прыкладна вызначана лясная дарога, па якой везлі на расстрэл.**

Чарговы этап даследавання ляснога масіву стаў магчымым толькі пасля таго, як валанцёры з грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» распачалі, а супрацоўнікі Бараўлянскага спецлясгасу завяршылі санітарную ачыстку 19 гектараў лесу на той частцы, што знаходзіцца на паўночным усходзе ад Мінскай кальцавой аўтадарогі.

Падчас даследавання былі выкарыстаныя мапы мясцовасці розных гадоў, напрацоўкі айчынных археолагаў з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — навуковых экспертаў следчай групы Пракуратуры БССР, а таксама матэрыялы апытанняў сведкаў, што выкладзеныя ў зборніку «Курапаты» (Зянон Пазьняк, Яўген Шмыгалёў, Мікола Крывальцэвіч, Алег Іоў. Мінск, 1994), у кнізе Яўгена Гарэліка «Куропаты: следствие продолжается» (Москва, 1990) і ў зборніку матэрыялаў «Курапаты» (Архіў найноўшай гісторыі пры грамадскім аб'яднанні «Дыярыуш». Мінск, 2002). Апроч таго, былі выкарыстаныя вынікі візуальнага агляду і вывучэння асаблівасцяў рэльефу ўрочышча, яго глебы і расліннасці.

Грамадскія актывісты вызначылі найбольш верагоднае месца, дзе сутыкаюцца край лесу перыяду 1930–1940-х гадоў і сляды асобных участкаў плоту, што далучаюцца да ўязной брамы.

Разам з тым, эксперты сустрэліся са старажылам вёскі Цна-Ёдкава Вольгай Цімафееўнай Бароўскай (у дзявоцтве Мацкевіч), 1927 года нараджэння. Гэта адзіная на сённяшні дзень жыхарка Цны-Ёдкава — непасрэдная сведка масавых расстрэлаў ва ўрочышчы.

Яна пацвердзіла вызначанае грамадскімі актывістамі прыблізнае месцазнаходжанне дарогі, па якой бязвінных людзей вазілі праз урочышча на забойства. Разам з тым, Вольга Цімафееўна паказала на плане мясцовасці месца, дзе «чорныя варанкі» з ахвярамі і легкавікі з катамі з гравійкі Заслаўе—Калодзішчы рабілі левы паварот і з'язджалі на лясную дарогу. Жанчына распавяла, што тэрыторыя ўрочышча Брод (мясцовая назва ляснога масіву. — **М.Г.**), дзе праводзіліся масавыя расстрэлы, прыкладна ў 1937 годзе была агароджана плотам са шчыльна падагнаных усутыч дошак вышынёй 3 метры. Плот быў суцэльны, не меў калючага дроту наверсе і назіральных вышак, а ахову здзяйснялі супрацоўнікі НКУС без службовых сабак.

Даследаванні тэрыторыі Курапатаў будуць працягнутыя. Да іх мяркуецца далучыць сведкаў падзей з іншых вёсак, а таксама спецыялістаў, у тым ліку археолагаў, архітэктараў, геадэзістаў, мовазнаўцаў, культуролагаў і гісторыкаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Лепей бы маўчалі…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нашы чыноўнікі ўсё пішуць планы, якім ад нараджэння не лёс ажыццявіцца. Асабліва парадавала навіна з Мінэканомікі. Яно распрацоўвае стратэгію развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва на перыяд аж да 2030 года!**



Фота www.nord-news.ru

«Загадам Мінэканомікі №59 ад 16 мая 2016 года зацверджаны склад рабочай групы па распрацоўцы стратэгіі пад кіраўніцтвам намесніка міністра Ірыны Касцевіч. Таксама ўдзельнікамі рабочай групы сталі прадстаўнікі зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў, бізнес-супольнасцяў і прадстаўніцтва Міжнароднай фінансавай карпарацыі ў Беларусі», — гаворыцца ў паведамленні міністэрства.

Мінэканомікі тлумачыць, што распрацоўка стратэгіі «абумоўлена неабходнасцю вызначэння прыярытэтных напрамкаў развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Беларусі на сярэднетэрміновую і доўгатэрміновую перспектыву і шляхоў іх рэалізацыі, стварэння спрыяльных умоў фармавання і функцыянавання прадпрымальніцкага асяроддзя, фарміравання і рэалізацыі мэтавых праграм і планаў развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, забеспячэння ўзгодненасці дзеянняў органаў дзяржаўнай улады розных узроўняў і малога і сярэдняга прадпрымальніцтва».

Пасля 222-га ўказу, сертыфікацый і ліцэнзій, беларускія гандлёвыя цэнтры і рынкі дагэтуль стаяць напаўпустыя. Прадпрымальнікаў паспрабавалі знішчыць як клас, і напалову гэта ўдалося. Другая палова настане ў чэрвені, калі, па словах аднаго з лідараў прадпрымальніцкага руху, заканчваецца своеасаблівы мараторый на праверкі сертыфікацыі тавараў. Пасля гэтага чыноўнікі зноў пойдуць адбіраць тавар у ІП. А Мінэканомікі нічога гэтага не бачыць. Яно распрацоўвае «прыярытэты» развіцця прадпрымальнікаў, прычым, аж да 2030 года.

Па маю думку, перш чым распрацоўваць «стварэнне спрыяльных умоў фармавання і функцыянавання прадпрымальніцкага асяроддзя» ў наступным дзесяцігоддзі, трэба зрабіць так, каб такое асяроддзе было зараз. Яго ж проста няма. Ці ў Мінэканомікі ўзялі за аснову «Інтэрнацыянал»: «Увесь свет гвалту мы разбурым, дашчэнту, а затым, мы наш, мы новы свет збудуем…» То бок, спачатку вынішчым прадпрымальніцтва, а на яго месцы будзем ствараць новае.

З іншага пункту гледжання, развіццё прадпрымальніцтва — задача двухбаковая. Гэта не толькі стварэнне ўмоў для ініцыятывы, чым марыць заняцца Мінэканомікі, гэта яшчэ і пытанне пакупніка. Практыка пачатку гэтага года паказала: любыя праграмы і палёгкі для ІП бессэнсоўныя, калі ў патэнцыйных пакупнікоў проста няма грошай, каб набыць тавары.

А грошай сапраўды няма. Паводле дадзеных найбуйнейшай у свеце базы кантэнту Numbeo, Беларусь заняла 54-е месца сярод 86 краін па ўзроўні жыцця. Гэта яшчэ нябляга, бо лепш, чым у Расіі, якая заняла 72-е месца.

Паводле падлікаў Белстата, налічаная сярэдняя зарплата работнікаў у красавіку склала 7 мільёнаў 85 тысяч 990 рублёў. Такім чынам, яна зменшылася на 8500 рублёў. Аднак у валюце заробак вырас за кошт зніжэння курсу долара. Калі браць сярэднеўзважаны курс за красавік, то сярэдні налічаны заробак складае 356 долараў.

Але гэта «налічаны» заробак, а не рэальны, і тым болей не даход на душу насельніцтва. Паводле падлікаў інтэрнэт-газеты «Салідарнасць», за студзень-сакавік у пераліку на душу насельніцтва сярэдні беларус атрымліваў 4 мільёны 869 тысяч рублёў у месяц, што крыху больш за $236.

«Афіцыйная статыстыка, як правіла, імкнецца падфарбаваць стан рэчаў, таму рэальная карціна можа быць яшчэ горш», — патлумачыў эканаміст Барыс Жаліба. І нагадаў, што ў жніўні 2014 года ў нас сярэдняя зарплата па краіне была 612 долараў у эквіваленце.

А ўзяцца грошам няма адкуль. Наш асноўны партнёр — Расія, — сама ў крызісе (наконт яе ўзроўню жыцця глядзіце вышэй). Што моцна б'е па нашых прадпрыемствах.

Міністэрства фінансаў Беларусі апублікавала справаздачы адкрытых акцыянерных таварыстваў краіны за 2015 год. З іх бачна, што нават «гаспадары жыцця» імкліва бяднеюць. «Наша Ніва» склала топ-20 самых прыбытковых і стратных кампаній.

Лідарамі эканомікі засталіся «Беларуськалій» і «Мазырскі НПЗ». «Нафтан», які ў пазамінулым годзе зарабіў $200 млн., у мінулым годзе меў менш як $4 млн.

У 2014 годзе ў топ прыбытковых кампаній уваходзіў «Трайпл» Юрыя Чыжа з $65 млн. прыбытку. Па выніках 2015 года прыбытак усох да $3,3 млн. «Савушкін» Аляксандра Машэнскага зарабіў толькі $93 тысячы (!), тады як у пазамінулым годзе было больш за $40 млн. Анатоль Тарнаўскі са сваім «Юнівест-М» страціў $11,2 млн., а Аляксандр Шакуцін з «Амкадорам» — $13,7 млн. «Ростэм» Юрыя Авяр'янава меў чыстых страт $2,6 млн.

Калі ўжо бяднеюць мільянеры, то што можна казаць пра простых грамадзян? Ці будзе каму і за што купляць у прадпрымальнікаў іх прадукцыю ў 2030 годзе?

Яшчэ адну цікавую прапанову выказала Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Яна прапанавала ўвесці страхоўку па беспрацоўі. Як запэўніў начальнік галоўнага ўпраўлення сацыяльнага партнёрства і працоўных адносін ФПБ Максім Каршакевіч, страхоўкі «дапамогуць змагацца з беднасцю». ФПБ выступае за тое, каб распрацоўваць адпаведны законапраект пачалі ўжо ў наступным годзе, перадае БЕЛТА.

Як кажуць амерыканцы, «упс!». А што тады рабіць з фондам сацыяльнай абароны, якому ўсе пералічваюць працэнт заробку «на беспрацоўе»? Па ідэі, гэта і павінна быць той самай страхоўкай ад беспрацоўя. А чаму ФПБ маўчала, калі прымаўся дэкрэт пра лайдацтва? І што рабіць з самім дэкрэтам, калі лайдак атрымлівае страхоўку па беспрацоўі?

Я прапаную адразу страхаваць ад дэкрэта пра лайдацтва. Хай гэты падатак выплочваюць страхавыя кампаніі. Праўда, ніводная кампанія, у якой ёсць нармальнае кіраўніцтва, не возьмецца за рэалізацыю гэтай ініцыятывы ў той час, калі краіна па росце беспрацоўя лідзіруе сярод дзяржаў СНД.

Праўда, заўсёды ёсць «Белдзяржстрах», які можна прымусіць. Але ў такім выпадку ён проста збанкрутуе, і мы рызыкуем атрымаць беспрацоўных страхавальнікаў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Навумчык

**Экс-дэпутат Вярхоўнага Савета і адзін з самых вядомых беларускіх палітэмігрантаў вярнуўся на радзіму. Пакуль на некалькі дзён.**

«Самае галоўнае, што я прыляцеў у незалежную краіну, — заявіў Навумчык журналістам 24 мая па прылёце ў нацыянальны аэрапорт «Мінск», вярнуўшыся на радзіму пасля 20-гадовай эміграцыі. — За гэтыя 20 гадоў не было ні дня, каб я не думаў, як гэта адбудзецца. Я ўвесь час хацеў вярнуцца. Хацеў вярнуцца ў дэмакратычную Беларусь, пад бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоню», але пакуль так не атрымалася — прыспешылі справы сямейныя, узрост бацькоў, іх стан здароўя».

Але тое, што Беларусь незалежная і застаецца такой ужо 25 гадоў, сведчыць аб перамозе апазіцыі БНФ, лічыць Навумчык.

«Калі гэта (незалежнасць) існуе і трымаецца 25 гадоў — гэта перамога. А што засталося: і бел-чырвона-белы сцяг, і «Пагоня», і дэмакратыя, і прэзідэнцтва не больш за два тэрміны, і ўсё іншае — гэта прыкладзецца», — сказаў Навумчык.

Прыезд на радзіму Навумчыка спарадзіў спадзяванні, што вернецца і Зянон Пазьняк. Але, па меркаванні Навумчыка — не час. Навумчык нагадаў, што ў канцы мінулага года мытня затрымала на мяжы кнігі Пазьняка. «Гэта паказвае стаўленне ўладаў да Пазьняка. Мне здаецца, што для яго вяртання пакуль не час», — сказаў Навумчык.



## Аляксандр Памідораў

**Вядомы беларускі музыка і шоўмэн выклікаў шмат спрэчак у інтэрнэце.**

Памідораў пачаў працаваць на радыё «Sputnik Беларусь», адным з адгалінаванняў міжнароднага праекта Sputnik расійскага дзяржаўнага агенцтва «Расія сёння», якім кіруе скандальны прапагандыст Дзмітрый Кісялёў. Гэта выклікала бурную рэакцыю калегаў Памідорава. Журналісты спрачаюцца, сорамна ці не працаваць на расійскіх прапагандыстаў.

Спявак і радыёвядучы не бачыць нічога дрэннага ў працы на Sputnik і не лічыць, што варта разважаць пра магчымыя прапагандысцкія настроі Sputnikа ва ўмоўным ладзе. Памідораў кажа, што адказвае выключна за ўласныя эфіры і ўласныя ацэнкі, якія ў яго не змяніліся.

Аднак многія калегі асуджаюць музыканта, кажучы пра тое, што лепш канавы капаць або працаваць у Макдональдсе.

Іншыя паставіліся з разуменнем, заяўляючы, што на галодны страўнік з пустымі кішэнямі выбіраць асабліва не даводзіцца. Журналіст Алесь Пілецкі прызнаўся, што не ведае, як бы сам паступіў, калі б у яго доўгі час не было працы і сродкаў да існавання. Ён сам два месяцы нідзе не працаваў, і гэта былі самыя цяжкія месяцы ў яго жыцці, а Памідораў не мог нідзе нармальна ўладкавацца два гады.

І сапраўды: усе ўжо прызвычаіліся, і ніхто не асуджае лідара гурту «НейраДзюбель» Аляксандра Кулінковіча, які вядзе аўтарскую калонку ў «СБ — Беларусь сегодня». Галоўнае, каб Памідораў сваім прынцыпам не здрадзіў.

## Вікторыя Азаранка

**Самая славутая беларуская тэнісістка вымушаная была пакінуць «Ралан Гарос» па стане здароўя.**



Другі турнір Вялікага Шлема скончыўся для Вікторыі Азаранкі на самым старце.

24 мая ў першым крузе Азаранка сустракалася з італьянскай тэнісісткай Карын Кнап. Першую партыю выйграла італьянка — 6:3. Лёс другога сэта вырашыўся на тай-брэйку на карысць Азаранкі — 7:6.

На корце двойчы з'яўляўся лекар, Віка плакала, біла ракеткі, але па-ранейшаму гуляла праз боль. Падчас трэцяга сэта беларуска пры ліку 0:4 адмовілася ад далейшай барацьбы. Прычынай для адмовы, як адзначае прэс-служба турніру, паслужыла траўма правага калена.

# Аб'яднаць можа толькі нацыянальная ідэя

**Працяг. Пачатак на стар. 1.**

Формай арганізацыі дэмакратычнай апазіцыі сталі выключна партыі, незалежныя прафсаюзы, рознага кшталту недзяржаўныя грамадскія аб'яднанні. Формай арганізацыі бюракратыі — знакамітая вертыкаль Лукашэнкі. Тэрміны «дэмакратычная эліта» і «дэмакратычная апазіцыя» пачалі пераўтварацца ў сінонімы.

Гэтыя ж прычыны пры пэўных унутраных зменах захоўваюцца і па дзень сённяшні. Іх можна абагульняючы звесці да адной: слабасць і разрозненасць нацыянальнай эліты, якая не змагла аб'яднаць свае намаганні на глебе якой-небудзь ідэі.

### Нацыянальная ідэя

Мы не раз і не два сутыкаліся ў спрэчках не толькі аб сутнасці і змесце нацыянальнай ідэі, але і аб разуменні яе ролі ў дэмакратычных пераўтварэннях. Меркаванні на гэты конт існуюць розныя. Для многіх дэмакратаў, арыентаваных на заходнія каштоўнасці, яна падаецца ідэяй мінулага дня, якая дрэнна ўпісваецца ў кантэкст агульначалавечых каштоўнасцей і дэмакратычных трансфармацыйных працэсаў. Яны баяцца перараджэння дэмакратычнага нацыяналізму ў нацыяналізм агрэсіўны. Ім супрацьстаяць меркаванні аб магчымасці аўтарытарных форм усталявання і развіцця рынкавай эканомікі, умацавання беларускай дзяржаўнасці (па тыпу чылійскай, паўднёвакарэйскай).

Сапраўды, нацыянальная ідэя адыгрывала ў гісторыі неадназначную ролю. Прыкладаў пераўтварэння нацыянальна-вызвольных рухаў у аўтарытарныя і дыктатарскія рэжымы ў мінулым і сучасным мы ведаем дастаткова. Усё залежыць ад канкрэтнага зместу нацыянальнай ідэі, яе адаптацыі да канкрэтнага часу і канкрэтных умоваў.

Каб стаць тэарэтычнай асновай канцэпцыі развіцця Беларусі, стратэгіі аб'яднання і тактыкі дзеянняў дэмакратычнай апазіцыі нацыянальная ідэя павінна атрымаць сучасны змест, быць арганічна спалучанай з дэмакратычнымі каштоўнасцямі.

Беларуская ідэя мае свой гістарычны змест. Упершыню выразна яна была сфармулявана напачатку XIX стагоддзя прафесарамі Віленскага ўніверсітэта Міхайлам Баброўскім і Ігнатам Даніловічам. І грунтавалася на перадавой для таго часу дэмакратычнай думцы Захаду. Яе складовыя часткі: адраджэнне мовы і культуры, нацыянальнай самасвядомасці з канчатковым выхадам на ўсталяванне беларускай дзяржаўнасці. Беларуская ідэя ніколі не несла на сабе нават лёгкага адбітку месіянства на выключнасць беларускага народа, тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў.

Яшчэ адна прынцыпова важная акалічнасць: па прычынах найперш геапалітычных, ажыццяўленне беларускай ідэі самастойна, уласнымі сіламі аказвалася немагчымым. Адсюль і розныя арыентацыі тых ці іншых палітычных сілаў, у тых ці іншых абставінах, — на Захад ці на Усход.

Гэтая акалічнасць захоўваецца і сёння. Але ў іншым канкрэтным абрамленні. Пазіцыя палітычных колаў Расіі нясе відавочную пагрозу паглынання Беларусі. Аднак і пазіцыя пэўных еўрапейскіх палітычных колаў адзначаная імкненнем супрацоўнічаць з рэжымам дзеля яго быццам бы паступовай трансфармацыі.

Галоўная пагроза суверэнітэту зыходзіць ад уласнай улады. У канчатковым выніку існаванне беларускай дзяржаўнасці вызначаецца здольнасцю і воляй яе дэмакратычных сілаў рэалізаваць дэмакратычны выбар. У іншым выпадку Захад пакідае Беларусь па-за межамі еўрапейскай цывілізацыі, аддае яе ў сферу ўплыву Расіі.

Для задач дня сённяшняга сутнасць беларускай ідэі як ідэі аб'ядноўчай і мабілізуючай можна сфармуляваць наступным чынам.

Беларусь — дзяржава з даўнімі традыцыямі. І разам з тым Беларусь — маладая дзяржава, што абавязвае яе не паўтараць памылак, пазбягаць састарэлых формаў і канструкцый. Беларусы — нацыя з глыбокімі гістарычнымі каранямі. І разам з тым — маладая нацыя, закліканая адрадзіць страчаную дзяржаўнасць на аснове дэмакратычных прынцыпаў. Не ў ізаляцыі, а ў садружнасці з дзяржавамі еўрапейскай супольнасці. Усе нацыі, што пражываюць у Беларусі, поруч з тытульнай ёсць народам Беларусі з роўнымі правамі, магчымасцямі і абавязкамі. Усе выхадцы з Беларусі, якія даўно ці нядаўна пакінулі Радзіму, — народ Беларусі. Бацькаўшчына заўжды з імі і для іх.



**Акцыя пратэсту 19 кастрычніка 1996 года**

Сучасная фаза фарміравання беларускай дзяржаўнасці акрамя ўнутраных цяжкасцей прыйшлася і на час, калі разгортваюцца працэсы глабалізацыі, што як бы ставіць пад пытанне саму ідэю яе існавання.

Аднак працэсы глабалізацыі не толькі не адмяняюць, але нават і падвышаюць ролю нацыянальнай дзяржавы, як і тэндэнцыі да іх фарміравання там, дзе да таго яны былі немагчымыя. Больш таго, нацыянальнай дзяржаве не прагладаецца альтэрнатывы. Менавіта ўпэўненая ў сабе, дасягнуўшая сталасці дзяржава з'яўляецца месцам фарміравання палітыкі на трох узроўнях — у міжнародных арганізацыях (саюзах і блоках), рэгіянальным (напрыклад, Еўропа ці Лацінская Амерыка) і, нарэшце, на ўзроўні ўласна нацыянальнай дзяржавы. І менавіта яна павінна даць адказы на выклікі звонку — ад іншых урадаў, транснацыянальных карпарацый і г.д.

### Адзінае выйсце — аб'яднанне

Уведзеная ў сучасны кантэкст беларуская нацыянальная ідэя дазваляе як зняць супярэчнасці ў асяродку дэмакратычнай эліты, так і стаць прывабнай для большасці насельніцтва. Здымаюцца супярэчнасці паміж ліберальнай і сацыял-дэмакратычнай канцэпцыямі рэформаў, паміж рускамоўнай і беларускамоўнай яго часткамі, рознымі культурамі і канцэсіямі. Прававы, дзяржаўны прынцып самаідэнтыфікацыі не супрацьстаіць этнічнаму, але прыводзіць іх да кансенсусу. І робіцца зразумелым для кожнага.

У беларускай апазіцыі, уласна кажучы, няма іншага выйсця, як толькі аб'яднанне і кансалідацыя вакол адзінай ідэі, якая дае магчымасць выпрацаваць адзіную стратэгію і тактыку сумесных дзеянняў.

Існаванне гэтага рэжыму, і асабліва выбары палатныя, прэзідэнцкія і мясцовыя паказалі, што ўладная бюракратыя імкнецца закансерваваць сітуацыю, стрымаць усімі сродкамі рост дэмакратычных сілаў, паявлічыць раскол у іх шэрагах, раз'яднаць і перасварыць між сабой. Наменклатура прадэманстравала поўную падтрымку рэжыму. Спадзяванні на ўнутраны пратэст у яе асяродку не апраўдаліся. Адміністрацыйны рэсурс, як выявілася падчас кампаній, быў значна большым, чым можна было меркаваць па перадвыбарчай сітуацыі. Узровень жа расчаравання, незадавальнення рэжымам — значна меншым, чым патрабавалася для перарастання пасіўнага пратэсту (у кабінах для галасавання) у актыўны — на вуліцах і плошчах, што толькі і магло спыніць буйнамаштабныя фальсіфікацыі, нейтралізаваць прапагандыскі накат, паралізаваць бюракратычную машыну.

Толькі аб'яднанне можа дапамагчы дэмакратычнай апазіцыі стаць рэальнай сілай, здольнай уплываць на сітуацыю ў краіне. Толькі аб'яднанне здольнае даць апазіцыі давер шырокіх слаёў грамадскасці. І толькі рэальная кааліцыйная дзейнасць можа забяспечыць павагу да апазіцыі.

І таму менавіта аб'яднання найбольш за ўсё баіцца рэжым, тактыка якога зараз адзначана больш хітрымі і асэнсаванымі захадамі на раскол апазіцыі і ўтварэнне так званай «новай апазіцыі», кантралюемай і кіруемай. Хаця не выключана, што гульня вядзецца больш складаная, што патаемна ў ёй удзельнічаюць і пэўныя сілы з вертыкальнай наменклатуры, якія ў прадчуванні канца рэжыму хацелі б нададзь яму свой накірунак і забяспечыць свой інтарэс.

І таму з аб'яднаннем трэба спяшацца найперш партыям, якія пры ўсіх складанасцях і слабасці найлепш прыстасаваны для арганізаванай дзейнасці, якія ёсць нясучая канструкцыя дэмакратычнай палітычнай сістэмы.

Безумоўна, што найгоршай перашкодай для колькаснага і якаснага росту партый застаецца застарэлы страх насельніцтва падвергнуцца палітычнаму пераследу, адсутнасць стымулаў да ўступлення ў партыі. Пры тых умовах, у якіх даводзіцца працаваць партыям у Беларусі, здзяйсненне варты сам факт іх існавання. Калі ж урэшце яны здолеюць аб'яднацца ў дзеяздольны палітычны саюз, то гэта будзе азначаць дасягненне найпершай перадумовы аб'яднання ўсіх дэмакратычных сілаў, агульнага поспеху новай фазы дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі.

# Апазіцыя — гэта мы

Аксана КОЛБ

**Большая частка гэтага артыкула Аляксея Караля была надрукавана ў газеце «Згода» ў лютым 2006 года, за месяц да яе закрыцця. Штосьці дадалося ўжо пасля. Але, як бачым, тэма, узнятая нашым галоўным рэдактарам, засталася актуальнай і сёння.**

І не толькі таму, што дасюль актуальнае пытанне адзінства апазіцыі і эфектыўнасці яе дзейнасці. Але і таму, што сёння на кожным кроку можна пачуць: «А гэтая апазіцыя ні на што не здольная. Яна павінна сысці, бо нічога дасюль не зрабіла».

У гэтым артыкуле, мне здаецца, пералічаны асноўныя прычыны слабасці палітычных апанентаў улады.

А тым, хто сёння размахвае шашкай і ганьбіць «гэту апазіцыю», я хачу сказаць: спадарства, а хто вы? Ці не тая ж апазіцыя? Кожны з нас, хто не прымае і не падтрымлівае гэты рэжым, незалежна ад таго, знаходзіцца ў Беларусі ці за яе межамі, — ці не апазіцыя? Журналісты, якія не працуюць у дзяржаўных СМІ, — ці не апазіцыя? Грамадскія арганізацыі, якія ў большасці паўсталі дзякуючы падтрымцы тых самых палітычных лідараў, якіх сёння ганьбяць, — ці не апазіцыя? Звычайныя людзі, якія, нягледзячы ні на што, прыходзяць на акцыі — не апазіцыя? Дык каго мы ганьбім?

Няўжо мы лічым апазіцыяй толькі тых, хто, нягледзячы на ўсе пераследы, да гэтага часу застаецца ў шэрагах апазіцыйных дэмакратычных партый? А можа, толькі тых нешматлікіх мужных людзей, якія дасюль пагаджаюцца ўзначальваць партыі, каб хоць нешта рабіць, пакуль астатнія пратэстуюць на кухнях і ў інтэрнэце?

Няма нічога складанага ў тым, каб штурхаць нагамі ляжачага. А менавіта гэта мы робім год ад года, паліваючы брудам «гэту апазіцыю», да якой мы нібыта не маем ніякага дачынення. А ўлада пасміхаецца і прыдумляе новыя спосабы нас раз'яднаць.

Гэта не значыць, што палітычныя лідары — свяшчэнная істота, якую можна толькі праслаўляць і пісаць толькі пазітыў. Але безапеляцыйныя, а галоўнае — нічым не абгрунтаваныя абвінавачванні, ніколі не зменяць нашу краіну да лепшага. Такога падыходу заўсёды прытрымліваўся наш галоўны рэдактар Аляксей Кароль. 29 мая яму б спаўнілася 71 год...

# «Спісы апазіцыі»: рэальнасць і фантастыка

Сяргей ПУЛЬША

**Фактычна тыдзень застаўся да старту кампаніі па выбарах дэпутатаў парламента. Апазіцыя падыходзіць да гэтай падзеі ва ўжо звыклым для сабе стане драбнення. А можа, у гэтым ёсць глыбінны сэнс?**

Ёсць розныя меркаванні наконт таго, як апазіцыі трэба падыходзіць да чарговай электаральнай кампаніі. Большасць палітычных структур ужо заявілі, што будуць у ёй удзельнічаць: з рознымі мэтамі і з надзеяй на розныя вынікі. Хтосьці будзе змагацца за мандаты ўсур'ёз, а хтосьці па-ранейшаму разглядае кампанію як мабілізацыйна-прапагандысцкае мерапрыемства.

Гэта выклікала крытыку і развагі ў стане саміх дэмакратаў. Што лепей: стварыць «адзіны спіс» дэмакратычных кандыдатаў альбо весці кампанію паасобку?

## Адзінства — заўсёды добра?

За «адзіны дэмакратычны спіс» кандыдатаў на парламенцкіх выбарах выступаюць Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў і іншыя арганізатары Кангрэсу дэмакратычных сіл, які прайшоў 15 мая ў скверы Янкі Купалы.



*«Выбараў няма, але ў нас чамусьці ўжо шэсць ці сем спісаў ад апазіцыі,* — абгрунтоўваў сваю пазіцыю Мікалай Статкевіч. — *У нас выбары ў адзін тур па мажарытарнай сістэме, і ад улады будзе толькі адзін кандыдат на кожным участку. Мы прапанавалі схему, як паменшыць шкоду ад гэтага. Адна справа, калі ў нас забіраюць перамогу, і ўсе гэта бачаць. Іншая справа, калі самі крадзем перамогу ў сябе. Мы прапануем выбраць аднаго кандыдата на акругу».*

Ва ўмовах, калі большасць партый не пагаджаюцца на стварэнне адзінага спісу кандыдатаў, Статкевіч прапануе нават «валюнтарысцкае» вызначэнне: «Калі мы да жніўня не выйдзем на адзіны спіс, мы проста возьмем спіс зарэгістраваных кандыдатаў і пачнём выбіраць з іх «адзіных», — казаў ён пасля кангрэсу.

Відаць, так і прыйдзецца зрабіць.




## Без «левага спісу»

Пры існаванні стала дзеючай кааліцыі левых партыяў і рухаў, праца якой разлічана аж да 2020 года, левыя на гэтыя парламенцкія выбары нават агульны спіс кандыдатаў не стварылі.



Як патлумачыў лідар партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін: *«Ва ўмовах, калі выбараў няма, і «паход за мандатамі» — гэта больш фантазія, чым рэальнасць, то наяўнасць большай колькасці кандыдатаў дазваляе вырашаць так званыя «паралельныя» задачы, не звязаныя з заваёваю мандатаў. Гэта прасоўванне вядомасці партый і тых ідэй, якія яны нясуць, атрыманне большай магчымасці для агітацыі і прапаганды, скарыстанне дзяржаўных СМІ, якія пакуль прадстаўляюцца кандыдатам і гэтак далей».*

На сёння ў спісах «Справядлівага свету» 65 патэнцыйных кандыдатаў.

## Асобны БНФ

Партыя БНФ таксама стаіць паасобку. Падаецца, ёй проста надакучыла быць рэсурсам для



іншых «саюзнікаў». Аляксей Янукевіч патлумачыў, што Партыя БНФ апошнія 20 гадоў *«заўсёды дэманстравала гатоўнасць ісці на саступкі, наступаючы на свае інтарэсы на карысць агульных».* Аднак у сённяшняй сітуацыі, лічыць Янукевіч, розным дэмакратычным структурам няма сэнсу фармаваць агульнае пасланне на парламенцкія выбары, бо яно стане «больш расплывістым» у параўнанні з дакументамі, якія распрацоўваюць канкрэтныя суб'екты.

*«Кааліцыі ствараюцца і разваліваюцца. Прапановы аб'яднацца — незразумела, хто з кім і навошта — з'яўляюцца марнаваннем высілкаў і даверу грамадства. Трэба працаваць самім, сваімі сіламі. Тыя ініцыятывы, што цяпер агучваюцца ў якасці прапаноў аб'яднання апазіцыі, відавочна з'яўляюцца недзеяздольнымі»,* — сказаў ён.

Прадстаўляць Партыю БНФ на выбарах будуць больш за 50 кандыдатаў. З'езд партыі па іх вылучэнні павінен адбыцца 23 ліпеня. Прычым, прыярытэтам для кандыдатаў будзе не барацьба за мандаты, а ўмацаванне незалежніцкіх, нацыянальна-арыентаваных настрояў у беларускім грамадстве.

## Самастойная ГП

Кампанія Гавары праўду пасля прэзідэнцкіх выбараў таксама стаіць паасобку. Яе не клічуць у блокі ды аб'яднанні. Але, калі нават паклікалі б, то ніхто б і не пагадзіўся, тлумачыць лідар ГП Таццяна Караткевіч.



На пытанне пра ўваходжанне ў гіпатэтычны «адзіны спіс» Таццяна Караткевіч адзначыла: *«Гэта немагчыма». «Заўсёды ёсць пытанні, ці зарэгіструюць іх, ці збяруць яны подпісы, ці будуць яны праводзіць паўнавартасную кампанію»,* — кажа яна. А менавіта на паўнавартасны ўдзел у выбарах і барацьбу за мандаты настроеная ГП.

**Практыка прэзідэнцкіх выбараў паказала, што народ чакае альтэрнатывы. Ён чакае прапаноў — добрых і розных**

*«Людзям цікава паслухаць розныя думкі аб эканоміцы і падатках, аб адукацыі і медыцыне. Ім не хапае рознагалосся! Таму, хутчэй, на месцах мы будзем каардынавацца з дэмакратычнымі прэтэндэнтамі, каб разам праводзіць мерапрыемствы, якія выклічуць большую цікавасць у насельніцтва. Можа быць, сумесна арганізаваць назіранне на ўчастках»,* — заўважае Караткевіч.

*«Мы не ставім задачы штучнага аб'яднання. Сёння мала сказаць, што мы левая кааліцыя альбо правая. Гэта трэба пацвярджаць агульнай стратэгіяй, зразумелай для людзей. Мы будзем каапеpавацца з усімі дэмакратычнымі палітычнымі партыямі і рухамі, калі ў іх ёсць такое жаданне, на аснове нейкіх альтэрнатыўных ідэй. Такая кааперацыя — найбольш эфектыўная»,* — лічыць яна.

Каля 40 сябраў ГП гатовыя пазмагацца за дэпутацкія мандаты.

## Права руля!

Найбольш прадстаўніча выглядае зараз правацэнтрысцкая кааліцыя, у якую ўваходзяць Рух «За свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя і аргкамітэт па стварэнні БХД. Яны плануюць вылучыць 93 кандыдаты ў дэпутаты. То бок, закрыць фактычна ўсю краіну.

Прадстаўнік кааліцыі, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч патлумачыў, што дзеянні правацэнтрысцкай кааліцыі, як і іншых палітсілаў, зараз узгадняюцца ў межах стала дзеючай кансультацыйнай нарады дэмакратычных партый і арганізацый. І ён не хвалюецца за «размыванне дэмакратычнага электарату».

*«Мы дамовіліся, што кожная арганізацыя — удзельнік гэтай нарады, прадставіць свае спісы патэнцыйных кандыдатаў у дэ-*



*путаты. Мы дамовіліся надалей узгадняць гэтыя спісы, недзе, магчыма, вызначым найбольш «перспектыўных» кандыдатаў, менш перспектыўныя здымуцца на іх карысць. Там, дзе моцных кандыдатаў будзе некалькі, мы дамаўляемся пра каардынацыю дзеянняў: супольна праводзіць збор подпісаў і агітацыю, супольна падаваць заяўкі на дэбаты, супольна праводзіць пікеты»,* — паведаміў Губарэвіч.

## Толькі арыфметыка

Калі палічыць заяўленую колькасць магчымых апазіцыйных кандыдатаў, то іх, па папярэдніх падліках, атрымліваецца каля 250 чалавек на 110 месцаў у парламенце. Як паведаміў той жа Губарэвіч, у папярэдне прадстаўленых для ўзгаднення спісах патэнцыйных кандыдатаў у Каардынацыйную раду дэмарганізацый, агулам налічвалася 273 патэнцыйных кандыдаты ў дэпутаты.

З далейшай "карэкцыяй спісаў" атрымаецца ў сярэднім два дэмакратычных кандыдаты на акругу. Лічыце, што адзін кандыдат і адзін «дублёр» на выпадак, калі першага не зарэгіструюць. І яшчэ пэўная колькасць — ад 30 да 50 чалавек — «для падстрахоўкі».

Улічым яшчэ і тое, што па ўмовах збору подпісаў (лета, спёка, адпачынкі) парламенцкая кампанія няшмат у чым будзе адрозніваецца ад мінулагодняй прэзідэнцкай. Таму, нягледзячы на значна ніжэйшую «квоту па подпісах» за кандыдатаў у парламент, праца па іх вылучэнні будзе такой жа складанай, як і год таму. Колькі прэтэндэнтаў адсеюцца на гэтым этапе?

Канешне, многія пойдуць простым шляхам: вылучаць кандыдатаў на партыйных з'ездах. Але, дзеля большай эфектыўнасці, варта было б і на першым этапе пахадзіць па кватэрах і пастаяць у пікетах. Хаця б так, каб выбарцы заўважылі альтэрнатыву. І больш разумелі, у чым яна.

Такім чынам, насамрэч, *«шэсць ці сем разнастайных апазіцыйных спісаў»* выліваюцца ў вельмі нешматлікае прадстаўніцтва дэмсіл на выбарах. Шляхам «адсеву» падчас збору подпісаў і рэгістрацыі можа стацца так, як у прэзідэнцкай кампаніі: калі мы атрымаем дэ-факта аднаго дэмакрата на акругу.

Дык ці варта спрачацца, ёсць «адзіны спіс» у апазіцыі ці яго няма? А можа, пры такой колькасці жадаючых пазмагацца на парламенцкіх выбарах і не варта яго фармаваць, ён сам сабой зробіцца? Асабліва з улікам таго, што шмат хто дэкларуе: гэтая кампанія для іх таксама будзе больш «мабілізацыйна-прапагандысцкай», чым выбарчай.

І сапраўды, практыка прэзідэнцкіх выбараў паказала, што народ чакае альтэрнатывы. Ён чакае прапаноў — добрых і розных. І адначасова тыя ж выбары канстатавалі: калі апазіцыя, замест таго, каб заняцца справаю, загразае ў міжсабойных спрэчках, у яе не атрымліваецца ні выбарчай, ні прапагандысцкай, ні піяраўскай кампаніі.

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

# Улада разлічвае на новую дамову з народам

**Чарговы ўсебеларускі сход патрэбны ўладзе, каб атрымаць яшчэ адзін мандат усёдазволенасці на чарговы пяцігадовы тэрмін. Пытанне ў тым, як яна ім скарыстаецца?**

Абяцаны пяты Усебеларускі народны сход пройдзе ў Мінску 22–23 чэрвеня. Папярэдні, па традыцыі, збіраўся ў 2010 годзе перад прэзідэнцкімі выбарамі, каб умацаваць пазіцыі дзейнага кіраўніка Беларусі. Але чаму цяперашні сход праводзіцца тады, калі «элегантная перамога» ўжо адбылася і «ўнікальнай беларускай мадэлі» нічога не пагражае?

### «Вось ужо 20 гадоў, кожныя пяць гадоў, мы з сябрамі…»

У канстытуцыі такі орган, як Усебеларускі сход, наогул не згадваецца. Але магчымасць склікання «рэспубліканскага сходу» замацаваная ў Законе «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах». У адпаведнасці з ім, рашэнні прымае простая большасць адкрытым галасаваннем. Выніковая рэзалюцыя накіроўваецца кіраўніку дзяржавы, які прымае рашэнне па пытаннях, што ўваходзяць непасрэдна ў яго кампетэнцыю.

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №164 «Аб скліканні пятага Усебеларускага народнага сходу» 3 мая. Прэс-служба правадыра паспяшалася паведаміць, што «рашэнне аб правядзенні пятага Усебеларускага народнага сходу кіраўнік дзяржавы прыняў у мэтах рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян удзельнічаць у абмеркаванні пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця». Паводле той жа версіі, на абмеркаванне будуць вынесеныя пытанні пра вынікі рэалізацыі Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады і пра асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016–2020 гады.

Усе папярэднія сходы традыцыйна праходзілі перад прэзідэнцкімі выбарамі, робячыся грандыёзнай прапагандысцкай акцыяй. Зараз жа выбары кіраўніка краіны ўжо не актуальныя, наперадзе больш за чатыры гады спакойнага кіравання, адносіны з Еўропай роўныя, апазіцыя слабая, радыкальных эканамічных рэформаў не прадбачыцца, пра што было выразна сказана ў красавіцкім пасланні. Дзеля чаго сход збіраць?

### Памяняць грамадскую дамову

Аналітыкі кажуць пра сход як пра прапагандысцкую акцыю, сенсацый ад якой чакаць не варта. Аднак ёсць думка, што якраз цяперашні — пяты — Усебеларускі народны сход будзе напоўнены глыбокім сэнсам. Без жартаў. У гэтым плане з ім, пэўна, зможа параўнацца толькі другі сход (2001 года). Чаму? Калі ўзгадаць, як усё было тады, пачытаць матэрыялы першых трох сходаў (1996-га, 2001-га, 2006-га), то становіцца зразумелым: менавіта ў 2001 годзе была «ратыфікаваная» агучаная ў 1999-м і дзейная амаль паўтара дзясяткі гадоў грамадская дамова. Тая самая «чарка і шкварка», сутнасць якой у тым, што ўлада забяспечвае электарату нейкі мінімум дабрабыту («чарка, шкварка, іншамарка»), а ў адказ грамадзяне краіны не цікавяцца палітыкай. Пасыл быў просты: «Уладу не трэба нават дэманстратыўна падтрымліваць, для гэтага ёсць адмысловa арганізаваныя людзі. Проста заставайцеся ўбаку ад палітыкі — і будзеце сытымі».



**З 2014-га пачалося ўсведамленне таго, што «чарка і шкварка» як грамадская дамова канчаткова спарахнелі**

У поўнай ступені выкарыстоўваючы эканамічную добразычлівасць Расіі, дзяржава па ўсёй беларускай сацыяльнай пірамідзе аднавіла савецкую размеркавальную мадэль. Інакш кажучы, улада замкнула на сабе рэнтныя плыні — і часткова накіравала іх на задавальненне запытаў грамадства («усім па $500»). Плаціць грамадству за гэта давялося тым, што было на гады затрыманае развіццё гарызантальных сацыяльных сувязяў — з апорай на механізм рэпутацый, давер унутры сацыяльных груп і паміж імі, прыватную дабрачыннасць, валанцёрства і г. д. Развіццё недзяржаўных механізмаў рашэння праблем у розных сферах — ад пошуку зніклых людзей да дапамогі дзецям і старым — замарудзілася. Калі грамадства нарэшце пачало спраўляцца з цяжкасцямі самаарганізацыі, такім праектам давялося ўбудоўвацца ў палітычную сістэму, у якой не было паветра.

Але ў 2014 годзе пакрысе пачалося ўсведамленне таго, што «чарка і шкварка» як грамадская дамова канчаткова спарахнелі. Ранейшая рэсурсавая падтрымка з боку Расіі спынілася, а расійскі рынак для беларускіх тавараў «здзьмуўся». Пры гэтым у самой Расіі грамадскую дамову (трохі іншую, але падобную) Крэмль аператыўна «перападпісаў». Там з вясны 2014-га дзяржава прапаноўвае ў абмен на лаяльнасць ужо не рост дабрабыту, а адчуванне прыналежнасці да «ўстаючай з каленяў вялікай дзяржавы». Гэта настолькі моцная эмоцыя, што ў адказ дзяржава зараз патрабуе ад насельніцтва Расіі не толькі лаяльнасці, але і гатоўнасці да самаабмежавання.

Беларускія ўлады да апошняга моманту не жадалі перапісваць грамадскую дамову. Змушаная спроба была зробленая падчас прэзідэнцкіх выбараў, калі на змену лозунгам аб «квітнеючай Беларусі» (якія выклікалі толькі журботны смех) прыйшлі развагі на тэму «добра, што няма вайны» (сапраўды актуальныя на фоне ўкраінскіх падзей). Але тады справу да канца не давялі — і, перaабраўшыся, Лукашэнка працягнуў разважаць аб тым, што існуючая мадэль добрая, толькі патрабуецца яе «далейшае ўдасканаленне».

### З чым пагодзіцца грамадства?

Каб канчаткова ўсталяваць новую грамадскую дамову, уласна, і збіраецца пяты Усебеларускі народны сход. Але ў якой форме ўсё гэта пачуе цяперашняя тусоўка даярак, чыноўнікаў і ветэранаў працы?

Найперш кіраўніку Беларусі давядзецца «з цяжкім сэрцам прызнаць», што ў эканоміцы ўсё дрэнна. На самай справе, Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) пагоршыў прагноз падзення ВУП Беларусі на бягучы год, і абяцае нашай краіне працяг рэцэсіі. Іншыя фінансавыя структуры гэты прагноз таксама пацвярджаюць.

Зразумела, што мы пачуем знаёмыя выказванні ў стылі «мы не вінаватыя», «у свеце ўсё дрэнна», «Расія нас крыўдзіць», «трэба зацягнуць паясы і працаваць-працаваць-працаваць», «затое дзяржава вам забяспечыць мірнае неба над галавой». Дзве апошнія сентэнцыі — гэта і ёсць фармулёўка новай грамадскай дамовы: «Грамадзяне зацягваюць паясы і працуюць, улада захоўвае мір у краіне. Інакш і апошняе страціце».

Але ёсць і іншы, менш верагодны варыянт. Сутнасцю новай грамадскай дамовы можа стаць трансфармацыя цяперашняга дзяржкапіталізму ў канкурэнтную эканоміку ў межах аўтарытарнага рэжыму. Яе пабудова запатрабуе, па-першае, маштабнай і збольшага прымусовай прыватызацыі, вынікам якой стане не столькі папаўненне казны, колькі пераход актываў у рукі праверaных і абраных прадстаўнікоў партыі ўлады. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы паспрабуе павялічыць колькасць не звязаных паміж сабой груп уласнікаў, не забываючы надзяляць выгодамі рэгіянальныя эліты. Правіла простае: той, хто фактычна кантралюе нейкі актыў, у абавязковым парадку выкупляе яго ў дзяржавы з усімі абцяжарваннямі — або губляе кантроль.

Такі падыход дазволіць павялічыць колькасць эканамічных гульцоў першага эшалона прынамсі на парадак. Замест дзясяткаў «сяброў» павінны будуць з'явіцца сотні постацяў меншага маштабу — каб ніводная з іх не мела ані найўпростага «доступу да цела», ані вагі, дастатковай для эканамічнага шантажу. Сярод гульцоў-уласнікаў, колькасць якіх рэзка ўзрасце, давядзецца падтрымліваць жорсткую канкурэнцыю. Усё гэта будзе суправаджацца амаладжэннем кадравага складу ўлады найперш у рэгіёнах, з захаваннем поўнай пераемнасці адносін па вертыкалі, а таксама поўнай лаяльнасці.

### Па шляху Азербайджана

Дзеючая ўлада патэнцыйна гатовая да рэалізацыі такога праекту, паколькі ён захавае і ўмацуе яе выключнае становішча і забяспечыць перадачу ўлады па прыкладзе азербайджанскай сям'і Аліевых. Унутраная канкурэнцыя не выкліча пратэсту, паколькі ёй будзе папярэднічаць прыватызацыя дзяржактываў. У выніку першая асоба і вертыкаль выканаўчай улады, захоўваючы за сабой поўную свабоду дзеянняў па кантролі, прадстаўленні і канфіскацыі ўласнасці, атрымліваюць самарэгулюючую канкурэнтную сістэму. У гэтай сістэме новыя ўласнікі забяспечваюць эфектыўнасць эканомікі і прыносяць прыбытак, але пры гэтым усведамляюць залежнасць свайго статусу як ад эфектыўнасці, так і ад лаяльнасці. А значыць, клопат пра захаванне лаяльнасці электарату кладзецца ўжо на іх плечы.

Аднак, якім бы ні апынулася тое, што будзе агучана 22–23 чэрвеня ў Мінску, трэба памятаць: любая грамадская дамова дзейнічае роўна да таго часу, пакуль не з'явіцца новы гулец, здольны прапанаваць грамадству кантракт, які задавальняе яго ў большай ступені.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (117)
(травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# «Пяцісотгоднасць»: юбілей беларускага кнігадруку

**...Не трэба быць празорцам, каб ужо і сёння ўгадаць, як адбудзецца святкаванне юбілею беларускай кніжнасці ў 2017 годзе: пройдзе некалькі канферэнцый ва ўніверсітэтах і акадэмічных інстытуцыях, дзе абавязкова і ў чарговы раз задумаюцца, Францішкам ці Георгіем быў Скарына, на старабеларускай ці на царкоўнаславянскай выдаў ён свой пераклад Біблії; на тэлебачанні пройдзе на гэтую тэму чарговае ток-шоў з удзелам ідэалагічных культуртрэгераў, будзе адзначаны ўсеславянскі характар скарынаўскай дзейнасці; Нацыянальная бібліятэка прэзентуе факсімільнае выданне кніг Скарыны, прафундаванае банкірамі — няважна, што купіць яго будзе нерэальна; згадаюць разок палачаніна і ў школе на ўроку — але дзеткі разам з бацькамі забудуць адсвяткаваць 6 жніўня 2017 года, бо ў іх будуць больш важныя канікулярныя справы, звязаныя з каляндарна-палявымі работамі.**




Менавіта каб свята кніжнасці не было забалбатанае й зажаванае, культурніцкія арганізацыі Саюз беларускіх пісьменнікаў і ЗБС «Бацькаўшчына» заснавалі кампанію «Пяцісотгоднасць», афіцыйны пачатак якой быў абвешчаны ў сталічным Палацы мастацтва напярэдадні праваслаўнага Вялікадня, нібы й той, хто быў укрыжаваны, мусіў разам з беларускай культурай на наступным тыдні ўваскрэснуць.

Калідорамі Палаца мастацтваў, быццам у палестынскіх выдмах, гуляў холад, пераадолець які дапамагала музыка. Аляксандр Віслаўскі, колішні ўдзельнік ансамбля «Песняры» і гурта Rouble Zone, сабраў сваіх сяброў па STUDIO NEMAN і вельмі энергічнай праграмай «Маленне за Беларусь» на вершы Рыгора Барадуліна грэў сэрцы і далоні слухачоў.

Выступіць на адкрыцці кампаніі сабраліся кіраўнікі творчых і грамадскіх арганізацый, пісьменнікі і перакладчыкі, рэлігійныя дзеячы і кнігазнаўцы.

«Было шмат пытанняў: чаму? навошта? — прызнаўся старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Сачанка. — Мне згадалася нядаўняе мінулае. У гэта цяжка паверыць, але ў падручніках, па якіх вучыўся я і шмат хто яшчэ, распавядалася падрабязна, хто такі Іван Фёдараў, і амаль нічога не казалася пра Францішка Скарыну. Было шмат старонак прысвечана «Лядоваму пабоішчу» і нават не згадвалася Грунвальдская бітва. Афіцыйна беларускія даты ніяк не адзначаліся, замоўчваліся. Гэтаксама нядаўна было фактычна замоўчанае 600-годдзе Грунвальда, 500-годдзе Аршанскай бітвы, 200-годдзе з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, юбілеі Танка, Куляшова, ці як ціха сёлета, у год, абвешчаны Годам культуры, прайшлі юбілеі Мележа, Шамякіна, Мулявіна. Гэта і ёсць адказ, чаму Саюз беларускіх пісьменнікаў і ЗБС «Бацькаўшчына» вырашылі звярнуць увагу на гэтую вялікую для ўсёй краіны дату. Мы хацелі, каб гэтае свята беларускай культуры ўвайшло ў кожны дом, каб беларусы ганарыліся тым, што яны былі і ёсць вялікай еўрапейскай нацыяй, якая адной з першых займела друкаваную кнігу, займела пераклад Біблії на родную мову».

Алена Макоўская, кіраўнік Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», распавяла, што «кампанія «Пяцісотгоднасць» — не толькі пра першую кнігу, не толькі пра яе друкара Францішка Скарыну, а пра ўвесь пяцісотгадовы шлях беларускай кнігі і пра тых людзей, якія спрычыняліся і спрычыняюцца да гэтага нялёгкага працэсу: гэта і пісьменнікі, і рэдактары, і карэктары, выдаўцы і мастакі, інжынеры і тэхнолагі, якія распрацоўваюць друкарскі рыштунак. Кампанія мае на мэце папулярызацыю беларускай культуры праз уздым цікавасці да беларускай кнігі... Вядома, мы зацікаўленыя, каб грамадскія арганізацыі далучаліся да нашай кампаніі і ўводзілі свае прапановы. Вынік будзе тады, калі мы ўздымем прэстыж беларускай кнігі».

Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў павярнуў настрой залы ў аптымістычны бок. У святле неабвержных фактаў Уладзімір Аляксеевіч паўгадзіны распавядаў пра свой родны Полацак, гісторыю беларускай кніжнасці і культуры Вялікага Княства. І, вядома, пра залатое XVI стагоддзе.

Чаму менавіта Скарына стаў нашым першадрукаром? Тут была глыбокая гістарычная логіка. Так сталася, што ад Полацка пачаўся беларускі нацыянальны космас. Гэта была сталіца нашай першай старажытнай дзяржавы. Гэта быў горад першага асветніка ўсходніх славян Ізяслава, сына Рагнеды, які ўвёў пісьменства і навуку ў абавязковы ўжытак. Гэта быў горад Ефрасінні Полацкай. Гэта быў горад, які ў часы Скарыны сваім багаццем, сваім культурным патэнцыялам пераўзыходзіў Вільню, меў 12 манастыроў, 18 храмаў. Палачанін Мацей Дзясяты — найлепшы каліграф Вялікага Княства — за дзесяць гадоў да выхаду нашай першай друкаванай кнігі скончыў у Полацку тытанічную працу па перапісванні першага ў нашай дзяржаве поўнага збору біблійных кніг. Праца Мацея Дзясятага была аздобленая выдатнымі рэнесанснымі мініяцюрамі. Гэтую працу ведаў і цаніў Францішак Скарына. Але, напэўна, гартаючы старонкі, перапісаныя Мацеем Дзясятым, Скарына ўжо бачыў друкаваную беларускую Біблію і марыў пра тое, што справа пашырэння Біблії будзе працягнутая на новым тэхнічным узроўні.

**Беларусы — адны з першых народаў, якія надрукавалі святое пісьмо на роднай мове, за восем гадоў да англічан**

Біблія Скарыны выйшла раней за Біблію Марціна Лютэра, за французскія і англійскія пераклады, польскія і літоўскія, раней на 47 гадоў за першую расійскую друкаваную кнігу «Апостал». «Беларусы — адны з першых народаў, якія надрукавалі святое пісьмо на роднай мове, за восем гадоў да англічан. Можна ўявіць, кім беларусы былі б цяпер, калі б праслед і ўціск з боку ўсходняга суседа не прывялі іх да занепаду», — пісаў на пачатку XX стагоддзя ў сваёй справаздачы агент Брытанскага біблійнага таварыства Ўайзман, пазнаёміўшыся з выданнямі Скарыны ў Вільні...

Пра Біблію і старажытную кніжнасць было ў гэты вечар сказана нямала. Загадчык аддзела стрададрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі, намеснік старшыні Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Валер Герасімаў заўважыў, што беларуская зямля мае столькі асветнікаў, што «можна ў кожным беларускім горадзе ўсталёўваць помнікі нашым беларускім кнігам — і Семяновіча, і Скарыны, і Кірылы Тураўскага». Перакладчык Лявон Баршчэўскі апісаў гісторыю біблійных перакладаў, незабыўным голасам зачытаўшы колькі ўрыўкаў са старажытнагрэцкай «Сэптуагінты» з паралельным аналізам беларускіх перакладаў XX стагоддзя: Янкі Станкевіча, Дзекуць-Малея, экзархатаўскай Біблійнай камісіі. Зрэшты, не толькі XX стагоддзя, але і XXI стагоддзя — бо адным з найважнейшых выступоўцаў на адкрыцці кампаніі «Пяцісотгоднасць» быў пастар і перакладчык Антоній Бокун, які зусім нядаўна лікам 10 000 асобнікаў выдаў новы пераклад Новага Запавету з мовы арыгіналу.

Вечарына скончылася канцэртам STUDIO NEMAN і Аляксандра Віслаўскага. Але кампанія «Пяцісотгоднасць» толькі пачынаецца. Запланавана шмат мерапрыемстваў для шырокай публікі і сродкаў масавай інфармацыі. Усіх, хто ганарыцца нашай гісторыяй і культурай, Саюз беларускіх пісьменнікаў і «Бацькаўшчына» заклікаюць далучыцца да кампаніі «Пяцісотгоднасць». Вы можаце размясціць банеры, прысвечаныя славутай даце, на сваіх інтэрнэт-рэсурсах; правесці культурна-асветніцкія акцыі; брэндзіраваць сваю прадукцыю.

Нашы героі — друкары, пісьменнікі, мастакі, мецэнаты, перакладчыкі, асветнікі — прадаўжальнікі справы Францішка Скарыны, вартыя таго і чакаюць вашай увагі.

**Ціхан Чарнякевіч**




# Апошняя кніга Барыса Сачанкі

**У выдавецтве «Кнігазбор» у Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшла пасмяротная кніга Барыса Іванавіча Сачанкі «Пад сузор'ем сярпа і молата». 15 мая вядомаму пісьменніку магло б споўніцца 80 гадоў...**

Нячаста здараецца такое, што пасля смерці прыкметнага аўтара праходзяць дзясяткі гадоў, і раптам з'яўляецца яго невядомая кніга. Тым не менш, з празаікам, гісторыкам, галоўным рэдактарам «Беларускай Энцыклапедыі» Барысам Сачанкам здарылася менавіта так: сваю апошнюю кнігу «Пад сузор'ем сярпа і молата» ён паспеў здаць у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Кніга не задумвалася як развітальная, наадварот, Б. Сачанка быў поўны планаў на будучыню, аднак раптоўная смерць перакрэсліла іх. У выдавецтве таксама пачаліся незразумелыя затрымкі з выхадам кніг. Урэшце, праляжаўшы дзесяць гадоў «на складзе», рукапіс кнігі вярнуўся ў сям'ю Б. Сачанкі, да ягонай дачкі Галіны...

**Архівы сталінскага тэрору зноў надоўга зачыніліся, эміграцыйная літаратура не выдаецца дзяржавай, а таму чытанне апошняй кнігі Барыса Сачанкі прынясе немалую асалоду**

Кніга змяшчае тэксты, напісаныя Б. Сачанкам у апошнія гады жыцця. Адкрывае зборнік аўтабіяграфічная аповесць «Засталіся толькі ўспаміны...» – пра ваеннае дзяцінства ў вёсцы Вялікі Бор, паўсядзённае жыццё на акупаванай тэрыторыі, а пасля спаленне вёскі і высылку насельніцтва на працы ў Германію. Гэта, зрэшты, і адзіны дастаткова аб'ёмны тэкст у зборніку. Асноўная частка кнігі – мемуарныя нататкі і літаратурныя запісы з часоў працы Б. Сачанкі ў рэдакцыі часопіса «Полымя» (1960–1976), узгадкі пра выдатных пісьменнікаў і цяжкі ход рэбілітацыі рэпрэсаваных, які распачаўся пасля XX з'езда КПСС і выкрыцця культу асобы Сталіна.

Рэабілітаваныя становяцца героямі не толькі кароткіх мемуарных мініяцюр, але і цэлых нарысаў, напісаных ужо не толькі на аснове асабістага знаёмства з імі і іх сваякамі, але перш за ўсё дзякуючы працы ў архівах, што наноў адкрыліся толькі напрыканцы 1980-х, у час гарбачоўскай перабудовы і новай, значна больш маштабнай хвалі рэабілітацыі ахвяраў сталінскага тэрору.

Адной з грунтоўна прапрацаваных Б. Сачанкам тэм была літаратура паваеннай беларускай эміграцыі – ёй у апошняй кнізе пісьменніка прысвечана шмат старонак з публікацыяй малавядомых фактаў біяграфіі ўдзельнікаў літаратурнага руху на выгнанні, іх лістоў і нават некаторых твораў.

Б. Сачанка быў вядомы і як заўзяты бібліяфіл, і аповеды пра здабыццё рэдкіх беларускіх выданняў будуць дарагія сучасным збіральнікам кніг. Свае блуканні па кнігарнях Б. Сачанка апісвае не толькі на аснове беларускіх рэалій: у травелогу «Восень у Парыжы» пра свой побыт у французскай сталіцы беларускі літаратар піша і пра знакамітых букіністаў на ўзбярэжжы Сены, і пра антыкварныя парыжскія крамы.

Артыкулы, эсэ, дзённікавыя запісы, мініяцюры Б. Сачанкі, сабраныя ў кнізе «Пад сузор'ем сярпа і молата», друкаваліся ў часопісах «Крыніца», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ». На той бурлівы час пачатку 1990-х яны былі надзвычай прыкметныя, бо змяшчалі невядомыя факты з беларускай гісторыі, у тым ліку і перш за ўсё – гісторыі беларускай літаратуры. З упэўненасцю можна сказаць, што гэтыя факты і цяпер недастаткова засвоеныя і ўсім даступныя. Архівы сталінскага тэрору зноў надоўга зачыніліся, эміграцыйная літаратура па-ранейшаму не выдаецца дзяржавай, а таму чытанне апошняй, насычанай фактамі, кнігі Барыса Сачанкі прынясе немалую асалоду і даследчыку-літаратуразнаўцу, і гісторыку, і ўрэшце кожнаму, хто цікавіцца літаратурай.

**Ціхан Чарнякевіч**

# Забраны на ўзлёце

**Сціслая і сухая біяграфія чалавека. А сама паэзія жыве па-за кантэкстам нашых гаворак пра яе і выжывае незалежна ад нашага стаўлення (ведання-няведання, успрымання-адмаўлення).**



Цікавы ў гэтым сэнсе творчы вопыт паэта Анатоля Сербантовіча, у якога ёсць тры-чатыры вершы, якія, на мой погляд, будуць жыць у беларускай паэзіі незалежна ад зменлівасці часу. Як, скажам, і гэтыя радкі, дакладна прадбачаныя ім адносна ўласнага паэтычнага лёсу:

*Так стараўся, што думалі*
*трэсне...*
*Нечакана прыціх і замоўк.*
*Падавіўся уласнаю песняй*
*І павесіў на песню замок.*
*А над песняю той, недапетай,*
*Прагудзела труба жураўля:*
*«Тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам,*
*Маладым забірае зямля».*

І напраўду, пайшоў ад нас двaццацідзевяцігадовым. А вось як спрабаваў ён вызначыць яшчэ адну збітую, спадарожную паэзіі тэму — славы і нябыту. Творчыя людзі спрадвеку прэтэндавалі калі не на прыжыццёвую, то хоць бы на пасмяротную ўхвалу. З майго пункту погляду, гэта заканамерныя прэтэнзіі ўзамен на выпакутаваную мастацкую гармонію жыцця.




*Дабрыдзень, слава!*
*Што ж маўчыш?*
*Ці у мяне не тыя песні,*
*Ці мне той груз не па плячы,*
*Які раней паэты неслі?..*
*Няўжо, скажы, і я не той,*
*Няўжо я з тых, якіх так многа?..*
*Ківае слава галавой*
*І не гаворыць мне нічога.*

Кожную Радаўніцу я бываю на Усходніх могілках. Так многа камення і шэрых плітаў згрудзілася, як напаказ, у «чырвоным кутку» гэтага прэстыжнага для чалавечай смерці месца! Але прайшоўшы далей, углыб замагілля, наўзбоч ад шэра-забранзавелых паставаў Броўкі і Глебкі, нечакана натыкаешся вачыма на прыземлены малапрыкметны прыдарожны камень з няроўна высечанымі на ім словамі:

*Не думайце з трывогаю*
*пра вечнасць,*
*Забудзьце пра хвіліны забыцця:*
*Складаецца з трагедый чалавечых*
*Вялікая трагедыя жыцця.*

Чатыры драўляныя слупкі абапал груда ўжо згнілі, іх прыбралі разам з жалезным ланцугом, што правісаў між імі па ўсім перыметры магілы. Аднак, як ні дзіўна, страта ланцуга не парушала ранейшага самотнага ўражання ад апошняга прыстанку пахаванага тут чалавека, а ўсяго толькі нейкім чынам далучала яго да нашага, «незалежнага» ад нас, часу...

Свежы букецік кветак на дагледжаным грудку падказваў, што сёння тут ужо адзначылася сваёй помнай прыветнасцю светлая жаночая душа...

Мудрыя філосафы пішуць, што разам з людзьмі адыходзіць, закрываецца цёмным векам смерці і ўвесь унутраны свет іх зямнога жыцця. Праўда, паэты тут маюць пэўнае выключэнне. Анатоль Сербантовіч сярод іх — творца таемны, найбольш вядомы сярод саміх паэтаў. Не класік па разнарадцы, але талент глыбокі і адмысловы. Шчырасць і сумленне насіў ён у сваім сэрцы, як неад'емныя вярыгі свайго часу. З такой ношай да старасці не даходзяць. Але пакідаюць свой адметны след дзеля наступнікаў...

Паэты падчас вельмі наіўныя і ранімыя людзі. Іх унутраны свет заўжды кантрастны адносна свету вонкавага. І ўся трагедыя іх кароткіх зямных жыццяў у немагчымасці дарэшты згарманізаваць духоўную і метафізічную сутнасць гэтых двух паралельных светаў. Бо ўласны і непарушны светапогляд даецца толькі абраным. У астатніх жа — ён пераменлівы і залежны ад абставін як уласнага жыцця, так і грамадска-палітычных калізій пэўнага часу. У яго была здаровая чыстапародная натура, празмерна эмацыйны, яршысты і задзірысты характар, праз што нярэдка здараліся канфліктныя сітуацыі нават з вядомымі ў літаратуры людзьмі (да прыкладу, аднойчы ён прылюдна спаліў кніжку П. Броўкі, за якую той быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй).

Чалавек, які прайшоў з азбукай жыцця на вуснах праз міннае поле, варты заручальнага пярсцёнка нашай любові і памяці... Не ведаў яго, а ўспамінаю як жывога. Бы жаваранак у зеніце, звініць ён мне лепшымі сваімі песнямі. У кожнага, нават вялікага паэта не так шмат помных радкоў, якія ў пэўны час прамаўляюцца намі, як запаветныя малітвы... Не так многа іх і ў яго. Але ёсць.

*Неба зорнаю кнігаю,*
*Дрэва шэрага клін.*
*Плачуць ціхія кнігаўкі.*
*Я не знаю — па кім.*
*Плач лунае, як мільгаўка,*
*І пакуль прамільгне,*
*Мне здаецца,*
*што кнігаўкі*
*Плачуць толькі па мне...*

Думаецца: ён «не самотны». Не, не таму, што «кнігу мае», а найперш таму, што мае свайго чытача. Насуперак усяму. І — праз дзесяць гадоў, і праз трыццаць, і праз сорак пяць... Пры жыцці ён не любіў і цураўся ўсякай юбілейшчыны. Можа таму, што не дажыў ні да аднаго свайго юбілею? Магчыма. І ўсё ж нам варта прыслухацца да яго молада-бунтоўных, але вельмі трапных слоў:

*Парой і ў сто гадоў зарана*
*За славай велічна брысці,*
*А намі ўзводзяцца старанна*
*Вам маўзалеі пры жыцці...*
*І я стаю, нібыта хмара,*
*І не магу маўчаць, калі*
*Вы, дарагія юбіляры,*
*Саміх сябе перажылі!*

Пра сваё жыццё і бытаванне ён разважаў па-філасофску. Тужліва-самотным, самаіранічным было яго стаўленне і да ўласнай творчасці. Проста ён хацеў застацца ў нашай памяці такім, як быў — паэтам і чалавекам. У адной іпастасі. Ненавязлівым і не лішнім... Хоць тое яму ўяўлялася ў экзістэнцыяльным ракурсе:

*І як я мог, і дзе згубіўся —*
*Няўжо нікога не кране?*
*Я не ўтапіўся, не разбіўся.*
*...Няма мяне... Няма мяне...*
*Няма ні тут, ні там, за дымкай.*
*Няма ў дзвярах, няма ў акне.*
*Няма мяне ў тваіх абдымках.*
*Няма мяне... Няма мяне.*
*І толькі там, пазней, з палёгкай*
*У сне, што прыйдзе незнарок,*
*Убачыш, як душа далёка*
*Да зор ляціць, як матылёк.*

Усё так, усё так... І нешта не гэтак... Адчувальна не хапае сённяшняй літаратуры Анатоля Сербантовіча і такіх, як ён. Іх творчага і жыццёвага напору, самааддаласці і духоўнай чысціні помыслаў. Зрэшты вышэйшая Прырода ведае, каго з нас дзе не хапае — на зямлі і на небе... Як пісаў пра паэта С. Кавалёў: «Ён не пражыў і трыццаці гадоў, пісаў і ўвогуле толькі дзесяць. Глыток жыцця, празрысты і свежы, і — смерць. Якая нікога не пашкадуе, нікога не выбірае і не глядзіць нават на тое, што ты зусім малады, што ты — паэт і не ўсё яшчэ сказаў з таго, што хацеў і мог. Але тое, што нарадзілася, што гарэла і білася ў душы Паэта, — ніколі не згасне, не сыдзе ў нябыт».

Хацелася б верыць.

**Леанід Галубовіч**

# Каляндар жыцця Уладзіслава Паўлюкоўскага

**Год таму — у траўні 2015-га — споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, этнографа, краязнаўца і мастака Уладзіслава Паўлюкоўскага (1895–1955). На вялікі жаль, пра гэты юбілей таленавітага беларуса амаль ніхто не згадаў.**

Літаратурная спадчына Уладзіслава Паўлюкоўскага раскідана па многіх заходнебеларускіх газетах і часопісах. Ён друкаваўся пад сваім уласным імем, а таксама пад псеўданімамі і крыптанімамі У-Ініцкі; Улад. Ініцкі; У.І.Ніцкі; Улад-Ініцкі; Унучак; У. Паў-скі; Ул.Паў-скі; У.І.; У.-І.; Ў.П. у «Маланцы», «Нашай справе», «Голасе працы», «Сялянскай ніве», «Авадні», «Шляху моладзі», «Пралесках», беларускіх календарах і зборніках. Пасля 1940 года ў Беларусі асобным выданнем не выйшла ніводнай кнігі твораў Уладзіслава Паўлюкоўскага. Толькі ў 1928 годзе ў Вільні з'явіліся кніга вершаў «Сон Гаўрылы і розныя вершы», потым — «Апавяданні» (Вільня, 1929), зборнічак жартаў «Клім бабаю і іншыя жарты» (Вільня, 1929) ды ўспаміны «Арышты: Бяроза і воля» (Вільня, 1940). Вось і ўсё, што пабачыла свет. Усе гэтыя выданні выйшлі пад псеўданімамі Улад-Ініцкі.



Нарадзіўся гэты таленавіты чалавек на тэрыторыі сучаснай Стаўбцоўшчыны ў вёсцы Ініца ў шматдзетнай сям'і. Вучыўся ў Стоўбцах і ў Навагрудку, потым у Харкаўскім мастацкім вучылішчы.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, яго забралі на фронт. Служыў прапаршчыкам, быў палкавым пісарам у штабе 530-га пяхотнага палка, франтавыя дзеянні якога канцэнтраваліся пераважна на Віленшчыне. Малады прапаршчык падчас непрацяглага зацішша паміж баямі з дапамогай фотаапарата стварыў франтавы фоталетапіс жыцця асобнага палка. Пазней атрыманыя фатаграфіі склалі два альбомы невялікага фармату. Навуковыя супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Таццяна Жук і Марына Ліс апублікавалі шэраг ваенных фотаздымкаў Паўлюкоўскага на сайце http://news.tut.by.

У 1920 годзе У. Паўлюкоўскі прыехаў у родную вёску. Адпачыў там ад войнаў, набраўся сіл і з'ехаў у Вільню.

У старажытным горадзе наладзіў сувязі з творчай інтэлігенцыяй, пачаў супрацоўнічаць з многімі беларускімі выданнямі, як графік удзельнічаў у выданні календароў, кніжак, падручнікаў, а таксама шмат фатаграфаваў. Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1926 годзе. Зоська Верас у пісьме да Адама Мальдзіса ад 4 ліпеня 1980 года пісала: «Не ведаю, ці Вы звярнулі ўвагу ў маім рукапісным зборнічку біяграфію беларускіх дзеячаў на гэтае прозвішча — У. Паўлюкоўскі. Ён няшмат пісаў, і творы сярэдняй вартасці, але адна работа вельмі цікавая — каляндар на круглы год. Кожны месяц мае назовы ў самых розных мовах, гісторыя кожнага месяца, пачынаючы ад назову, да святаў, звычаяў і г.д. пачынаецца ад рымскіх часоў, канчаецца звычаямі, прыказкамі і г.д. беларускага народу». У пісьме ад 18 сакавіка 1983 года Зоська Верас Адаму Мальдзісу паведамляла, што «ён быў і мастак, і пісьменнік. Супрацоўнічаў у гумарыстычных часопісах «Маланка», у «Заранцы» выдаў кніжку перакладаў Л. Талстога. Але галоўная яго праца — «Гісторыя календароў...» (Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня-Wrocław, 2013).

Сапраўды, найбольш вядомая праца У. Паўлюкоўскага ў 1930-я гады — гэта этнаграфічныя эцюды, прысвечаныя кожнаму месяцу года, — своеасаблівы народны каляндар, у якім апісваліся традыцыйныя народныя святы, звычаі, абрады, прыводзіліся народныя прыказкі, адпаведныя земляробчаму цыклу, тлумачыліся назвы месяцаў і іх першакрыніцы, а таксама іншамоўныя назвы, пачынаючы са старажытных часоў і да пачатку XX стагоддзя.

Шмат пісаў паэт гумарыстычных твораў. У іх апісваў анекдатычныя жыццёвыя сітуацыі, розныя камічныя здарэнні, выпадкі.

У 1940 годзе У. Паўлюкоўскі стаў працаваць у Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча. А пасля вайны да 1948 года ўзначальваў Літаратурны музей Аляксандра Пушкіна ў Вільні. Але аднойчы ў канцы лета яго арыштавалі органы МДБ. З Вільні паэта прывезлі ў Мінск і асудзілі да 10 гадоў лагероў.

Пасля смерці Сталіна У. Паўлюкоўскі вярнуўся ў Вільню паралізаваным. Ён пражыў яшчэ два гады і памёр. Яму было толькі 60 гадоў, з якіх 7 ён правёў у зняволенні: Лукішкі, Картуз-Бяроза, ГУЛАГ.

Паэта пахавалі на віленскіх могілках Роса. Як пісала тая ж Зоська Верас да Адама Мальдзіса ад 4 ліпеня 1980 года: «На яго магіле ёсць маленькі помнік. Надпіс — па-беларуску. Апекаваліся магілай удава і яе сын — пасынак Паўлюкоўскага. Але апошнія гады, як мне казаў Янка Багдановіч, магіла зусім запушчаная» (Зоська Верас. Я помню ўсё... С.192).

Такі сумны лёс забытага беларускага літаратара Уладзіслава Паўлюкоўскага — які да смерці заставаўся аптымістам...

**Сяргей Чыгрын**

# Аўтографы Міколы Ермаловіча

**Я ніколі не зблытаюся з часам нашага знаёмства з Міколам Іванавічам Ермаловічам. Па вельмі простай прычыне — дата прастаўлена ў аўтографах на яго кнігах. Надпісы простыя, але для мяне вельмі дарагія, кошт якіх з часам толькі ўзрастае.**

У кнізе з цвёрдай белай вокладкай «Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяд», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры» ў 1990 годзе, буйным почыркам напісана: «Шаноўнаму Уладзіміру Вікенцьевічу Марозу з падзякай за ўвагу да маёй працы. М. Ермаловіч 9.IV.1991. Маладзечна». Тое ж, толькі зусім коратка, у кнізе «Па слядах аднаго міфа» выдання 1991 года: «Шаноўнаму Уладзіміру Вікенцьевічу Марозу. М. Ермаловіч. 9.IV.1991. Маладзечна». У мяне было і першае выданне «Па слядах аднаго міфа» 1989 года, але для аўтографа дау пазнейшую кнігу. Потым, у 1994-м, з'явілася «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд». О, якія ў той час гэта былі кнігі! Яны сапраўды былі адкрыццём, мацавалі тваю беларускую існасць, рабілі Вялікае Княства Літоўскае ўжо назаўсёды неад'емна тваім.

Але што за падзяка «за ўвагу да маёй працы»? Рэч у тым, што ў тыя часы на нашай студыі «Летапіс» мы здымалі яшчэ, акрам фільмаў, і кіначасопісы. Вось для «Навукі і тэхнікі» я і прапанаваў зняць сюжэт з Міколам Ермаловічам, назва якога «Адкуль Літва?» гаварыла сама за сябе. Сюжэт доўжыцца дзве з паловай хвіліны, але і за гэты час льга сказаць самае істотнае. У Маладзечна, дзе тады жыў Мікола Іванавіч, мы выправіліся з рэжысёрам Вадзімам Сукманавым. Здымалі ў той невялікай двухпакаёўцы, дзе жыў герой. Жонкі Лідзіі Цімафееўны, вернай памочніцы амаль невідушчаму чалавеку праз усё іх сумеснае жыццё, памяці якой ён прысвяціў сваю «Старажытную Беларусь», ужо не было. Зразумела, адразу кідаліся ў вочы акуляры з выпуклымі шкельцамі, але энергія, якая ішла ад гэтага чалавека, вельмі хутка змушала не звяртаць увагі на тое, што чалавек вельмі кепска бачыць. Ён захоплена гаварыў аб тым, чаму прысвяціў жыццё. Памятаю, што мы папрасілі знайсці некалькі фотаздымкаў. Мікола Іванавіч стаў корпацца ў адной з картонных скрыняў, заўважыўшы пры гэтым, што вось такія ён рабіў на прадпрыемстве для людзей са слабым зрокам ці зусім без зроку. Трэба ж было зарабляць на жыццё.

Сюжэтам усе былі задаволеныя, таму практычна адразу прыйшла думка зняць фільм, што і запланавалі на наступны 1992 год. Божа, якімі ўзнёслымі і плёнымі былі тыя першыя гады незалежнай роднай Беларусі! Колькі новага адкрывалася — постаці, гісторыя. І аб усім можна было гаварыць, здымаць фільмы. Рэжысёрам меркаваўся Валерый Кавалёў, па бацьку Паўлавіч, сын пісьменніка. Здаецца, якраз ён прапанаваў здымаць не толькі пра Міколу Іванавіча, але і яго братоў Валянціна і Лявона, тэатральнага рэжысёра і настаўніка роднай мовы, людзей цікавых, адметных. Таму і сцэнар, і потым фільм называўся «Браты Ермаловічы». Па сцэнары мы з Валерыем Паўлавічам лічыліся суаўтарамі... Пісаў яго я ў вечаровай электрычцы, калі вяртаўся ад бацькоў з Даманава ў Мінск. Шлях пад перагрук колаў займае гадзіны чатыры, часу даволі. Тэкст ужо выспеліўся ў галаве, заставалася толькі пакласці яго на паперу. Так і напісаліся на каленях шэсць старонак... Мне падабаецца гіперрэалістычны стыль, але тэксты не вельмі паддаюцца гвалту формы над сэнсам. А тут гіперрэалізм выпісаўся арганічна. Гэтае кінаэсэ ў ліку васямнаццаці надрукавана ў маёй кнізе «За брамай забытых мелодый». Як і верш «Гісторыя», прысвечаны Міколу Ермаловічу і напісаны ў 1993 годзе.

Фільм выяўленча «гіпер» (акрамя некалькіх планаў) не атрымаўся, але і проста рэалізм глядзеўся нягорш, бо людзі на экране цікавыя самі па сабе без кінематаграфічных ці літаратурных выкрунтасаў. Цяпер шкадую толькі аб адным — што практычна не ездзіў на здымкі з рэжысёрам, адабраў у сябе магчымасць больш цесных зносін з Міколам Іванавічам, ды і з яго братамі. У час здымкаў сустракаліся толькі раз — у старой Нацыянальнай бібліятэцы, якая зусім нядаўна была Ленінскай. Наш герой сядзеў за сталом, дзе ляжалі стосы старых кніг, нешта выпісваў з іх, потым падносіў блізка да акуляраў аркуш паперы, спісаны буйнымі літарамі. Выйшлі ў калідор, да акна. Мяне вельмі цікавіла пытанне — а хто ж ліцьвіны з гледзішча этнічнай прыналежнасці? Славяне, балты, фіна-угры? Мікола Іванавіч дадаў яшчэ адну нечаканую парадаксальную версію — гэта магло быць надэтнічным утварэннем кшталту казакоў. Але этнічны чыннік тут не галоўны, даводзіў ён мне сваю думку. Галоўнае і найважнае, што «летапісная» Літва, якая дала назоў нашай старадаўняй дзяржаве, месцілася ў самым цэнтры беларускіх земляў, што адсюль пайшло Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае...

Мы паказалі герою ўжо канчаткова гатовы (нешта цяжка даваўся мантаж, задоўжыўся) фільм, усё яму спадабалася. Але адчувалася, што настрой нейкі не такі, засмучэнне, ці што, адбівалася на твары, калі мы развітваліся ў холе кінастудыі. Пасля сваю здагадку выказаў рэжысёр, сказаў, што герой наш невясёлы, бо не ўставілі ў фільм кадры з жанчынай, якая на той час дапамагала расчытваць і друкаваць рукапісы. Для яго гэта было важна, а сказаць нам не дазваляла выхаванасць і сціпласць. Самае прыкрае, што не было ў тым аніякай праблемы, проста я не ведаў сітуацыі, а рэжысёр за мантажом прамаўчаў.

Пасля фільма больш мы з Міколам Іванавічам не сустракаліся. Я ведаў, што яму далі кватэру ў Мінску, што ён далей цягне гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Праўда, сваю галоўную кнігу «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» ў руках патрымаць не паспеў — яго жыццё трагічна абарвалася ў 2000-м годзе.

А фільм «Браты Ермаловічы» жыў сваім жыццём. У першай палове 90-х яго некалькі разоў паказалі па тэлебачанні. Дарэчы, у мяне ў самога як аўтара копія гэтай карціны запісаная якраз з тэлевізара, бо тады не было лічбавых тэхналогій, з кінаплёнкі мажліва было толькі перагнаць на відэа. Апошні раз фільм быў на экране (сапраўдным кінаэкране!) у 2001 годзе. У кінатэатры «Змена», які тады яшчэ існаваў і дзе дырэктаркай была цудоўная жанчына Ніна Міхайлаўна Макрыцкая, мы часта рабілі прэм'еры і праглядны нашых стужак, якія збіралі поўную залю. З яе ініцыятывы і зладзілі імпрэзу да 80-годдзя Міколы Ермаловіча. Ужо без яго, але браты Валянцін і Лявон прыехалі. Зразумела, іхняя прысутнасць у фільме меншая, галоўным героем быў усё ж старэйшы брат Мікола, але яны адэкватна ўспрымалі такую сітуацыю. Заля зноў была поўная. Эфект прысутнасці — ці не найгалоўная выключнасць дакументальнага кіно. Сапраўды, ты бачыш зноў сустракаешся з чалавекам, слухаеш яго голас, адгукаешся на яго эмоцыі. Якраз такі настрой быў у гледачоў, усім было цёпла на душы.

Мне здаецца, што і сёння, калі прайшло ўжо амаль чвэрць веку, стужка выклікала б такія ж эмоцыі. Толькі дзе ты цяпер яе ўбачыш?..

**Уладзімір Мароз**

# «...Што ў галаву, тое і на паперу»

## Лісты Барыса Сачанкі да Алеся Наўроцкага

**Пісьменнікі-землякі Барыс Сачанка (1936–1995) і Алесь Наўроцкі (1937–2012) былі знаёмыя з канца 1950-х гг. А ў 1962 — 1965 гг. А. Наўроцкі працаваў па размеркаванні лекарам на Хойнічччыне ў Аравічах, што кіламетраў за шэсцьдзясят ад Вялікага Бору — роднай вёскі Б. Сачанкі. Але той ужо стала жыў у Мінску і працаваў у часопісе «Полымя», таму сябры кантактавалі пераважна праз перапіску. У асабістым архіве Алеся Наўроцкага, перададзеным нядаўна яго сястрой у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, захавалася 25 лістоў і запісак ад Барыса Сачанкі, датаваных 1960–1971 гадамі.**

**Старонкі ліставання дапамагаюць удакладніць некаторыя факты біяграфій пісьменнікаў, лепей пабачыць іх як асобаў, зразумець адносіны паміж імі. Некалькі з гэтых лістоў прадстаўляем увазе чытачоў «Літаратурнай Беларусі».**



Маці Вера Міхайлаўна Сачанка з унучкамі і сынам

Пане Алесю!

Прыйшоў я сёння дадому і падумаў: Якая ўсё ж я свіння ў адносінах да цябе. Прыслаў ты ліст мне — я не адпісаў. Прыслаў грошы — я зноў адказаў маўчаннем. Адным словам, свіння я і няма мне ніякага апраўдання...

Таму і рашыў сёння паслаць табе хоць колькі слоў, слоў, якія б падтрымалі цябе там, у палескай глушы, і духоўна, і як яшчэ. У Мінску шмат гавораць пра тваю кнігу[1], хаця з'явілася толькі другая карэктура. Заказваюць рэцэнзіі, прарочаць табе геніяльнасць... Дай бог! І я, каб, як кажуць, пабыць у «спавівальных бабульках», рашыў напісаць табе пра ўсё гэта. І не толькі таму, занудзіўся ўжо без твайго слова, хочацца аб сім аб тым пагаманіць, сёе-тое пачуць... Калі ты будзеш у нашым краі, калі канчаецца тваё «блуканне ў медыцыну і жыццё»? Калі маеш час, чыркні пару слоўкаў, буду вельмі рад...



Барыс Сачанка

У мяне ўсё добра, кніга[2] прайшла ўсе інстанцыі, прывёз жонку[3], дачку[4]. Чытаю раман Ул. Караткевіча[5], захапляюся, злуюся, што сам так не магу, абураюся, што такі талент і часам так лёгкаважна ставіцца да слова і наогул да сяго-таго...

Адным словам, ёсць пра што пагаварыць. І шкада, што мы не выкарысталі «цуда» цывілізацыі — пісьмы, і нічога не ведаем адзін аб адным... Ты ж, мусіць, напісаў там цэлы кош вершаў!..

Будзь жыў-здароў, пішы.

Барыс.

19/II–62

---

1 Наўроцкі А. Неба ўсміхаецца маланкаю (Мінск, 1962).
2 Сачанка Б. Барвы ранняй восені (Мінск, 1962).
3 Сачанка Тамара Андрэеўна (1936–2010), філолаг.
4 Багданава (Сачанка) Галіна Барысаўна (нар. у 1961), пісьменніца.
5 Раман «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі») вядомага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча (1930–1984).

Дружа Алесь!

Моцна цісну тваю, цяпер ужо сапраўдную мужчынскую руку, і віншую з ачалавечваннем[1]! Жывіце ў дружбе, згодзе, і каб у вас як гадок, так і сынок... Усё патрэбна чалавеку, патрэбна будзе і вам. Радуюся, што ты знайшоў сваё шчасце ў маіх родных мясцінах[2]...

Навін асаблівых няма ў мяне. Еду вось сёння ў Каралішчавічы[3], можа што накрамзолю. Буду там месяц. Са сцэнарыем не хвалюйся, конкурс кончыўся, хутка аб'яваць вынікі. Я, што ад мяне залежыць, зраблю...

Быў у Саюзе сход, на якім абмяркоўвалі маладых. Броўка хваліў тваю кнігу, але трохі і лаяў. Канешне, менш, чым мяне...

Нарада ў Маскве адносіцца на больш позні час, я даў у Саюз твой новы адрас.

Хочацца ўжо ўбачыць цябе, пагаварыць што-кольвек. Пісьмы — не тое. Ды спадзяюся хутка быць у тых мясцінах, можа і ўбачымся.

Пішы. Перадавай сваёй палавіне ад мяне і маёй палавіны прывітанні, прымі іх і сам.

Будзь жыў-дуж.

Барыс.

7/IX–62 г.

---

1 27 жніўня 1962 г. А. Наўроцкі ажаніўся.
2 Жонка А. Наўроцкага Валянціна Харытонаўна Шынкарэнка (нар. у 1941) паходзіць з вёскі Аравічы Хойніцкага раёна.
3 Каралішчавічы — вёска ў Мінскім раёне, дзе з 1956 г. да 1980-х дзейнічаў Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў.

Дружа Алесь!

Бачыш, які я. Атрымаў два тваіх пісьмы, і на іх не даў адказу. Даруй мне за гэта — на тое былі свае прычыны. Па-першае, я ездзіў у Вялікі Бор — захварэў быў вельмі бацька[1]. Па-другое, я атрымаў нарэшце кватэру і перабіраўся, абжываўся, купляў розную драбязу... Дый суцешыць цябе нічым не мог — конкурс яшчэ не закончаны і нічога не вядома. Адзін твой сцэнар рэцэнзаваў П. Васілеўскі. Гэта я ведаю, бо разам з ім быў у Каралішчавічах. Сцэнар яму спадабаўся, ён яго адзначае і дае на разгляд другім («Студзень, жнівень» — па-мойму, так завецца твой твор). Але пра прэмію не сказаў нічога — змрачнавата, і гэта можа паўплываць. Адным словам, набярыся цярплівасці і чакай.

Пішы, як тваё жыццё-быццё? І чаму ты адказаў гэтак на анкету? Пісьменнікі здзіўлены! Шмат цяпер пра цябе гавораць.

Прывітанне жонцы ад мяне, а табе — ад маёй жонкі.

Барыс.

29/X–62 г.

Мой новы адрас: г. Мінск, Валгаградская, 21б, кв. 20.

Сачанка Б. І.

---

1 Сачанка Іван Мікалаевіч, супрацоўнік хімлясгаса.

Дружа Алесю!

Ведаючы, што для цябе, гэтак жа, як і для мяне, самае страшнае — гэта невядомасць і чаканне, спяшаюся як мага хутчэй паведаміць, што зборнік твой я атрымаў, перадрукаваў на машынцы, вычытаў і аддаў Сёмуху (каб ён усё ўладкаваў у выдавецтве); адзін экземпляр, як ты і прасіў, перадаў Вялюгіну. Без тваёй згоды на сваю адказнасць і рызыку даваў чытаць твой новы зборнік, вядома, па просьбе гэтых людзей, Дзяргаю, Караткевічу, Адамчыку, Пташнікаву... Так ужо неяк выйшла, што я не мог ім адмовіць, тым болей, што ўсе гэтыя людзі вельмі цікавяцца тваім лёсам і тым, што ты пішаш. Пра водгукі аб тваім новым зборніку пісаць не буду, бо ты не любіш гэтага, дый навошта ведаць, хто што пра цябе думае, добра тое, што сам ты не горш за ўсіх «цаніцелей» разбіраешся ў сваім пісанні. Скажу толькі адно, што надрукаваць сёе-тое будзе цяжка. Але пра гэта ты ведаеш бадай лепей за мяне сам...

Паколькі ты мне амаль не пішаш, нават другі раз не адказваеш і на лісты, то таксама без тваёй згоды я даю сяму-таму твой адрас, — не ведаю, ці піша хто-небудзь табе пісьмы з Мінску. Вось бадай і ўсё, што я хацеў табе напісаць. Калі трэба яшчэ што зрабіць, пішы, я чым магу, буду рад табе памагчы.

Перадавай прывітанне сваёй жонцы, можа б паказаўся з ёю калі ў Мінск? Пагаварылі б хаця, парасказвалі б хоць свае навіны — я мінскія, ты хойніцкія. Га?

Пішы, адным словам,

Барыс.

Прывітанне ад Тамары.

9.III. 63 г.

Дружа Алесь!

Ёсць шмат чаго табе напісаць. Але я, як ты ведаеш, не надта люблю давярацца паперы, тым болей у лістах, таму паведамлю самае галоўнае. Новую тваю паэмку я перадрукаваў і аддаў Сёмуху і Вялюгіну. Ранейшае, што ты прасіў, каб прачыталі ў рэдакцыі, — прачытана, прычым у даволі такі шырокім коле, Вялюгін абяцаў напісаць табе думкі рэдакцыі пісьмова. Я не буду адбіраць у яго гэтае права, скажу толькі, што сёе-тое спадабалася і будзе друкавацца... Учора быў Ан. Клышка, прасіў даць пачытаць твой новы зборнік... Увага, як бачыш, да цябе ёсць і пільная.

Відаць, ты прыедзеш на Пленум Саюза, ён будзе 25 красавіка. Вось тады можа і пагаворым. Час напружаны, вельмі цікавы, і не ведаю — добра ці кепска, што ты знаходзішся трохі ўбаку ад усяго, што робіцца ў літаратуры. Урэшце, час пакажа і гэта...

Адным словам, будзь жыўдуж, чытай газеты і рабі для сябе пэўныя вывады. А лепш за ўсё пішы... Пісьменнік — гэта творы, а не тая мышыная «возня», што заўсёды ідзе вакол яго імя.

Чакаю цябе да сябе ў госці, а не прыедзеш — пішы.

Барыс.

Прывітанне жонцы тваёй ад нас.

4.IV–63 г.

Алесь!

Не пісаў табе, чакаў усё аповесці тваёй — думаў, машыністка перадрукуе днямі. А яна нешта цягне. Учора сказала: будзе гатова праз тыдзень. Таму вырашыў некалькі слоў чыркнуць табе.

Караткевіч з вялікай ахвотай паабяцаў даць табе рэкамендацыю. Але, даведаўшыся, што і я буду даваць, спасцярог: «Каб мы не завалілі хлопца»[1]. Падумай над гэтым — можа лепей папрасіць табе ў каго-небудзь (замест мяне) з вялікіх — Танка, Вялюгіна, Бярозкіна? Пра гэта пагаворым больш падрабязна, як прыедзеш. Прыязджай у Мінск абавязкова, калі ёсць хоць якая магчымасць. Днямі прынялі ў Саюз вялікую групу, рыхтуюць новую... Напішы, што адказаў Кучар табе?

Шкада Сёмухі — ён больш не рэдактар. Табе прывітанне перадаваў мною...

Вось бадай і ўсё. Прыязджай ці пішы.

Барыс.

7/I–64 г.

Прывітанне жонцы і дачцы ад маіх — жонкі і дачкі.

---

1 Магчыма, маецца на ўвазе «не захвалілі».

Дружа Алесь!

Не пісаў табе, усё чакаў, калі вернецца Бажко (з Літфонда). Нарэшце, дачакаўся. Учора пакінуў там твой адрас; сказалі, што ўсё, што трэба для афармлення, вышлюць па адрасу, як толькі атрымаюць выпіску з пратакола пасяджэння прэзідыума, што ты прыняты ў члены Саюза. Калі трэба будзе ўсё — не ведаю, можа тыдзень пройдзе яшчэ, а можа і два.

Варта табе, не адкладаючы, прысласць на імя Ткачова заяву на кватэру, хай будзе, паставяць на чаргу. Заяву пішы ці Прэзідыуму, ці Броўку, афіцыйна.

У мяне ўсё добра. Кніга набіраецца, дома таксама пакуль ціха і ўтульна. Пісаць асабліва няма як — рэдакцыйны тлум заглушае ўсё. Бачыў Сёмуху (прывітанне табе ад яго і віншаванне) — ён эканамістам на завод уладкаваўся[4] (100 рублёў аклад).

Пасля твайго ад'езду было месца на радыё (пайшоў Свірка[5]).

Вось, бадай, і ўсё. Пішы.

Прывітанне ад хлопцаў табе і ад маіх, Тамары і Галі, тваім — жонцы і дачцы.

Будзь дуж!

Барыс.

9/IV–64 г.

Дарагі Алесь!

Як я рад твайму пісьму! Чаму ты столькі маўчаў? Я думаў, што ты ўжо ўцёк недзе са сваіх Аравіч. А ты ўсё яшчэ там...

Хваліш ты мяне дарэмна за кнігу. Кніга выйшла зусім не такая, як я хацеў. Ды што зробіш. Можа калі, дай бог, што яшчэ і напішам.

У мяне ўсё добра, працую на старым месцы, нешта папісваю (папіскваю). Што — і сам не ведаю. І гумар, і лірыку, і трагедыі — што ў галаву, тое і на паперу.

Пішы мне. Хацеў ад «Полымя» паклікаць цябе на нараду маладых (у Каралішчавічах 10 дзён цяпер ідзе) як празаіка — сказалі, не сур'ёзна. А што тады сур'ёзна, га?

Пішы, ці прыязджай. Бо пісьмы — гэта дамская справа, а не мужчынская. Ды бадай старэнькіх... А мы ж маладыя, нам трэба гаварыць па-мужчынску.

Прывітанне жонцы, дачцэ тваёй ад маіх — жонкі і дачкі. І пры выпадку перадай прывітанне галоўурачу Аўрамаўскай бальніцы (ім я табе некалі ўлетку прывітанне перадаваў) — ён некалі дачку маю ратаваў.

Цісну руку.

Барыс.

18/XI–64 г.

**Уступнае слова, публікацыя і каментары Віктара Жыбуля.**

# Турэмная бібліятэка

## З новай кнігі вершаў



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

### Аскар Уайльд

*Калі раніцай на ледзяшах,*
*што навіслі на кра́тах,*
*блісне сонца,*
*якое не грэе,*
*а халодна сплывае па звівах замерзлай вады*
*і бясследна знікае,*
*як знікаюць*
*хвіліны,*
*гадзіны,*
*гады,*
*гэтак вострa тады адчуваеш імгненнасць жыцця —*
*і тады ўспамінаецца казка пра Грэя,*
*пра ягоны партрэт, што старэў,*
*пакідаючы юнай натуру...*

*Ні адзінай маршчынкі на шоўкавай скуры,*
*на белым чале*
*Дарыяна,*
*героя рамана,*
*але*
*судзяць аўтара, як вычварэнца,*
*садаміта, і ў Лондане кожны маляр*
*мастаку — пра мараль,*

*толькі ледзі Уіндэрмір крыкнула:*
*«Брава!» —*
*веер кінуўшы Лондану ў твар...*

*А ў турэмным акенцы*
*ледзяшы. Па замерзлай вадзе*
*час сплывае.*
*Ідуць*
*і мінаюць і ганьба, і слава,*
*але...*
*Але ледзі Уіндэрмір крыкнула: «Брава!» —*
*на Страшным судзе.*

**24.09.2014**

### Цыцэрон

*Калі раптам пачуеш за кратамі*
*спрэчку варон,*
*у якой штосьць даводзіць адна ўсім*
*астатнім,*
*а тыя, не хочачы чуць,*
*на яе наляталюць,*
*хорам каркаюць,*
*дружна дзяўбуць,*
*дык міжволі згадаецца Марк Цыцэрон,*
*рымскі консул, аратар...*

*Якія філіпікі ён*
*прамаўляў! Як за рымскі закон*
*паўставаў! Як на Форуме зводзіўся ён:*
*«Vita sine libertate, nihil!*
*Vivant et republica!» —*
*але рымская публіка*
*хорам каркала,*
*цягнучы консула ў церні,*

*І Цэзар*
*пераходзіў ужо Рубікон,*

*І ўжо бачыў Антоній,*
*як на срэбры яму падаюць*
*галаву Цыцэрона*
*і рукі, якія пісалі прамовы, —*

*і ўжо ў Рыме головы*
*днём і ноччу сякуць,*
*а над Форумам*
*кружаць вароны...*

**15.09.2014, Вільня**

### Якуб Колас

*Алесю Юркойцю*

*Калі ў небе за кратамі*
*гэтак нема і пуста, і гола,*
*глуха так — хоць кладзіся ў куце паміраць,*
*можа раптам падаць*
*пералётная птушка свой голас*
*над турмой, што завецца Пішчалаўскім замкам,*
*дзе прачнуўся па звычцы сялянскай на ранку*
*настаўнік Міцкевіч Кастусь...*

*Спіць яшчэ Беларусь.*
*Невядома: прачнецца — ці не?*

*Хто яна ў сваім сне?*
*Папялушка?..*
*Пералётная птушка,*
*што голас з нябёс падае?..*

*Што за люд*
*тут жыве,*
*які лёс свой праплакаў,*
*што за край тут*
*Якубаў ды Янкаў?..*

*Родны кут —*
*хтось надрапаў*
*у куце*
*на турэмнай сцяне,*
*у Пішчалаўскім замку.*

**16.10.2014**

### Сакрат

*Калі ка́пае ўночы іржавай вадой,*
*як атрутаю,*
*з кратаў,*
*і не ведаеш, што б ты зрабіў,*
*калі б меў пад рукою атруту,*
*дык успомніш міжволі Сакрата,*
*які ведаў,*
*што нічога не ведае,*
*і ў вязніцы на снеданне*
*выпіў цыкуту,*
*хоць на вечар гатовы пабег быў:*
*і падрэзаны путы,*
*і падкуплена варта —*
*не кінецца ўслед,*
*наўздагон...*

*Ды ўявіў сабе ён,*
*як Мілет, што паэт,*
*і Аніт, скурадзёр, і аратар Лікон,*
*што данос напісалі,*
*праз які асудзілі Сакрата да страты,*
*закрычаць: «Вінаваты! Інакш бы не збег...»*

*У той дзень выпаў снег,*
*стаўся холад, якога не зналі Афіны*
*столькі, колькі стаяў Парфенон,*
*да якога прынеслі Сакрата...*

*Але не сказалі: «Нявінны!» —*
*ні Мілет, што паэт,*
*ні Аніт, скурадзёр,*
*ні аратар Лікон.*

**25.10.2014**

### Уільям Шэкспір

*Калі ўявіш за вузкім акенцам,*
*за кра́тамі*
*неба*
*ва ўсю яго зорную шыр*
*з мірыядамі сонцаў,*
*пульсараў і квазараў,*
*чорных загадкавых дзір,*
*дык найперш з усіх, каго ўспомніш —*
*Уільям Шэкспір,*
*паляўнічы ў сузор'ях і дзірах,*
*які па судзе*
*сем гадоў прабадзяўся немаведама дзе,*
*і цяпер*
*на галёрцы ў тэатры пляткараць:*
*«Арыштант... Браканьер...*
*Не пяром, а кап'ём піша ён свае п'есы!» —*
*і на сцэну ляціць памідор...*

*А праз двор —*
*ціхі хор,*
*вечаровая меса ў Саўтваркскай царкве,*
*дзе Марыя Цюдор*
*распраўлялася з ерыткамі,*
*дзе знайшлі супакой і Джон Флетчар, і Джон Гауэр,*

*дзе вякі праплылі над вякамі,*
*над сусветам,*
*тэатрам Шэкспіра*
*ва ўсю яго шыр*
*з мірыядамі сонцаў,*
*пульсараў і квазараў,*
*чорных загадкавых дзір,*

*дзе бадзяжнік Шэкспір,*
*арыштант, браканьер,*
*раптам выбіў з шампанскага корак*
*на нейкай з прэм'ер*
*(ці «Макбета», ці «Ліра»),*
*і корак — да зорак...*

**25.09.2014**

# 85-годдзе доктара беларускасці

**...Былі дэканы ўніверсітэцкага філфака, якія свае ўступныя лекцыі пачыналі з успамінаў пра аспіранцкае жыццё, падчас якога прачытваўся поўны збор твораў Леніна. І быў дэкан, які свае ўступныя лекцыі пачынаў з іншага прызнання: у свае аспіранцкія гады прачытаў збор старабеларускіх летапісаў.**

Гэты чалавек — Алег Антонавіч Лойка — з'явіўся ў наш свет у Слоніме ў першы дзень траўня 1931 года (і завяршыў зямное жыццё там жа 19 лістапада 2008-га). Скончыўшы агульнаадукацыйную польскую школу, вучыўся затым у школе рускай, а на сталічны філфак быў прыняты толькі кандыдатам у студэнты — бо меў сувязі з Саюзам беларускай моладзі...

І стаў кандыдатам у беларускасць, чаму сведчанне — пасяховая вучоба, першыя вершы (апублікаваныя яшчэ ў акупацыйнай «Баранавіцкай газэце» і чытаныя са слонімскай сцэны Наталлі Арсенневай). А вось доктар беларускасці нараджаўся ўім падчас таго аспіранцкага жыцця. Мацнеў — у тысячах лекцый на працягу амаль пяцідзесяцігадовай філфакаўскай працы. Сталенне вызвілася ў амаль тысячы навуковых публікацый, у сямі дзясятках кніг паэзіі і прозы, у даследніцкім летапісе гісторыі беларускай літаратуры — ад старажытнасці да дня сучаснага, у раманах-эсэ пра найвыдатнейшых сыноў нашай зямлі Францыска Скарыну і Янку Купалу. Гэтае сталенне адзначалася званнямі дацэнта (1962) і прафесара (1971), члена-карэспандэнта НАН Беларусі (1989), ступенямі кандыдата (1956) і доктара (1969) філалагічных навук, узнагародамі (ордэнам Дружбы народаў і медалямі), лаўрэацтвам: Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1990) і Прэміяй імя У. Пічэты (2003).

Званне ж доктара беларускасці было і найбольш пашанотнае з усіх пералічаных, і найбольш клопатнае, бо Алег Лойка, сын таленавітага слонімскага фельчара, нястомна лячыў нашую памяць, нашую волю, наш розум, наш дух. Ягоныя лекі — паэтычныя, песенныя, літаратуразнаўчыя, публіцыстычныя, перакладніцкія, настаўніцкія — увабралі мудрасць, мужнасць і волю сотняў людскіх пакаленняў і яшчэ сотням новых пакаленняў будуць мацаваць нацыянальнае здароўе. Як некалі рабілі гэта маладому аспіранту згаданыя напачатку летапісы...

**Алесь Пашкевіч**



**Алег Лойка, сын таленавітага слонімскага фельчара, нястомна лячыў нашую памяць, нашую волю, наш розум, наш дух. Ягоныя лекі — паэтычныя, песенныя, літаратуразнаўчыя, публіцыстычныя, перакладніцкія, настаўніцкія**

# Сапраўдныя колеры

Школа маладога пісьменніка

**Пяць гадоў пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў працуе Школа, у якой праходзяць творча-практычныя штудыі (заняткі з пастаяннымі выкладчыцамі, лекцыі і майстар-класы запрошаных вядомых літаратараў і навукоўцаў) аўтары-пачаткоўцы з усяе Беларусі.**

**Сёння «Літаратурная Беларусь» знаёміць з творамі некаторых яе навучэнцаў.**

## Варгін

Аліна ДЛАТОЎСКАЯ



Аліне 21, жыве ў Мінску, студэнтка і арганізатар дзіцячых творчых фестываляў, лічыць, што Школа маладога пісьменніка пры СБП дала ёй усведамленне сябе як літаратара.

Чорная муха раздражнёна білася ў шкло. Спрабавала патрапіць на сцюдзёную лістападаўскую вуліцу. Халодную, ахінутую вільготным туманом.

Чорная гарбата астыла ўжо другі раз. Моцы выйсці на кухню па кіпень не было. Нічога, віп'ецца і халоднай.

Чорны швэдар непрыемна калоў цела. Прымушаў увесь час шукаць зручнейшае становішча. Але не грэў.

Чорны кот ціха вуркатаў, уладкаваўшыся ў яго на каленах. Адзіная істота ў пакоі, якая засталася цёплай гэтай восенню.

Бескаляровы агідны адчай напаўняў яго галаву. Разам з навязлівым жужжанем.

Чорная муха білася ў шкло.

«Дурніца».

***

Дзядоўнік цяжка выцягваць з вопраткі. Пальцы нервова дрыжалі. Зноў атрымае пляскача ад бацькі ды пагардлівы позірк ад маці. Але гэта раздражняла менш за расчараванне і крыўду ў чорных вачах дзяўчаці насупраць. З валасоў дзядоўнік выцягваць яшчэ і балюча. Варта было папрасіць прабачэння. Але ён не асмеліўся б. Таму проста працягнуў руку, каб дапамагчы ёй выбірацЬ з пасмаў бадзякі. Чамусьці яму здавалася, што гэта не так страшна, як выбачацца. Яна адхінулася і скрывіла вусны. Калі звычайная дзіцячая гульня ператварылася ў прычыненне болю адзін аднаму?

Дзяўчынка, ганарліва ўзняўшы кірпаты нос, рушыла ўслед за бацькамі, якія ўжо зніклі за паваротам лясной сцяжыны. Ён пабег за ёй. Раптам спыніўся. Пастаяў крыху, сціскаючы кулакі, хмурачы бровы. Крочыў далей спакойна ды павольна.

Пахіленая лядашчая хата выплыла з восеньскага туману шэрым прывідам. Дах яе быў увесь імшаны, у вокнах даўно не было шыбаў, а падворак зарос пустазеллем. Казалі, тут жыла старая вядзьмарка. Імя яе ў вёсцы не называлі. Ды і ўвогуле рэдка пра яе гутарылі. Тым не менш плёткі пра яе смерць разышліся даволі хутка.

Малая замерла перад хатай, збялелая, напружаная. З ганку на яе і хлапчука ўважліва глядзела старая. У бруднай спадніцы, шэрай камізэльцы ды зацёртай хустцы кабета выглядала такой жа прывіднай, як гэтая хата ды абляцелыя каржакаватыя яблыні. Позірк яе працінаў да самага сэрца.

Ён не спалохаўся, не. Толькі па целе пабеглі дрыжыкі. І раптам адчуў сябе неверагодна самотным, халодным, пустым, пакінутым. Нібы тая хата. Жанчына маўчала. Але ён глядзеў ёй у вочы і чуў:

«Вазьмі яе за руку. Альбо пражыві ўсё жыццё ў адзіноце».

Цёплая пяшчотная ручка ў яго далоні, здавалася, магла назаўсёды выратаваць яго ад гэтай пустэчы, ад гэтага холада. Але нешта спыняла яго. Нешта хацела яго пакутаў.

Ён хітнуў галавою, нібы вытрасаючы адтуль словы жанчыны, ды рушыў далей. Гэта ўсё яму прымроілася.

Дзяўчынка засталася стаяць, працягваючы пустэчы руку. Пальцы дрыжалі ад холаду. Вусны — ад плачу.

Ён зноў памыліўся. Ён зробіць яшчэ процьму памылак. Але ўсё пачалося з дзядоўніку ў валасах — у гэтым ён быў упэўнены.

***

Аднойчы на Дзяды ён знайшоў у пад'ездзе чорнае кацяня. Забраў дадому. Што выратуе ад самоты лепш за пухнаты камячок? Ад самоты, якую ён стварыў сабе ўласнымі рукамі. Баючыся нарабіць яшчэ больш памылак. Проста баючыся.

Відаць, ёй вядзьмарка тады падказвала нешта іншае. Бо яна цяпер вывучала беларускую міфалогію. Пісала ў сеціве: «Жудасны чорны кароль катоў Варгін, знайшоўшы сабе гаспадара, прымушае яго сварыцца з любімі ды роднымі, пакутваць ад адзіноты. Выклікае жудасныя псіхічныя расстройствы. Ад яго прысутнічтва ў галаве ў чалавека заводзяцца мухі, якія ў выніку даводзяць самотніка да вар'яцтва».

Няма нічога жудаснага ў чорных катах. Гэта не яны даводзяць да вар'яцтва, і не мухі, якія з'яўляюцца ў галаве ад іх прысутнасці. Да вар'яцтва даводзіць адзінота. А адзіноту чалавек стварае сабе сам.

Чорныя мухі біліся ў шкло.

«Дурань».

## У пад'ездзе

Марыя БАДЗЕЙ



Марыі 18 гадоў, родны горад — Ваўкавыск, студэнтка, будучы лінгвіст.

Школа пісьменніка прынесла новыя знаёмствы, больш крытычнае стаўленне да сябе і кучу назваў кніг у нататніку, якія варта было б пачытаць-прачытаць.

«Калі б жыццё не стукала б нас час ад часу па галаве, мы, далібог, не ўбачылі б ніводнай танцуючай зоркі».

Мы сядзім на лесвічнай клетцы пад абдрапанымі дзвярыма, назаўсёды маладыя, расхрыстаныя і стомленыя, п'ем таннае віно, заплюшчваем вочы, пяём, сварымся, выскокваем з сябе, цалуемся, слухаем джаз, таньчым на сходах, з'язджаем па парэнчах, плачам і крычым, і жыццё нашае міргае цьмянай лямпачкай, і сны нашыя такія шчымлівыя, што нам не холадна ў бясконцых зімах тузаць прамерзлую клямку і дыхаць на яе, а з-за гэтых начных дзвярэй, дзвярэй, якія мы ўсе заўсёды носім з сабой, нехта праз вочкі-зоркі глядзіць на нас з недаверам, колькі б мы ні званілі і ні стукаліся б у вушакі, а мы звонім і стукаемся, хоць і не ведаем, што за імі будзе: ці то сапраўдны і першасны дом, ці то адсутнасць ці сутнасць мовы і раскрыццё ўсіх знакаў ды картаў, а можа, мы і там станем гасцямі, дзе нас адагрэюць, накормяць, суцешаць і адправяць бадзяцца зноў, але, зрэшты, надзея даведацца, хто мы ёсць ці былі, мяўкае катом на батарэі, пакуль гукі, і словы, і рухі, і жэсты нашыя нераспазнавальныя, і толькі час ад часу стары паштальён, якога няма ў сваёй Айчыне, кідае ў паштовыя скрынкі з нумарамі кватэр адказы, а мы іх чытаем і цяпер знайшлі сабе гульню — выдумляць пытанні да гэтых адказаў, а нехта ўжо з цёплай усмешкай назірае за намі праз зачыненыя дзверы, пакуль мы шумім, няёмка топчамся пад імі і, бывае, крадзем дыванкі, упарта свідруем замкі вачыма і калупаемся ў іх адмычкамі, адключаем электрычнасць па ўсім доме, і спяваем, спяваем, спяваем, але гэта нічога, гэта бывае, не перажывай, Божа, ведаеш, дзень сцірае ноч, і нам пакуль і ў пад'езде нядрэнна.

## Сябры

Канстанцін КАСЯК



Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Менску, скончыў гістарычны факультэт БДУ (спецыяльнасць — гісторыя ўсеагульная і айчынная) і Беларускі Калегіюм. Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў у самых розных сферах: ад устаноў культуры і адукацыі да вэб-студый. Займаецца боксам і гуляе ў рэгбі. Пісаць і публікавацца пачаў некалькі гадоў таму.

У дзяцінстве мяне вучылі, што сяброўства — гэта адна з галоўных рэчаў у жыцці. «Что мне снег, что мне зной, // что мне дождик проливной, // когда мои друзья со мной!» — спявалі мы на занятках у пачатковай школе. І тады яно было сапраўды так. Цікава, а што там цяпер спяваюць малыя?

Памятаю, выйдзеш з дому ў двор, пасунешся на горку — і там абавязкова хто-небудзь будзе. Любою парой года, пры любым надвор'і, як у рэкламе канцэртаў Уладзіміра Ухцінскага. Каля школы, на вялікім полі, часцяком гулялі ў лапту. Гэта такі наш мясцовы аналаг амерыканскага бейсбола. У суседнім двары, які стаяў на вышэйзгаданай горцы, стаялі тэнісныя сталы. Па вечарах збіраліся вялікія кампаніі гульцоў і «пяклі» аж да самай ночы. Цяпер на полі стаіць вялікі хмарачос. Ці стаяць сталы?

За свае школьныя гады я вучыўся ў трох школах. І ва ўсіх, здаецца, былі сябры. А цяпер падумалася — а дзе ж усе яны? Куды падзеліся? Дзе згубіліся? Раскідала жыццё маіх сяброў і таварышаў так, што, здаецца, ніколі ўжо і не збярэш усіх разам у адным месцы, і ніколі ўжо не будзе гэтае «як раней». Некаторых няма ўжо і ў жывых. Застаецца хіба што час ад часу згадваць, настальгаваць і сумаваць па тым, што не зрабіў і не сказаў своечасова.

А яшчэ гэтыя сацыяльныя сеткі... Яны цалкам перавялі сяброўства ў віртуальную рэальнасць. Выклаў фота — сядзіш, цікуеш: хто лайкне, хто перапосціць, хто што напіша пад ёй. Выпіліўся хто з сеціва — ого, нешта здарылася. А калі выдаліў — значыць, моцна пакрыўджаны. А паспрачацца, з'едліва адкаменціць ці проста пафлудзіць, калі няма чаго рабіць — гэта ўжо, здаецца, проста норма жыцця.

Ёсць у мяне сябар, які зусім нядаўна завёў сабе акаўнты ў тых сацыяльных сетках. Раней яму было проста нецікава. А тут набыў сабе модны смартфон, дык ужо і няма як без іх, не адкруцішся. Я тады ўсё думаў: «Ну ўсё, цяпер зажывем, будзем перапісвацца часта». А выйшла так, што цяпер нават не тэлефануем адзін аднаму. Сацыяльныя сеткі ствараюць ілюзію прысутнасці — нашто бачыцца ў рэале, калі ў віртуале ты заўжды анлайн?

Але і гэта яшчэ не ўсё. Увявіце сабе: ёсць у маім жыцці катэгорыя грамадзянаў, якія альбо дагэтуль не маюць акаўнтаў у тых сацсетках, альбо на глыбокім «шыфры». І чаго-якога, незразумела. Не бачыліся са школы, а так хацелася б на іх пагледзець, спытаць, што ды як.

Дапісаў, узяў у рукі смартфон. Пачысціў у «В контакте» старую перапіску. Засталося толькі два дыялогі: чацікі з маімі сябрамі — у адным 6, у другім 5 чалавек. Вось і ўсе сябры...

## Вяроўка

Святлана ГАЛУЗА



Святлана нарадзілася ў Оршы, студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.

Піша ў асноўным дэтэктывы з элементамі рамантыкі, біяграфічныя аповеды, часам фантастыку. Дзякуючы Школе пісьменніка пры СБП знайшла новых сяброў-аднадумцаў, змагла выйсці са стану дэпрэсіі і ляноты, набыла сілы і натхненне для новых твораў.

Часам бывае так, што чалавек хоча ці павінен нешта зрабіць, але не можа. Ніхто, акрамя яго, не ведае, чаму так здараецца. А ён ведае, але ўжо позна, бо ў яго на шыі вяроўка.

Цяжка вызначыць, калі і ад чаго яна з'яўляецца. Спачатку

яе ніхто не заўважае, нават сам «вязень». Яму лёгка і свабодна з ёю: яна не цісне, не перашкаджае, хутчэй наадварот. Яна замяняе ўсё ў жыцці, паступова выціскаючы тое, што было істотным яшчэ месяц-два таму. Чалавек не ўяўляе, як раней абыходзіўся без яе. А яна, як змяя, прыгрэтая на грудзях, раптоўна пачынае псаваць жыццё, праўда, «ахвяра» гэтага не адчувае. Не, не так. Яна проста не хоча адчуваць і па-ранейшаму не заўважае вяроўку на сваёй шыі. Калі раней чалавек хаця б крыху аслабляў яе, то цяпер ужо — не, наадварот, ён зацягвае ўсё тужэй і тужэй. Усе кажуць яму, што ён павінен зняць гэтую вяроўку з сябе, ды ён не хоча слухаць. Яму і так добра.

Усё больш і больш вяроўка перакрывае доступ да кіслароду, атручваючы мозг. Яна, як вампір, смокча энергію са свайго закладніка. Ён ужо амаль памёр з-за яе, але па-ранейшаму нічога не заўважае, нягледзячы на тое, што людзі вакол усё часцей і часцей нагадваюць яму пра вяроўку. Ды ён, мабыць, ужо і сам разумее сваім напаўзагінулым мозгам, што вяроўка — гэта шлях у бездань, нават у смерць. Толькі праклятым аркан ужо выйшаў з-пад кантролю. Нягледзячы на сваё нежаданне, чалавек становіцца рабом вяроўкі, страчвае сваю асобу, атаясамлівае сябе з вяроўкай. Гэта жудасна, жахліва і нават смяротна. «Ахвяры» ніхто не можа дапамагчы, акрамя яе самой. Яна сама павінна знайсці выйсце.

Любы шнур, нават наймацнейшы, можна рассекчы ці разрэзаць. І гэты не выключэнне. Толькі дзе знайсці патрэбнае абсталяванне?

Раб цярпліва шукае, стукае ў зачыненыя дзверы, зачыненыя сэрцы, пачынае крычаць, маліць аб дапамозе. І нарэшце разумее, што адзіны спосаб — толькі ягоная моц. Ён знясілены вяроўкай, і моцы ў слабых руках не хапае, каб разарваць яе. Але вязень не саступае. Ён раптам знаходзіць у сабе ўпартасць, жаданне дасягнуць пастаўленай мэты. І з кожным крокам да яе адчувае, як вяроўка на шыі слабее, як амаль забіты мозг пачынае вольна дыхаць, як з'яўляюцца думкі. А вяроўка распадаецца на шматкі. Цяпер яна ўжо не патрэбна чалавеку. Ён зразумеў, чаму і калі з'явілася гэтая перашкода. І ведае спосаб пазбаўлення.

## Сапраўдныя колеры (Віцька)

Наталля БІНКЕВІЧ



Наталля нарадзілася ў 1990 годзе ў адным з самых старажытных гарадоў Беларусі — Ваўкавыску (як прызнаецца). Вучылася ў школе і ліцэі ў Івацэвіцкім раёне, у Мінскім лінгвістычным універсітэце. З 1 лістапада 2012 года працуе на Міжнародным радыё «Беларусь» (Белтэлерадыёкампанія).

Віцька з'явіўся ў нашай сям'і роўна год таму, на каталіцкае Раство.

А да гэтага ў цёткі Люды былі бяссонныя ночы — дзядзька барабаніў ноччу ў дзверы, брудны і галодны. Хросная перадала гэтую бажавільную постаць маёй маці на мяжы двух раёнаў, запэўніла, што мыла яго, але зарослы схуднелы бесхацінец сам потым прызнаўся, заікаючыся, што карміць — кармілі, а мыць — не мылі. «Добра, што паесці далі», сказала маці — і цэрла Віцьку тры вечары запар, пакуль бруд не сышоў з абгарэлай спіны.

Цяпер хросны ма́е асобны пакой у нашай кватэры, дакладней сказаць ¬– у бацькоўскай. Раней, жывучы са сваімі бацькамі, ён таксама меў свой пакой, праўда, мяне туды не часта пускалі — баяліся, што хросны можа пакалечыць. За сорак пяць гадоў жыцця дзядзька шмат каго калечыў, а перш за ўсё — сябе, толькі хто ці што ў гэтым вінны? Дурная кампанія, праца на будоўлях, распушчанасць дзевяностых? Сядзеў у пастарунку, тросся ў прыпадках эпілепсіі, гарэў, збіваў бацькоў, краў грошы, выліваў суп на падлогу. У дзяцінстве Віцька называў сябе воўкам і казаў, што яму трэба раздабыць «ваўчынае сэрца» і з'есці яго сырым.

У сямейным коле Віцю звалі Воўча. Нават у тэлефоне падпісала яго так.

«Дзядзя Воўча пад'еў», — тэлефанавала стомленая маці. І так было не салодка, а тут на табе — брат-інвалід.

Іншы раз думаеш: навошта такія выпрабаванні? Але кожны нясе і неба сваё з сабою, і свой крыж. Гэта бездакорныя выпрабаванні — можа, толькі ім суджана быць ідэальнымі ў нашым свеце.

Пакуль думалі, куды прыстроіць Віцьку, пра рэабілітацыю і догляд, ён збег на Новы год з новага месца, знайшоў, з кім выпіць і з кім пабіцца. Першага студзеня мама прасіла Воўчу сінякі перакіссю вадарода. Другога студзеня дзядзька не мог заснуць — не верыў, што спіць на чыстай прасціні і накрываецца чыстай коўдрай.

Цэлы год маці пыталася, ці правільна зрабіла, забраўшы Віцьку, бо наш тата супраць ягонага знаходжання ў кватэры.

За цэлы год Віцьку чатыры разы забіралі санітары і міліцыянты, а маці трапляла ў шпіталі.

У той Новы год я не паехала да бацькоў — мне было страшна бачыць Віцьку. З ім нават пагаварыць няма пра што. Няма пра што пагаварыць і з бацькамі, таму я не люблю сямейныя святы. Няма пра што пачуць па тэлевізары, але Воўча сядае да экрана блізка-блізка, на фільмах маўчыць і смяецца на рэкламах, паўтарае вершык пра ўкраінскія лекі ад запору.

Калі пасля першага вяртання дзядзькі прыехала да бацькоў, убычыла старых людзей. Мне стала страшна. Марна спрабавала ўсіх аб'яднаць за адным сталом — бацька раўнуе да Віцькі, у маці заўсёды шмат спраў, Воўча маўчыць.

Бабуля ж па-звярынаму любіла Віцю. Аднойчы ў далёкім дзяцінстве ён нібыта ўпаў з калыскі, і яна не магла да смерці дараваць сабе той выпадак. Нарадзіўшыся трынаццатага чэрвеня, бабуля лічыла сябе нешчаслівай, так бы і засталася «ў дзеўках», калі б нехта са свякоў не звёў яе з дзедам. Дзед казаў, што адзін наш родзіч быў пры пане вартаўніком, надта жорсткім чалавекам, кідаўся на людзей з сякерай. У пакаленнях усё паўтараецца, таму і Віцька такі атрымаўся…

Ён мог бы быць матэматыкам або рабіць мэблю на заводзе, а цяпер гэта саракапяцігадовы дзед са скручанымі пальцамі. Але ён любіць працу.

Усе родзічы памерлі, Віцька знайшоўся год назад. Дзе ён быў увесь гэты час — невядома, і сам не можа ўзгадаць. Ёў яблыкі і сырую бульбу, пабіў усе рэкорды каскадзёрскага майстэрства Беларусі…

Пра што ён марыць? Сумуе па сваіх бацьках? Чаго чакае ад надыходзячага года? А пра што мараць мае бацькі? Ці сумуюць па сваіх бацьках і чаго чакаюць ад надыходзячага года?

Мая сяброўка кажа, што ў кожнай беларускай сям'і ёсць свой Віцька. Няўжо такія віцькі не маюць права на ўпрыгожванне ялінаў? Хоць гэты снежань на смак, як таматы з крамы ўзімку, я прыехала праз сілу трыццаць першага з гітарай. Не праглынаюся, застравалі радкі з песні «…І цемра ў табе можа заставіць пачувацца зняважаным». Я прыехала, каб правесці эксперымент над сабой. Калі атрымаецца ахінуць траіх пяшчотай, я вытрымаю наступны год — сэрца навыварат. Я прыслухаюся да іх сапраўдных колераў. Пра што маўчаць ў навагоднюю ноч?

## Шырокі кругагляд

Марыя МАЛЯЎКА



Нарадзілася ў Кіеве ў 1990-м. Бацькі — беларусы з Палесся. Сям'я вярнулася на гістарычную радзіму. Скончыла факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Пачынала працаваць PR-спецыялістам, пасля падалася ў журналістыку.

Асноўны жанр звычайна вызначае як «фэнтэзі», хоць сам тэрмін страшэнна не любіць, бо мала хто можа даць яму адэкватнае азначэнне.

У межах Школы пісьменніка, як прызналася, «адрывалася напоўніцу і эксперыментавала з жанрамі», а сама Школа дала ёй творчую свабоду і зваротную сувязь. Гэта значыць, можна паэксперыментаваць/накасячыць, гарантавана даведацца, ці добра атрымалася, а таксама параўнаць свае працы з іншымі.

Куб існаваў у трохмернай прасторы. Яму быў вядомы свет у бясконцасці формаў і граняў. Ды і ўсе жыхары той старонкі геаметрыі, дзе ён існаваў, мелі такія ж уласцівасці. Акрамя трохкутніка.

Часам Куб нягучна перагаворваўся з суседзямі:

— Шкада яго. Што гэта за жыццё — існаваць у адной плоскасці? Ён жа зусім свету не бачыць. Ніякага кругагляду. У яго свет плоскі. Не хацеў бы я мець такую абмежаванасць!

З Трохкутнікам усе былі ветлівыя, бо асобы, надзеленыя шырокім кругаглядам, не маглі дазволіць сабе пагарджаць тымі, хто не падобны на іх. Гэта не сведчыла б пра шырыню поглядаў.

Але Трохкутніку хацелі дапамагчы.

— Вы б зрабілі сабе праекцыю, даражэнькі, — клапатліва казала Пірамідальная Трапецыя, ківаючы шырокімі бакамі. — Кажуць, у пачатку кнігі адна Акружнасць так зрабіла, — дадавала яна шэптам.

Трохкутнік сарамліва ціснуўся да краю старонкі.

— Метад праекцыі дае магчымасць дадаць трохкутнай фігуры адразу тры грані. А калі цалкам адарвацца ад плоскасці, то і цэлых чатыры, — аўтарытэтна паведамляў навуковец Паралелепіпед.

— Я не магу зрабіць такую неабдуманую рэч, — мармытаў Трохкутнік, — бо я змянюся і стану іншай фігурай.

— Ды хіба гэта дрэнна, дружа? — паблажліва пытаўся Куб. Ён лічыўся сябрам Трохкутніка. — Трэба не баяцца змяняцца. Інакш… Проста не зусім цікава, я мяркую, бачыць свет толькі плоскім. У жыцці трэба спазнаваць усё новыя і новыя грані.

— Але я баюся стаць іншым.

Фігуры за спінай Куба пацікалі гранямі.

— Немагчыма з ім нічога зрабіць, — казалі Кубу ў іншым кутку старонкі за слупком тэксту. — Ён адмаўляецца развівацца.

— Гэта яго права. Але шкада яго. Ён жа свету зусім не бачыць.

— Добра, што хоць не такая чорная ў яго праца, як у прамых. Тыя, бедныя, зусім на пабягушках.

— Абмежаваныя асобы.

— Вось паспрабуй скажы ім, што свет вялікі і аб'ёмны.

Фігуры захіхікалі. Куб глядзеў на іх трохі збоку, паказваючы сваім выглядам, што, вядома, усё гэта мае месца, але Трохкутніка яму шкада.

Увечары, калі Трохкутнік, як заўсёды, быў адзін, у яго куточку пачуўся шоргат. Побач на рамку загалоўка прысела прыгажуня — Трыганальная Зорная Біпіраміда, па мянушцы Зорка. Яна была надзвычай сціплая, змяшчалася недалёка ад Трохкутніка і ніколі не ўдзельнічала ў свецкіх размовах. Толькі слухала краем вуха.

— Скажы мне, — хутка зашаптала яна. — Я хачу спытацца… Не, не так, як звычайна пытаюцца, я сапраўды хачу ведаць… Чаму ты не хочаш стаць трохмерным?

— Зараз, — сказаў Трохкутнік. — Вось… Давай памаўчым. Паслухай!

Яны прыслухаліся. Зорка чула лёгкі звон цішыні.

— Што? Што такое?

— Т-с-с! Трэба слухаць глыбей. За цішынёй.

Старонка перагарнулася. Яны не заўважылі гэтага. А што тут дзіўнага? Не заўважаем жа мы, як круціцца зямля па арбіце.

Прыслухаліся мацней, і раптам Зорка пачула, як сціхае вечнае шаргаценне літар, а з-за межаў старонкі далятаюць іншыя гукі. Яны станавіліся ўсё выразней. Пачуўся дзіцячы голас.

— Вось, слухай цяпер, — прашаптаў Трохкутнік.

— А гэта што за фігура? — спытаў мужчынскі голас, і яны нават заўважылі, як да Паралелепіпеда наблізіўся вялікі шурпаты палец. Зорка глядзела ў захапленні. Таго, знешняга свету ні яна, ні яе сябры яшчэ ніколі не бачылі.

— Гэта… Гэта — скрыня! — выгукнуў дзіцёнак.

Зорка падавілася смяшком, прыкрыўшы рот. Трохкутнік паглядзеў на яе і таксама засмяяўся. Трэба ж — Паралелепіпеда абазвалі скрыняй!

— А гэта?

— А гэта — квадрат. Квадрат з квадрацікаў!

— Ага. А ўсе квадрацікі разам завуцца куб. А гэта?

Тут палец відавочна паказаў на Зорку.

— А гэта зорачка! — закрычаў дзіцёнак. І нават у захапленні наблізіў тварык. — Якая прыгожая!

Зорка пачырванела, а Трохкутнік паглядзеў на яе і хітравата ўсміхнуўся.

— Ну а вось гэта? — спытаў голас сур'ёзна. — Гэтую фігуру ты ведаеш.

— Гэта Трохкутнік!

— Ага. А цяпер скажы, чым ён адрозніваецца ад іншых фігур. Вось гэтай, гэтай, гэтай…

Дзіцёнак доўга думаў і вадзіў пальчыкам па старонцы з кутка ў куток.

— А! Я ведаю! Трохкутнік можна проста выразаць з паперы, а астатнія трэба яшчэ і складваць.

— Ого! — здзівіўся голас. — Глыбока разважаеш. Так, розніцу ты правільна заўважыў. Гэтыя фігуры адрозніваюцца тым, што яны аб'ёмныя. Ну вось, цяпер мы навучыліся адрозніваць плоскія і аб'ёмныя фігуры. Развітайся з трохкутнікам і яго сябрамі — і можаш перагарнуць старонку.

Галасы аддаліліся.

— Значыць… — Зорка ва ўсе вочы глядзела на Трохкутніка. — Уся наша старонка — для таго, каб вывучыць тыпы фігур?

— Ага.

— І ты… Без цябе ніяк не абысціся? І ўсіх параўноўваюць з табой? Значыць, ты тут самы галоўны?

Трохкутнік засаромеўся:

— Ну, я проста выконваю сваю ролю.

— Дык вось чаму!..

— Так. Бачыш, калі я стану іншай фігурай, старонку можна проста вырваць і выкінуць.

— А яны ўсе… нават не ведаюць, навошта мы тут!

— Можа, няхай лепш і не ведаюць, — сказаў Трохкутнік і гукнуў голасам дзіцёнка: — «Гэта скрыня!»

І яны доўга-доўга смяяліся каля рамкі загалоўка «Тэма 8. Плоскія і аб'ёмныя фігуры».

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (117) | 27 мая 2016 | № 21 (486) Новы час

# У мяне ёсць сябра…

Усевалад СЦЕБУРАКА



### Сабачая адзінота

*Калі гаспадар выходзіць*
*нават на пяць хвілін,*
*сабаку здаецца,*
*што ён застаецца*
*ужо назаўсёды адзін!*

*Ляжаць непатрэбныя цацкі,*
*салодкая костка ляжыць.*
*Сабаку тужліва*
*і жыць немажліва,*
*і час так марудна бяжыць!*

*А побач за сценкай*
*свабода*
*буяе, віруе, кіпіць!*
*І добрыя людзі,*
*і такса, і пудзель…*
*Вось жыць бы,*
*здаецца, і жыць!*

*А кепскія думкі пануюць*
*псуецца сабачы*
*настрой —*
*сядзіць як пабіты*
*усімі забыты.*
*І смерці чакае з касой!*

*Ды раптам пачуюцца крокі,*
*павернецца вочка замка —*
*прылашчыць, абдыме,*
*тугу ў момант здыме*
*найлепшага сябра рука!*

***

*А проста снег ідзе вакол*
*і проста ранак —*
*найлепшы час, што існуе для пагулянак.*
*А проста неруш*
*і вакол такая ціша,*
*што чутна, як*
*халодны снег сабака ліжа.*
*Няма машын, няма людзей.*
*Свет белых фарбаў*
*самотны дворнік*
*згрэбці ў кут спрабуе марна…*
*І парк застылы паглядае з-пад павек,*
*як у ім блукаюць*
*звер, зіма і чалавек.*

***

*У мяне ёсць сябра Пёс —*
*вушы, лапы, мокры нос.*
*Ён багата мае справаў —*
*іх выконвае ўсур'ёз.*
*Хвост трымціць напагатоў —*
*трэба разганяць катоў.*
*Задзіраць патрэбна лапу*
*каля кожнага з платоў,*
*корпацца — у лужынах,*
*плаваць у калюжынах.*
*А яшчэ патрэба ёсць*
*назбіраць дзядоў у поўсць,*
*на шматкі парваць паперку*
*і за ўсё прасіць цукерку!*

***

*У сабачкі скочкі ў хаце —*
*вось і ўсё яго багацце.*
*А… у коціка глісты.*
*Хочаш? Будзеш мець і ты!*
*І лішай ў абодвух ёсць,*
*і вывальваецца поўсць…*
*Досыць жыць ім у двары —*
*іх дахаты забяры.*
*Й не пытай парады ў таты.*
*Тата — добры.*
*Будзе рады!*

***

*Ці могуць сабакі любіць?*
*Сказаць мне напэўна цяжка.*
*Што скажа дваровы бадзяжка,*
*якому пад плотам жыць?*

*Ён скажа:*
*— Канечне магу!*
*Я буду карысным дужа,*
*сагрэю ў любую сцюжу,*
*ад злодзеяў зберагу,*
*ніколі ад вас не збягу!..*

*Укладзé галаву на нагу,*
*прымоўкне і вочы прымружыць —*
*і ты зразумееш, дружа,*
*чаго я сказаць не змагу…*

*Ды лепей зусім не пытаць,*
*а сесці з кудлатым побач,*
*на месяц зірнуць апоўнач*
*і сябрам сабачым стаць!*

***

*У нас ёсць праблемы і*
*розныя справы,*
*у сабачкаў-коцікаў —*
*толькі забавы.*
*Ды ім сапраўды*
*небагата і трэба:*
*вялікая міса,*
*малая патрэба,*
*кавалак кілбаскі,*
*скарыначка хлеба…*
*Хіба яшчэ траўкі*
*ды крышачку неба?*
*Хіба галаву на каленкі*
*паклясці —*
*і трошкі маўклівага, ці-*
*хага шчасця!*

***

*У сабакаў жыццё не кароткае,*
*яно проста бяжыць шпарчэй!*
*Без патрэбы ў абутку і портках*
*па сцяжынах, лагчынах, пагорках*
*лапы рухаюцца хутчэй!*

*Не мінаючы гнёзды і норкі,*
*не адводзячы прагных вачэй…*
*Яны рвуцца з кароткае шворкі*
*у той свет, дзе святлейшыя зоркі,*
*дзе іх сонца гарыць ярчэй!*

*У сабакаў жыццё не кароткае,*
*не садзіце яго на ланцуг.*
*У сабакаў звярыныя продкі,*
*у сабакаў ваўчыныя ноткі*
*і свабодны няўрымслівы дух!*

***

*Торгаюцца лапкі*
*у сабачкі ў сне:*
*разварушыць ложак,*
*коўдру загарне,*
*галаву закіне,*
*скруціць у колца хвосцік,*
*выгнецца ў сапраўдны*
*гімнастычны мосцік.*

*Ад чаго з жывёлкай робіцца такое?*
*Ад чаго істота ў стане непакою?*
*Ні таму, што кепска,*
*ні таму, што мулка,*
*а таму, што і ў сне*
*доўжыцца прагулка!*

***

*Неяк ранкам маляўнічым*
*ён узгадаў:*
*я ж паляўнічы!*
*Досыць на канапе спаць —*
*пачынаю паляваць!*

*Прагуляўся па кватэры,*
*лапай расчыніў усе дзверы,*
*нос усунуў: гардэроб —*
*што пагрыз, а што пашкроб.*

*Са стала сцягнуў сурвэтку,*
*пажаваў у вазе кветку*
*і любімай бабці*
*пакамечыў тапці.*

*Не мінуў лядоўню —*
*вось дзе справаў поўна!*

*Першую з паліцы*
*ухапіў курыцу!*
*Як з нары за хвост лісу*
*пацягнуў і кілбасу.*

*Пасту з'еў у ванне —*
*вось дык паляванне!*

**Малюнкі Веры Сцебурака**



# Разведчыца Таня Баўэр,
## або Гісторыя аднаго праколу

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Задуму дакументальнага твора пра Янушкавічы мне падказаў зямляк, былы ваенны журналіст Леанід Ляшчынскі. Занатаваўшы яго ўспаміны, напісала пра школу і настаўнікаў: дырэктара Рыбчыка, трох Жардзецкіх, двух Мацкевічаў і многіх іншых — хто ў нас вёў прадметы ці проста некаторы час працаваў. Пасля ў сферу ўвагі ўцягнуліся навакольныя вёскі: двое Якубавічаў, Рацькавічы, Сліжына, Саўдзеневічы, Калачы. Разам з людзьмі, іх аповедамі пра мінулае прыйшла вайна. Тэма, якой я заўсёды цуралася, накрыла мяне з галавой. Лагойшчына — край лясны, а значыць, партызанскі...**

**Прапаную ўвазе чытачоў адзін з раздзелаў будучай кнігі.**

Лагойшчына найболей падыходзіла для выведкі і дыверсійнай дзейнасці: край лясны і, да таго ж, недалёкі ад занятага немцамі Мінска.

Група з трох чалавек была скінута ў Руднянскім бары, дзе базавалася некалькі партызанскіх атрадаў. Задачай групы быў збор звестак, перадача іх і забеспячэнне сувязі з Цэнтрам. Камандзір — Андрэй (сапраўднае імя і прозвішча невядомае) і дзве дзяўчыны — Таня Баўэр і Наташа (Кацярына Няпомняшчая). Камандзір, ён жа радыст, спачатку жыў у лясной зямлянцы, схуднеў і аброс, пасля на яго натыкнуліся партызаны з атрада Дзімы. Даведаліся, хто такі, і пасялілі ў вёсцы Бабры, куды фашысты не даходзілі.

Пра першых двух з групы мы ведаем мала, пра Таццяну напісана кніга. А пра капітана «Дзіму», камандзіра атрада і ардэнаносца, упамінаецца толькі аднойчы, адным словам.

Два гады правяла разведчыца ў самым логаве фашыстаў — акупаваным Мінску. З дапамогай падпольшчыкаў яна атрымала пашпарт на імя Таццяны Клімантовіч, ураджэнкі Віцебска, жыла ў надзейных людзей на кватэры. Добра размаўляючы па-нямецку, прайшоўшы вучобу ў разведшколе, дзяўчына лёгка пранікала ў салдацкія клубы, знаёмілася з афіцэрамі, знаходзіла памагатых сярод гаражан. Каб перадаць каштоўную інфармацыю, шматкроць пехатой праходзіла 40 кіламетраў да Баброў і назад, у Мінск. Пры нагодзе прасілася на чужыя падводы. Рацыі яна не мела, толькі насіла пры сабе маленькі пісталет.

Ішла Таня на Лагойшчыну ў выглядзе жабрачкі, праз Заслаўе, Угляны і Казекава. Праз сваіх людзей здабывала нямецкія пропускі, бо іх узоры кожныя дзесяць дзён мяняліся. Не раз папярэджвала партызанаў пра аблаву на рынку альбо набліжэнне блакады. Было, што ракетамі наводзіла савецкія самалёты на вайсковыя аб'екты ворага. Арганізоўвала падрывы нямецкіх клубаў і інтэрнатаў. А яшчэ паспяхова наладжвала кантакты з чэхамі і венграмі, а таксама савецкімі ваеннапалоннымі, якія пагадзіліся служыць Вермахту. З апошніх складаліся так званыя ахоўныя батальёны. Падобна, што на здрадніках разведчыца і пагарэла...

Прызнаюся: імя мужнай дзяўчыны мне раней не траплялася. Упершыню пачула яго ў школьным музеі Калачаўскай СШ. Азнаёмілася з электронным варыянтам кнігі М. Паляноўскага «Дважды Татьяна» (Москва, «Детская литература», 1974), распытала жыхароў вёскі Бабры. Там была асабістая база Таццяны Баўэр, яе прыстанішча. Людзі дзяўчыну памятаюць і шкадуюць дасюль.

Не ацэньваючы мастацкага ўзроўню твора, я прасачыла сюжэтную канву дакументальнай аповесці. Кніга цалкам адпавядае ідэалагічнай устаноўцы тых часоў: паказваць падзеі вайны выключна ў гераічным плане. З адлегласці сённяшняга дня многія эпізоды бачацца ў іншым ракурсе.

Масквічка Таня была смелай, нават дзёрзкай дзяўчынай, але, здаецца, забывала, што галоўны абавязак разведчыцы — зусім не пападненне атрадаў. Вярбоўка ўвогуле рэч небяспечная; заўсёды ёсць шанец нарвацца на двурушша. Менавіта праз гэта загінуў камісаваны па інваліднасці афіцэр Говараў, які ў Янушкавічах стварыў атрад «Бальшавік».

Уявіце наступную карціну: чацвёра нямецкіх салдат, якія «клянуць фюрэра», выбіраюцца ў лес на партызанскую службу. У раёне Старажоўкі сядаюць у крыты грузавік. Пад шынялямі ў іх зброя, пры сабе патроны і няхітры скарб. У кабіне з вялікім чамаданам сувязная па імені Ванда, яна пакажа дарогу і прадставіць «навабранцаў» камандзіру. Машына не паспела набраць хуткасць, як яе... спыняюць гестапаўцы.

Насамрэч кандыдатаў у атрад было трое, ля Дома афіцэраў Таня з імі сустракалася. Аднак напрасіўся чацвёрты. Як быць? Яго ж таксама неабходна «прашчупаць». Неяк не атрымалася... Сямнаццацігадовую сувязную павесілі, расстралялі таксама яе маці і сястру. Тані перадалі, што ўсіх здаў... чацвёрты немец! Такога не пабачыш нават у кепскім прыгодніцкім фільме!

Яшчэ адзін эпізод. Па заданні Таццяны дзве падпольшчыцы ў клубе разведчыкаў-венграў завязваюць кантакт з сяржантам, атрымліваюць ад яго батарэйкі і акумулятары для рацыі. Венгр выказвае намер разам з некалькімі суайчыннікамі павярнуць зброю супраць фашыстаў. Разведчыца дамаўляецца з камандаваннем і толькі пасля гэтага (!) сам-насам сустракаецца і размаўляе з Сенашы. Іх план сарваўся, сяржанта схапілі. Паўтары гады нявол, штрафбат і іншыя перыпетыі — гэта асобная гісторыя. Скажам толькі, што Пал Сенашы ўрэшце здолеў здацца савецкім армейцам, скончыў Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў і стаў на радзіме дыпламатам.

Што з дзяўчатамі-памочніцамі? Адпраўлены ў Германію на прымусовую працу.

Падрабязней спынімся на факце вярбоўкі двух былых савецкіх ваеннапалонных. З абоімі Таня таварышавала і карысталася іх паслугамі. Украінец Емяльян Кашавы, пераведзены ў лес, пайшоў у горад на заданне і нарваўся на свайго былога камандзіра. Прыняў страшную, пакутлівую смерць (быў укрыжаваны і спалены), але нікога не выдаў. Другі... На асобе другога мы мусім запыніцца, бо па ім шмат пытанняў.

Канстанцін Сумец прадстаўлены аўтарам згаданай вышэй кнігі як «былы плотнік». Гэта ўсё роўна, што «сын юрыста»: ні нацыянальнасці, ні месца нараджэння, ні нават узросту. Падкрэсліваецца адчуванне віны, якое нібыта «заставляло верить, что он искренне готов при возможности искупить вину...». «Не слишком-то он понимал, что и как с ним произошло, отчего он подчинился чужой воле и надел гитлеровскую форму». Пагадзіцеся, тут гучаць спачувальныя ноткі...

Нічым сур'ёзна нашкодзіць гітлераўцам Сумец не паспеў, бо папаўся на дробязі — у яго пад падушкай знайшлі газету «Известия». Разведчыца першым пераправіла яго на Лагойшчыну. Спытаемся: ён сапраўды гэтага хацеў ці вёў з дзяўчынай гульню? Фашысцкі паслугач ахоўваў чыгунку, меў харчаванне, дах над галавой і адносны камфорт. З-за выпадковасці ён мусіў пакінуць наседжанае месца, памяняць яго на цяжкі, поўны небяспекі лясны побыт. Усё далейшае, пра што я раскажу ніжэй, вельмі падобна на помсту.

Адзін за адным гінулі або пакідалі горад людзі, на каго разведчыца абапіралася. Сама яна мноства разоў пазбягала смерці: то своечасова выкіне свой пісталецік, то заскочыць на чужую печ (і яе абароніць гаспадыня)... Аднойчы Таццяну пры чарговых уцёках параніла ў спіну, але вылежалася, акрыяла...

Аднак вернемся да кнігі. Аповесць багатая на фактаграфію. Маскоўскі журналіст у 60-ыя гады па крупінках збіраў інфармацыю ў рэальных людзей, былых партызан і ўдзельнікаў мінскага падполля. З'ездзіў у міжнародную камандзіроўку да вядомага венгерскага дзеяча Іштвана Баўэра, бацькі Тані. Адно не ясна: аўтар не ўсё раскапаў, альбо раскапаў, але не мог ці не захацеў абнародаваць? Тым болей у кнізе, прызначанай для юных чытачоў... Ёсць сумнеў, ці дапусцілі яго да тых, хто ведаў іншую, не агульнапрынятую «праўду» наконт абставінаў Танінай гібелі і Танінага асабістага жыцця.

Яе звалі «бесправальнай разведчыцай». Але Таццяна Баўэр усё ж «пракалолася» — і самым фатальным чынам. Мясцовыя сцвярджаюць, што перад апошняй блакадай яна зацяжарыла, і нарадзіла дзіця, якога бацька не хацеў. (Хто ён, яе сужыцель?) І што сапраўды загінула на возеры Палік, куды выціскалі партызанскія злучэнні, аднак зусім не ў час боя.

Маладзенькай была Таня і нявопытнай... Дваццаць гадоў мела, калі загінула. Зацяжарыць пры адказным заданні, у экстрэмальных умовах азначала паставіць пад удар усю разведаперацыю.

...Пры вёсцы Бабры ў разгар вайны дзейнічала партызанская група нейкага Косці. (Прозвішча мясцовыя жыхары не ведаюць.) Невялікая, чалавек 12 ці 15, не болей. Таня ўваходзіла ў тую групу. Косця часта бываў у доме Пятра Юрковіча — там, дзе заўсёды спынялася і разведчыца, калі выбіралася з горада. На яе целе ў лазні жанчыны бачылі сінякі. Прызналася: здзекуецца. Возьме скуру ў пальцы і закручвае...

Жанкі бачылі, як той Косця застрэліў бусліху. (Бусліная сям'я штогод пладзілася на могілках.) Доўга яшчэ прылятаў на гняздо адзінокі бусел... «Звярыны нейкі быў чалавек», — канстатавала Любоў Пятроўна.

Але ўсё гэта, што называецца, «кветачкі». З таямнічым «ухажорам» Тані Баўэр звязаны дзве неверагодныя, цалкам крымінальныя гісторыі. Іх захавала людская памяць. А я болей веру простым людзям, чымся прыезджым журналістам і заімшэлым ідэалагічным устаноўкам.

...Таня нарадзіла дзяўчынку. Роды праходзілі ў хаце таго самага Пятра Юрковіча. Пакуль Марыя (сяброўка і дачка гаспадара) бегала па бабку-павітуху, дзіцяці не стала. Толькі варанне доўга кружыла над заснежанымі кустамі...

У чужой хаты былі вочы і вушы. Падрабязнасці шакіруюць, іх нельга выкласці на паперу. Такая тайна — як вугельчык у руцэ, яна апякае.

...На возе ехалі трое: Таня, Косця і мужчына, да якога, па назіранні вяскоўцаў, сужыцель раўнаваў. Параўняўшыся з просекай, Косця сказаў каханцы: «Ідзі збяры жменю ягад». (Тады якраз спелі суніцы.) Калі тая адышла, супернік быў застрэлены. Яго закапалі збоку вёскі трое старэйшых мужчын.

Давайце разбярэмся. Хто быў камандзірам разведгрупы, а значыць — і самой Тані? Андрэй (пра якога была згадка напачатку). З кім мела пастаянны кантакт і хто меў над ёй рэальную ўладу? Па логіцы — толькі Андрэй. На возеры Палік (месцы гібелі) разам з Таняй камандзіра ўжо не было. Куды ж ён падзеўся? У якасці сувязіста ўпамінаецца іншы чалавек, нейкі «другі радыст». Калі Таня адносілася да групы Косці, а па службе падначальвалася Андрэю, то камандзіры маглі змагацца не толькі за жанчыну, але і за лідэрства.

Аўтар скажае факты, пішучы, што на Палік у маі 1944-га пайшла «група Андрэя» ў складзе яго самога, Тані, Юрковіча і Дабрагоста. Тэкст, верагодна, падганяўся пад афіцыйную версію, быццам усе загінулі ў баі пры выхадзе з акружэння.

Юрковіча сярод названых таксама не было. Група выглядала так: Дабрагост, Ляшчынскі, Таня... і той самы Косця. Двое першых вялі параненую ў нагу паплечніцу. Яна прасіла пакінуць альбо дабіць яе, інакш загінуць усе. Косця адціснуў мужыкоў і ўзяў дзяўчыну пад руку: «Мы самі справімся». Праз некаторы час прагучаў адзінокі выстрал. Потым Ляшчынскі, пабачыўшы Косцю аднаго, спытаў: «Дзе Таня?» Адказ: «Павезлі ў шпіталь».

Таню Баўэр павезлі ў брацкую магілу. Да прыходу чырвоаармейцаў заставалася тры тыдні. Заўважце: яна не пакінула грамадзянскага мужа пасля родаў, не здала яго партызанскаму суду пасля выстрала ў лесе. І стала для яго непажаданай сведкай перад вызваленнем Беларусі.

...Прыязджалі з Венгрыі бацькі дзяўчыны, размаўлялі з жыхарамі вёскі. З галоўнымі сведкамі апошніх хвілін жыцця дачкі яны не сустракаліся. Імя К. Сумца неяк падазрона знікае пры канцы дакументальнай аповесці. Як быццам аўтара перастае цікавіць далейшы лёс двойчы перабежчыка. Упамінаецца ён хіба ў сувязі з тым, што ў лес з лёгкай Танінай рукі трапіла яшчэ некалькі служачых з батальёна ваеннапалонных. Ці не яны складалі тую самую «групу Косці?»

Толькі ў 1969 годзе «дагнаў» разведчыцу ордэн Айчыннай вайны I ступені (пасмяротна). Два гады дзейнічаць у варожым атачэнні, назіраючы перамогу, рашаць сур'ёзныя задачы, матляючыся паміж партызанскімі вёскамі і Мінскам, — гэта сапраўдны подзвіг. Разам з тым узнікае заканамернае пытанне: хіба засакрэчаны кадравік Андрэй не быў варты высокай адзнакі? А Наташа, якая нікога не выдала пры арышце і прайшла некалькі канцлагераў, — яна што, не заслужыла ўзнагароды? На шчасце, усё пераадолела і засталася жывой. І таксама многа ведала.

...Мясцовыя дзяўчаты сустрэлі знаёмца ў Мінску. Паклікалі: «Косця! Косця!» Ён пачуў, але тут жа адвярнуў галаву і растварыўся ў людскім патоку.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (117) | 27 мая 2016 | № 21 (486) Новы час

# Матылёк на золкай далоні

## (Да 70-годдзя Васіля Гадулькі)

**У Беластоку ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» выйшла кніжка выбраных твораў і эпісталярыю Васіля Гадулькі «Па-над сцежкай лёсу», прыўрочаная да 70-годдзя гэтага таленавітага паэта з-пад Жабінкі. Нялітасцівы, трагічны лёс паэта (1946–1993), як і яго творчы набытак, дзякуючы неабыякавым людзям выявіўся толькі пасля яго нечаканай і загадкавай смерці. Адна з такіх асобаў — паэтка з Гарадзеншчыны Галіна Самойла. Іх меладраматычнае ліставанне, змешчанае ў кніжцы, а таксама псіхалагічныя і філасофскія калізіі жыцця Гадулькі яна і спрабуе патлумачыць у гэтых суб'ектыўных развагах.**



Я бачыла Васіля толькі на семінары маладых творцаў у «Іслачы». Мы з ім амаль не гутарылі, проста прысутнічалі побач на занятках, дзе разбіралі творчасць кожнага ўдзельніка семінара, чыталі свае вершы і слухалі вершы іншых. З намі пастаянна былі Рыгор Барадулін і Яўген Міклашэўскі. Прыязджалі Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц. Сяргей Грахоўскі, Іван Навуменка тады адпачывалі ў Доме творчасці. Астатніх не памятаю. Васіль Гадулька быў увесь час разам з Васілём Сахарчуком. У самым канцы семінара ўсе пачалі абменьвацца адрасамі. Вось тады мы з Васілём і далі свае адрасы адзін аднаму, як і ўсім іншым удзельнікам сустрэчы. Першым напісаў ён, я яму адказала... Думаю, таму, што мы вызначылі адзін аднаго па творчасці. На маю душу з усіх тады пачутых леглі яго вершы, на яго душу — мае. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што мы падобныя...

Я ведаю пра Васіля Гадульку тое ж, што цяпер ведаюць усе, хто прачытаў наша ліставанне і папярэднюю кнігу «Голас», выдадзеную Леанідам Галубовічам, дзе змешчаны ўспаміны пра Васіля Гадульку ягонага сябра Васіля Сахарчука і нешматлікіх пісьменнікаў, якія з ім сустрэліся. Падрабязнасцей ягонага дзяцінства, юнацтва, дарослага жыцця не ведаю.

Што наконт характару, то Васіль быў сарамлівым чалавекам, нясмелым. Сарамлівасць — гэта фактычна сацыяфобія, якая можа мець розныя ступені праяўлення. Я ведаю свой узровень сацыяфобіі, узровень Васіля я не ведаю, але што яна ў яго была — гэта факт. Тэмперамент у нас меланхалічны: мяккасць, чуллівасць, самотнасць, нерашучасць, няўпэўненасць, разгубленасць у нязвыклай сітуацыі. Людзям меланхалічнага тэмпераменту, тым больш сарамлівым, супрацьпаказана працаваць з людзьмі. А мы выбралі прафесіі настаўнікаў... Я магла б працаваць настаўніцай у базавай вясковай школе, дзе маленькія класы, але ж я паехала жыць у горад... Васіль мог бы быць цудоўным перакладчыкам, але ж не навідавоку, не непасрэдна ў зносінах з замежнымі гасцямі, а, напрыклад, перакладаючы мастацкую ці тэхнічную літаратуру для распаўсюджвання, для друку. Такім чынам, мы дрэнна ведалі сябе і свае магчымасці, калі выбіралі прафесіі.

Мужчын-меланхолікаў рэдка кахаюць жанчыны, таму што жанчына ўсё ж хоча мець мужа-абаронцу, апору сям'і. Уявіць сабе сям'ю з Васілём Гадулькам я нават не спрабавала: і я нічога не магу, і ён нічога не змог аж да сарака гадоў. Як жыць? Трэба ж змагацца, а хто гэта будзе рабіць, калі мы абое не можам? Мы з ім былі ідэальнымі сябрамі з поўным узаемаразуменнем, і на сённяшні дзень, калі для мяне ўжо не важна маё месца сярод людзей, а важна мець побач роднага чалавека, які мяне разумее, я выбрала б, безумоўна, Васіля Гадульку. Але каханне да аднаго мужчыны (без сяброўства) і сяброўства з другім (без кахання) мая доля дала мне адначасова. І я зрабіла той выбар, які падаваўся мне больш правільным на той час, я пайшла туды, куды мяне тады паклікала сэрца. Зрэшты, і тое, і тое было няпоўным, аднабаковым...

З боку Васіля Гадулькі было да мяне і каханне, і сяброўства, я разумею гэта цяпер і разумела тады. Не магу пагадзіцца, што гэтае каханне было ягоным няшчасцем, чарговым жыццёвым «няшанцам», як гэта расцэньваюць людзі, якія пішуць пра ягоны лёс. Быць здольным на такое каханне, перажыць яго, нават безадказнае, гэта само па сабе ўжо вялікае шчасце, бо яго амаль не бывае на зямлі. У мяне вось, як я ўжо сказала, такога адзінага кахання не было — яно распалавінілася... Таленавітыя людзі нерэалізаваныя ў жыцці пачуцці заўсёды рэалізуюць у творчасці. Я ўпэўнена, што менавіта ў стане закаханасці (да мяне ды іншых жанчын) Васіль напісаў шмат высокіх па гучанні вершаў. Такім чынам, і ў гэтым плане каханне было шчасцем, а не бядою.

Хоць я і напісала Васілю ў адным са сваіх лістоў, што не розніца ў нашых узростах паўплывала на мой выбар, але цяпер я думаю, што раз'ядналі нас усё ж такі ўзрост, які ляжаў паміж намі, і звязаная з ім жыццёвы вопыт і сістэма каштоўнасцяў кожнага з нас. У свае дваццаць пяць я абсалютна не ведала, што такое адзінота, беднасць, незразуметасць, безабароннасць. Маёй праблемай была толькі мая сарамлівасць, ва ўсім астатнім я была шчаслівая. Калі Васіль пісаў мне, яму было сорак. І я саракагадовая, перажыўшы многае з таго, што папярэдне перажыў Васіль, была ўжо цалкам, сэрцам і розумам, з Васілём Гадулькам, але Васіля тады ўжо не было на свеце.

Дарэчы, жанчын-меланхолікаў таксама не вельмі кахаюць, бо мужчыны не любяць павышанай эмацыянальнасці, трывожнасці, плаксівасці, якія ўласцівы такім жанчынам. Суцяшаць, суперажываць — гэта не мужчынскі занятак, гэта ім надакучвае. Таму і маё каханне не збылося... Шквал маіх эмоцый мог бы вытрымаць хіба што толькі Васіль Гадулька...

Сарамлівыя людзі звычайна такімі нараджаюцца. Я думаю, што Васілёву праблему ў яго сялянскай вясковай сям'і не лічылі праблемай і ніяк ёю не займаліся ні бацькі, ні настаўнікі. Таму сваю праблему Васіль цалкам прынёс у дарослае жыццё. Людзі вельмі добра, на ўзроўні падсвядомасці, адчуваюць, з кім маюць справу: з дужым псіхалагічна чалавекам ці са слабым. І хоць праз хрысціянскую рэлігію ў нашым грамадстве прапагандуюць для людзей-вернікаў ідэю любові, на самай справе наш свет пабудаваны на культе сілы. Нездарма існуе пагаворка ў народзе: «Правы той, у каго болей праваў». Сіла чалавека грунтуецца на моцным тэмпераменце, на характары цвёрдым і на месцы ў грамадскай іерархіі, якое ён здолеў заняць. Людзі слабага тэмпераменту і характару не канкурэнтаздольныя ў барацьбе за такое месца.

Талент паэта не ў лік. На сённяшні час няма сапраўдных крытэрыяў, па якіх можна было б выявіць, вартае штосьці напісаў паэт ці не. Таму ў паэзіі ацэньваюць часцей за ўсё асобу паэта (моцную і камусьці цікавую), а не сам талент (які можна аб'ектыўна ацаніць, калі абстрагавацца ад асобы).

Васілю лёс падарыў адданага сябра Васіля Сахарчука, які талент Гадулькі ацаніў вышэй, чым свой (на што здольныя толькі сапраўдныя сябры) і шмат публікаваў яго вершаў у раённай газеце. Ён жа, наколькі мне вядома, выцягнуў Васіля Гадульку ў свет, на рэспубліканскі семінар маладых літаратараў. Васіль Сахарчук зрабіў усё, што мог, каб рукапіс кнігі Васіля Гадулькі трапіў у сталічныя перыёдыкі і выдавецтва. Астатняе ад яго ўжо не залежала. У тым, што творчасць Васіля Гадулькі засталася на зямлі пасля смерці аўтара, вялікая заслуга Васіля Сахарчука, на маю думку. Бо, калі б яго не было ў жыцці Васіля Гадулькі, то ці захоўваў бы апошні наогул свае вершы і ці напісаў бы ён іх так шмат? Усё ж такі для творцы вельмі важна, каб быў на ягоныя творы водгук. Васіль Сахарчук, як я разумею, захаваў архіў Васіля Гадулькі, які пасля смерці Васіля Сахарчука трапіў да Леаніда Галубовіча.

Такім чынам, я зноў буду спрачацца з тымі, хто лёс Васіля Гадулькі называе суцэльным «няшанцам», як гэта вызначыў, дарэчы, і ён сам. У сяброўстве, хай сабе і адзіным, ён быў шчаслівым чалавекам.

Пасля семінару Васіля Гадульку прызналі таленавітым і ў Мінску — і даволі часта публікавалі ў «ЛіМе». Але ж пра выданне ўласнай кніжкі не мог паруліцца з-за свайго характару. За яго зноў клапаціўся той жа Васіль Сахарчук, значна больш упэўнены ў сабе і мужны чалавек, аднак вынікаў і ад яго клопатаў не было.

Беларусы — народ даволі эгаістычны, бо найперш кожны думае пра сябе, псіхалагічна нашы людзі вельмі адасоблены адзін ад аднаго, жывуць кланамі, дапамагаюць бліжняму найчасцей у тых выпадках, калі блізкі папярэдне ўжо дапамог або калі ёсць спадзяванне, што дапаможа ў будучым... Беларусы талерантныя і мяккія да іншаземцаў, а ўнутры краіны гэта даволі прагматычны народ, заглыблены ў матэрыяльныя каштоўнасці больш, чым у духоўныя. Статус у грамадстве і матэрыяльны дабрабыт — вось крытэрыі паспяховасці чалавека для беларуса. Крыўдна, што і ў літаратурным свеце крытэрыі прыкладна такія ж.

Васіль Гадулька вучыўся заўсёды толькі на выдатна, быў разумны ва ўсіх адносінах, меў відавочны талент... Сам жа сцвердзіць сябе не мог з-за сарамлівасці. Хай бы ж людзі пра яго падумалі, напрыклад, тады, калі выключалі яго з інстытута замежных моваў: «А дзе будзе працаваць гэты юнак з яго здольнасцямі?» Выключылі і больш не пацікавіліся хлопцам...

А пасля, калі ўжо ў сталым узросце прызналі яго талент, чаму ён заставаўся паляводам? Была ж раённая газета побач, бібліятэка... І няўжо нідзе не былі патрэбныя перакладчыкі? Там жа ад Жабінкі і Брэст недалёка. Нікуды ж яго не запрасілі на працу... можа, ужо з-за п'янкі, з-за дрэннай рэпутацыі. Але ж і гэта магло б выправіцца, калі б чалавеку далі шанец. Таму ён застаўся адзін і ішоў па жыцці сваім адзінокім шляхам. Так і дажыў да поўнага расчаравання ў жыцці і перастаў за жыццё змагацца: «І страшна памерці, і жыць невыносна...»

Васіль Гадулька меў слабы тэмперамент, але гэта не значыць, што ён быў унутрана слабым чалавекам. Ягоная сіла была ў тым, каб заставацца сабою насуперак усяму, захоўваючы свае каштоўнасці, свой талент і розум, нават калі яны і не былі асабліва запатрабаванымі.

Ён захаваў гэта ўсё, і людзі, нарэшце, звярнулі на яго ўвагу: пасля смерці, тады, калі ўжо не важныя ні статус, ні тэмперамент, ні сіла, ні слабасць.

У сваім цяперашнім узросце я стала разумнейшай, смялейшай, дабрэйшай, чым была ў маладосці, але выправіць лёс ужо немагчыма...

Калі гавараць пра Васіля Гадульку, то ён цярпеў дастаткова доўга, змагаўся са сваёй самотай, не азлабляўся на жыццё і людзей. Быў мяккім і добрым, інтэлігентным да апошняга дня (што відаць з усіх яго лістоў да мяне). Бог даў яму застацца на Зямлі ў ягонай творчасці, якая свеціцца дабрынёй і пяшчотай, якая ўражвае крыштальнай чысцінёй. Магчыма, ён прыходзіў у свет, каб навучыць нас быць дабрэйшымі адзін да аднаго, своечасова заўважаць таленавітых людзей і ганарыцца імі падчас іх жыцця, а не пасля іх смерці...

Мы павінны навучыцца гэтаму, калі хочам заставацца на Зямлі беларусамі.

**Галіна Самойла**

# Нарадзіць цмока

**Папярэдні «дзеяслоўны» агляд я назваў «Чакаючы вясны», аднак не думаў, што сёлета яна выдасца такой сырой і халоднай... Але ж пакуль жывём пад сонцам, спадзяёмся на яго цяпло. І ўрэшце яго дачакаемся. А ў крытычны момант можна пагрэцца і ад створаных — не Богам, а чалавекам — штучных крыніц энергіі...**




Гэтак і з літаратурай. «Вайна і мір», як і «Людзі на балоце», пішуцца аднойчы і назаўсёды, хоць некаторыя адурманьваюцца вар'яцкай ідэяй напісаць іх наноў і ўвогуле толькі іх і пісаць... Як людзі адукаваныя, пакінем іх аўтарства Л. Талстому і І. Мележу. А сучасныя пісьменнікі няхай ствараюць новыя раманы. Якая іх мастацкая вартасць і духоўная каштоўнасць, скажуць наступнікі. Мы ж толькі можам прачытаць і даць ім чыста суб'ектыўную ацэнку. Гэтым і зоймемся. Перада мной — 81 нумар часопіса «Дзеяслоў».

Пачынаецца ён цудоўнымі вершамі Фелікса Батрына. Паэт нязмушана, але глыбока, спалучаючы вопыт жыцця і сваю штодзённую заклапочанасць яго працэсам, шукае сутнасць чалавечага існавання ў філасофіі смерці і магчымай вечнасці, набліжаючыся да Бога наводдаль Д'ябла...

Аднак не ўсё так проста, бо

*Смяюцца ліхадзеі,*
*слепнуць сведкі,*
*Нябачны, вольна поўзае слімак.*
*Запалкамі шукаю кнопку свечкі,*
*Ды іх штораз задзьмухвае*
*скразняк.*

Апавяданне Віктара Карамазава «Пад крыжам божым, альбо Развітанне з Ліменню», на першы погляд, бессюжэтнае, аднак каштоўнае і важнае само па сабе, па ўзнятай балючай для нас, беларусаў, тэме, — яно пра тую Бацькаўшчыну, якая паміраe разам з намі.

Вершы Зянона (Пазьняка), як кажуць, без прэтэнзій, бы спадарожныя абстрагаваныя думкі з часовага ў вечнае. Нацыянальная памяць прабіваецца з прадвечнасці праз наслоены глей, пясок, брук і асфальт на шляху шматлікіх пакаленняў:

*Куды ні глянь —*
*Усюды свет чужы.*
*Але жыве мая Айчына.*

Архіўная аповесць пра Максіма Танка «...Натуральны, як лінія небасхілу» (з цыклу «У Вільні і больш нідзе») Леаніда Дранько-Майсюка — гэта густое, фактурнае і ў нечым дэтэктыўнае прачытанне пэўнага часу (1934–35) турэмнага (падследнага-судовага) прамежку жыцця будучага народнага паэта. Па ўсім, няпросты задачай было прачытаць такую кіпу архіўных папер, а тым больш храналагічна звесці іх у адзінае сюжэтнае палатно.

А вось верлібры (ці вольныя вершы) Аксаны Данільчык не надта каб узрушылі, але далі пэўны штуршок, каб узняцца над паўсядзённа-звыклым:

*калі я пішу я быццам выходжу на паверхню*
*быццам застаюся без вопраткі не глядзіце на*
*мяне я сама ў сабе мой голас робіцца бязгучным*
*а жэсты незразумелымі так пішацца музыка ў*
*паветры працятым стрэламі хмарачосаў але ці*
*засталося ў ім месца для музыкі можа быць у ім*
*ёсць месца толькі для аднаго маўчання.*

Пасля гэтага нельга не паверыць паэтцы, якая кажа, што «мара аб паэтычным слове будзіць мяне сярод ночы»...

Цяпер пра самую важкую публікацыю нумара, а дакладней, пра завяршэнне рамана Валерыя Гапеева «Ноч Цмока», які вымагае сказаць колькі высакапарных слоў. Гэтая рэч вельмі істотная для нашай сучаснай літаратуры. Гэта глыбокі, містычна-дэтэктыўны твор, у якім аўтар спрабуе спалучыць нашае мінулае нацыянальнае, у тым ліку і міфалагічнае, з сучасным глабальным павевам цывілізацыі, калі той павеў, бы скульптар, ад натуральнай глыбы-пароды спрабуе адсекчы ўсю накопленую і збітую ў адно народную цэльнасць, каб пакінуць адзіную (вобразную), створаную прагматычным розумам, выяву, па сутнасці, аднатыпнае зямное людства, дзе ў канкрэтнага чалавека альбо пэўнай супольнасці ўжо не будзе ўласнай арыгінальнай (нацыянальнай) адметнасці. Таму Беларусь, якая найбольш адчувальна і відочна страчвае свой натуральны твар, патрабуе ад свайго народа ахвярнасці, дзеля выратавання ўласнай сутнасці... Што канкрэтна да рамана, то па словах галоўнага героя (маладога раённага следчага па дзіўна-невытлумачальнай справе), «калі коратка: група апантаных ідэяй займецьдля краіны нацыянальнага лідэра ўзяла на ўзбраенне нейкі стары міф пра Цмока. Насця Грыцук як лесбіянка павінна была нарадзіць дзіця. Мінулай восенню наладзілі абрад, на якім урачыста ажанілі Яшчура — таго самага Андрэя Дылько — з Насцяй. Яна зацяжарыла. Адначасова зацяжарвае, прычым спецыяльна, як мне прызнаўся Федарук, яго жонка. Яна, як і Насця, нарадзіла там, у Ляўдку, роды прыняла акушэрка, член іхняй групы. Дзіця Федарукоў з'явілася на свет з гідрацэфаліяй і памерла. Вам жа перадаў эксперт паперы: група крыві дзіцяці сведчыць пра тое, што яго не магла нарадзіць Грыцук. Сапраўднае дзіця Насці забралі Федарукі. Яны вырашылі выхоўваць яго ўпотай ад усіх, таму жонка Федарука, пакуль я з разяўленым ротам слухаў яго байкі, уцякла ў невядомым кірунку разам з дзіцем. Вось такія... казачкі». Але насамрэч гэта, браткі-беларусы, не абсурдныя літаратурныя байкі. Таму скажу, як некалі казаў, завяршаючы свой «Сказ...» Вядзьмак Лысагорскі, «чытайце, з розумам чытайце» раман В. Гапеева «Ноч Цмока». Там ёсць над чым раздумацца — і інтэлігенту, і, прабачаюся, электарату...

Лёгкія, гуллівыя, іранічна-саркастычныя вершаваныя тэксты Сяргея Балаханава чыталіся, не абцяжарваючы маёй унутранай філасофіі, як, да прыкладу, і гэтая страфа з верша «Белых яблынь снежны саван», дзе

*Свет, аслепшы*
*ў дзіўнай белі,*
*нішчыць вершы*
*і кактэйлі...*

Эмацыянальна-мітуслівая, сентыментальна-пачуццёвая лірычная (з гістарычнай падкладкай) проза Альжбеты Кеды (Алы Петрушкевіч). Гэткая прымроеная спроба звесці М. Багдановіча і (як мне падалося) Н. Арсенневу ў адным месцы («У Яраслаўлі», так і называецца аповед).

Верлібры дырэктара ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім Андрэя Сцепанюка блізкія да одуму, калі нязносна-зямное мікшуецца з паднебна-зманлівым:

*На канцы зямлі дзе сцяна лесу*
*зліваецца з чарнатой неба*
*разгорнем кніжку свайго*
*маўчання...*

Проза Паўла Гаспадыніча «Сяйво маладзіка» (два аповеды з нізкі «Цені і каханне») — для ўнутранага карыстання абраных чытачоў гэтага аўтара. Літаратурны навар з філасофіі, псіхадэлікі і, па-простаму кажучы, самакапання... Стылістыка арыгінальная, але чытаць можна. Вычуваць і разумець — трохі цяжэй...

Калі шчыра, і вершы Таццяны Снітко асабліва не зачапілі, апроч асобных строф і радкоў.

Проза крымчанкі Алісы Бізяевай нечым блізкая да прозы П. Гаспадыніча. Праўда, больш упарадкаваная стылістычна. Адзінота і пошук чалавека ў сабе і вакол сябе...

Друкуецца нізка вершаў іспанкі Анхелы Эспінозы Руіс. Каб я не быў абазнаны пра яе захопленасць беларушчынай, то, пэўна, не асабліва затрымліваўся б на яе строфах, але паколькі ведаў гэта, то не змог не засяродзіцца хоць бы на вось гэтых нашых словах у іх паўднёва-еўрапейскім вычуванні (з верша «Лістапад»):

*Жарсць ідзе спаць, і прачынаецца*
*Свядомая, разумная муза.*
*Лістападзе, ты — жнівень*
*паэтаў!*

Адносна цікавы аповед Марыі Маляўка «Жывая рыба» ў рубрыцы «Дэбют». Праўда, тэкст пакуль нагадвае вышткаванае эсэ. У ім ёсць драматызм чалавечага жыцця, ігра драматургія. Спадзяюся, неўзабаве з'явіцца і сама дабротная мастацкая проза.

Усходні вектар выкрэсліваецца не толькі ў нашых палітыкаў, але і ў нашых творцаў. Леанід Дранько-Майсюк прапануе пераклады вершаў кітайскага паэта Лі Хэ (790–816 гг.). Хто б сумняваўся ў паэтычным майстэрстве Леаніда Васільевіча, калі нават перакладаць яму даводзіцца з падрадкоўніка!

А вось Алесь Емяльянаў-Шыловіч перастварыў выдатны лірычны цыкл «Промні сусвету» вядомай польскай паэткі Галіны Пасвятоўскай (1935–1967 гг.). Пераклад атрымаўся ўнутрана адпаведным арыгіналу... І гэта радуе. Атрымаў ад прачытання душэўнае і эстэтычнае задавальненне.

Да 80-годдзя Барыса Сачанкі часопіс друкуе суплёт успамінаў пра знанага пісьменніка і грамадскага дзеяча, вядомага бібліяфіла, выдаўца і рэдактара з палескай вёскі Вялікі Бор. Родныя браты Барыса Іванавіча (Іван і Алесь Сачанкі), дочкі (Галіна Багданава і заўчасна памерлая Святлана Явар), а таксама Пётр Краўчанка і Уладзімір Шчасны ды ўласныя запісы мемуарнага плана самога юбіляра складаюць каларытны нацыянальна-пакаленчы радаводны памінальнік, варты шырокай чытацкай увагі. Пісьменнік жывы ўласным творчым плёнам, ён запатрабаваны, пакуль яго памятаюць і чытаюць. А Барыс Сачанка да ўсяго яшчэ мае пашаноту як нацыянальны патрыёт і нязломны носьбіт айчыннага духу. Працытую былога міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанку: «Кім для мяне быў Барыс Іванавіч Сачанка? У маім уяўленні гэта не проста таленавіты беларускі пісьменнік, але і гісторык. (...) Ён не меў ні кандыдацкай, ні доктарскай ступені, але па ўзроўні быў сапраўдным навукоўцам, прычым не толькі ў галіне літаратуры, але і ў галіне беларускай гісторыі, сусветнай гісторыі, філасофіі, сацыялогіі... Мяне ўражвала, калі ён пачынаў цытаваць з артыкулаў і твораў Артэга-дэ-Гасэта, Сартра, Камю... (...) Іншыя прывозілі з-за мяжы магнітафоны, дыктафоны, адзенне, а Барыс Іванавіч — кнігі. Ён прывёз некалькі дзясяткаў унікальных кніг. Ён паводзіў сябе як прафесіянал, як бяссрэбраннік. Кожную сэканомленую капейку ўкладаў у інтэлектуальнае багацце Беларусі. Ён, па сутнасці, першы, хто вярнуў у нашу беларускую літаратуру творы тых, хто жыў за мяжою...».

Знаны паэт Алесь Разанаў вытлумачвае сваё разуменне верша («Мой сад у снезе па калена...») другога таленавітага паэта Алеся Пісьмянкова — жывы «анатаміруе» твор памерлага... Арыгінальнае (як і ўся творчасць Разанава) празаічнае пераасэнсаванне паэзіі. Аднак я не ўпэўнены, што пасля адстароненага выяўлення філасофскай і мастацкай сутнасці твора гэты верш стане больш празрыстым для чытача, чым ён ёсць, і больш глыбокім, чым меўся быць... Аднак сама па сабе такая нечаканая практыка — раскрыццё патаемнага ў сучасным літаратурным працэсе (паэзіі ў прыватнасці) дадае аптымізму нашым спадзяванням у эвалюцыйным развіцці і даўгавечнасці беларускага мастацкага слова.

Грамадскі дзеяч і літаратар Алесь Бяляцкі друкуе свае запісы пад назвай «Лісты салідарнасці». Мяркую, сыходзячы з нашай палітычнай беларускай сітуацыі апошніх дваццаці гадоў, кожнаму сумленнаму і свядомаму грамадзяніну рэспублікі варта было б прачытаць гэтыя нататкі былога турэмнага вязьня цяперашняга рэжыму. У запісах вядзецца не толькі пра ліставанне з людзьмі з волі, але і пра асэнсаванне і ўсведамленне чалавечых зямных узаемаадносін увогуле. І як вынова — напрыканцы гэты фрагмент: «Адкрытасць, шчырасць, дабрыня і спагада адных і зашпіленасць, зласлівасць і недавер іншых. Паміж гэтымі двума полюсамі прабягаюць дугі разрадаў чалавечай энергіі, сыплюцца яркія іскры пачуццяў. Дзесьці там, у нейкай кропцы гэтай дугі, знаходжуся цяпер і я».

Іван Штэйнер выкладвае аб'ёмны літаратуразнаўчы артыкул «Цар бязлітасны» (канцэпт голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры) — гэткі багаты тэкставы стол з «галодных» цытат, якія, калі й не здзівіць, дык уразіць чытачоў часопіса.

Друкуюцца цудоўныя, без усякай літаратурнай эквілібрыстыкі і мастацкай надумкі, напісаныя памятлівай душой сардэчна-цёплыя ўспаміны пра хутар свайго беларускага (дзяцячага) выраю гомельскай літаратуразнаўцы Анжэлы Мельнікавай.

Напрыканцы — рэцэнзія Леаніда Галубовіча на зборнік вершаў «Дзікая сліва» паэткі Валянціны Аксак.

Рубрыка «Дзеяпіс» з кароткімі анатацыямі да новых кніг завяршае публікацыі гэтага нумара.

Чытайце свае!

**ЛеГАЛ**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

ПРЭМІІ

## Пулітцэраўская прэмія-2016

**Сталі вядомы лаўрэаты Пулітцэраўскай прэміі за 2016 год. Цырымонія ўзнагароджання – юбілейная (прэмію ўручаюць з 1917 года).**

Лепшым мастацкім творам быў названы раман «Сімпатызуючыя» – дэбютная праца пісьменніка В'ет Тэна Нгуена, ураджэнца В'етнама, які вырас у ЗША. Гэта шматпланавы і глыбокі раман пра чалавека, у якога змагаюцца палітычныя перакананні і індывідуальныя сімпатыі. Падзеі адбываюцца на фоне вайны ў В'етнаме.

Лепшым творам нон-фікшн прызнана кніга «Чорныя сцягі. Узыходжанне ІДЗІЛ» Джоб Уорыка пра зараджэнне экстрэмісцкай групоўкі «Ісламская дзяржава».

Лепшым паэтычным зборнікам стала кніга амерыканскага паэта армянскага паходжання Петэра Балакяна «Азонавы дзённік», прысвечаная генацыду армян.

«Жыццё серфінгіста» Уільяма Фінегана журы назвала лепшай біяграфіяй, а прыз за гістарычнае даследаванне атрымаў Т. Дж. Стайлс за кнігу «Выпрабаванне Кастэра: жыццё на мяжы новай Амерыкі».

## Прэмія імя Андэрсана

**На Дзіцячым кніжным кірмашы ў Балоні вызначылі лаўрэатаў прэміі імя Г. К. Андэрсана.**

Прэмія прысуджаецца кожныя два гады ў дзень нараджэння сусветна вядомага казачніка і Міжнародны дзень дзіцячай кнігі. Адну прэмію – ілюстратару, другую – аўтару за ўсю яго спадчыну і ўклад у дзіцячую літаратуру.

Лаўрэатамі прэміі былі Морыс Сендак, Роберт Інгпен, Квенцін Блэйк, Вольф Ельбрух, Астрыд Ліндгрэн, Сельма Лагерлёф, Джані Радары, Туве Янсан, Крысціна Нестлінгер і іншыя.

Сёлета прэмію ў галіне ілюстрацыі атрымала Ротраўт Сюзана Бернер, нямецкая мастачка, вядомая свaімі «Порамі года». Яе «кніжкі для разглядвання» ў асноўным апавядаюць пра знаёмую дзіцяці паўсядзённую рэальнасць мовай малюнку і дораць адчуванне «пазнавання» ўласных досведаў і адкрыцця чужых. Другім лаўрэатам прэміі Андэрсана стаў кітайскі аўтар Као Венксуан, аўтар раманаў, апавяданняў і кніг- маляванак. На жаль, многія яго тэксты пакуль не пераклалі нават на англійскую, але прэмія можа спрыяць гэтаму.

**«Букмоль»**

## Прэмія імя Льва Копелева

**Уладзімір Вайновіч уганараваны прэміяй імя Льва Копелева. Цырымонія ўручэння адбылася ў Кёльне 22 траўня.**



Як адзначана ў паведамленні Форуму імя Льва Копелева (Lew Kopelew Forum e.V.), прэміяй адзначаецца творчы шлях Вайновіча, яго выдатная літаратура, а таксама грамадзянская мужнасць, чалавечнасць і праўдзівасць.

Прэмія імя Льва Копелева за мір і правы чалавека ўручаецца з 2001 года і не мае грашовай узнагароды. У 2015 годзе ёй былі адзначаны прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці Расіі і Украіны: украінская спявачка Руслана і яе суайчыннік, праваабаронца і змагар з карупцыяй Яўгеній Захараў, а таксама легендарны расійскі рок-музыка Андрэй Макарэвіч і культавы дзіцячы пісьменнік Эдуард Успенскі.

## Руская прэмія

**26 красавіка ў Маскве адбылася XI цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў міжнароднага літаратурнага конкурсу «Руская прэмія» за 2015 год.**

Пераможцамі сталі восем пісьменнікаў з шасці краін свету: паэты Ірына Еўса (Украіна), Каця Капові́ч (ЗША), Даніїл Чконія (Нямеччына), празаікі Аляксандр Гадоль і Андрэй Хомчанка (Украіна), Алена Бачарышвілі (Канада), Алена Макарава (Ізраіль), Раман Кажухараў (Малдова).

Спецыяльным прызам і дыпломам аргкамітэта і журы конкурсу «За ўклад у зберажэнне і развіццё традыцый рускай культуры за межамі Расійскай Федэрацыі» ўганараваны паэт, перакладчык і выдавец з Эстоніі Ігар Коцюх – «за плённую творчую і перакладчыцкую дзейнасць, якая падтрымлівае рускамоўных паэтаў Эстоніі».

**ng.ru**

# Біблію просяць забараніць?

**Біблія ўвайшла ў спіс з 10 кніг, якія часцей за ўсё просяць выключыць з публічнага доступу ў ЗША. Спіс склала Амерыканская бібліятэчная асацыяцыя, адно з падраздзяленняў якой атрымлівае запыты з бібліятэк, школ і СМІ аб забароне выданняў.**

Біблія «патрапіла» на шостую прыступку рэйтынгу за «распаўсюджванне рэлігійных поглядаў».



Узначаліла згаданы спіс кніга Джона Грына «У пошуках Аляскі» з непрыстойнай лексікай, «адкрытымі» сцэнамі і неадпаведнасцю заяўленай узроставай катэгорыі чытачоў.

Другое месца «заняў» раман Э. Л. Джэймс «Пяцьдзясят адценняў шэрага». Прычына таго — вялікая колькасць сэксуальных сцэн. Насцярожанасць грамадзян таксама выклікалі дрэнная якасць тэксту і тое, што «група падлеткаў захоча гэта паспрабаваць».

Замыкае тройку лідэраў кніга «Мяне завуць Джаз» Джэсікі Хертэл і Джаз Джэнінгс. На гэтае выданне скардзіліся праз згаданне гомасэксуальнасці і распаўсюджванне рэлігійных поглядаў.

Амерыканская бібліятэчная асацыяцыя патлумачыла, што спіс кніг і скаргаў на іх публікуе як пратэст супраць цэнзуры.

**Дар'я Кучарэнка**

# Выданне твораў Шэкспіра 1623 года

**«Першае Фоліо» — назва, якой часта пазначаюць першы зборнік п'ес Уільяма Шэкспіра. Кніга выйшла ў 1623 годзе накладам 750 асобнікаў.**

Да гэтага часу захавалася толькі трацiна з іх. Асобнік выдання нядаўна знайшлі на шатландскім востраве Б'ют.

У кнігу ўвайшлі 36 п'ес, сярод якіх «Дванаццатая ноч», «Макбет», «Юлій Цэзар», «Рамэа і Джульета», «Гамлет» і іншыя. На першай старонцы кнігі ёсць партрэт Шэкспіра, створаны вядомым гравёрам Марцінам Друшаўтам.

Знайшла выданне прафесар-шэкспіравед Оксфардскага ўніверсітэта Эма Сміт. Кніга захоўвалася ў бібліятэцы маёнтка Mount Stuart House больш за стагоддзе. Уладальнікам асобніка быў рэдактар Ісак Рыд, які ў XVIII ст. працаваў у Лондане. Лісты Рыда сведчаць аб тым, што ён набыў «Першае Фоліо» ў 1786 годзе, а ў 1807-м, пасля смерці ўладальніка, кніга была прададзеная за 38 фунтаў стэрлінгаў (53 даляры ЗША). Пасля таго доўгі час не было ніякіх згадак пра выданне — да таго моманту, калі ў архівах бібліятэкі яго і знайшла Эма Сміт. Знойдзенае выданне з'яўляецца незвычайным: яно пераплецена ў тры тамы і мае вялікую колькасць чыстых старонак, якія, магчыма, павінны былі выкарыстоўвацца для ілюстрацый.

Сімвалічна, што зборнік знайшлі напярэдадні 400-годдзя з дня смерці драматурга, якое адзначалася напрыканцы красавіка.

**BBC**

# Леся Украінка і кампутарная гульня

**У ЗША рыхтуюць кампутарную гульню па матывах драмы-феерыі Лесі Украінскі «Лясная песня». Стварае яе каманда грамадзянаў ЗША, у складзе якіх ёсць і ўкраінец — адэсіт Дзмітрый Вяроўка.**

Гульня з'явіцца ў масавым продажы праз паўтара гады. У ёй ужо ёсць Лукаш, яго маці, Той, што ў скале сядзіць і дамавік. Кожны з персанажаў будзе мець сваю ролю, місію і нават мову. А ўсе героі гульні гаварыцьмуць па-ўкраінску.

Саўндтрэк для гульні піша група «ДахаБраха». «Мы ўсе разам пайшлі на канцэрт «ДахаБраха» ў Сіэтле. І нас проста знесла ад такога дзіўнага спалучэння традыцыйнай музыкі і сучаснага гуку. Мы сустрэліся з групай, і яны загарэліся гэтай ідэяй, абяцаюць зрабіць нешта незвычайнае», — кажа Дз. Вяроўка. Сам ён мастак і аніматар, якога амерыканскія геймеры ўжо палюбілі за гульню «Ніколі не самотны». За два гады яна прынесла шматмільённыя продажы. Дз. Вяроўку ўгаворвалі стварыць наступную гульню пра жыхароў Гаваяў, але ён замест гэтага ўзяўся маляваць «Лясную песню».

Каб стваральнікі праграмы лепш разумелі рэаліі і побыт персанажаў гульні, Дз. Вяроўка арганізаваў калегам паездку на Валынь. «Мы паехалі на Заходнюю Украіну, і вось уявіце, мы сядзім пасярод глухой вёскі, мясцовыя падрыхтавалі для нас вячэру. Мы разам елі і слухалі ад іх старажытныя казкі. І ўкраінцы тлумачылі нам, чаму персанажы «Песні» дзейнічалі так, а не інакш», — распавёў аўтар гульні Шон Веске.

«Лясная песня" шукае сяброў-прыхільнікаў — перш за ўсё навукоўцаў, этнографаў і літаратуразнаўцаў, якія гавораць на англійскай і гатовыя дапамагчы ўдасканаліць праект дзя распавесці свету пра Украіну.

**TCH, Zaxid.net**



# Новая кітайская папера

**Кітайскія спецыялісты распрацавалі электронную паперу з графена.**

У недалёкай будучыні гэтае вынаходніцтва можа прывесці да рэвалюцыі ў вытворчасці дысплеяў для электронных прыладаў, у тым ліку смартфонаў і электронных кніг. Па словах кітайскіх распрацоўнікаў, новы матэрыял будзе самым лёгкім і трывалым сярод іншых.

Таўшчыня «паперы» складае ўсяго 0,335 нм, таму яна з'яўляецца ідэальнай для стварэння гнуткіх дысплеяў (але пры неабходнасці экран можа быць і цвёрдым). Графенавая электронная папера аднaчасова праводзіць электрычны ток і цяпло.

Сабекошт графенавай паперы не надта высокі, бо яе робяць з вугляроду. Традыцыйны чытар-рыдэр (іх экран) вырабляюць з выкарыстаннем індыя. Індый досыць дарогі, таму і электронныя кнігі, адпаведна, нятанныя.

Акрамя таго, на аснове графена можна ствараць і сэнсарныя дысплеі для тэлефонаў. У гэтым выпадку яго пакрываюць пластыкам, а не шклом, што, зноў-такі, робіць вытворчасць таннейшай. Смартфоны з экранам такога тыпу можна рабіць складанымі і вельмі тонкімі. І разбіць графенавы дысплей не проста.

Электронная папера новага тыпу паступіць у вытворчасць ужо сёлета.

**econet.ru**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Брудны Гары» з Філіпінаў

Алег НОВІКАЎ

**Сярод папулістаў, якія прыходзяць да ўлады на хвалі цяперашняга эканамічнага крызісу, фігура новага прэзідэнта Філіпінаў, безумоўна, адна з найбольш самабытных.**



Фота www.twitter.com

У 1971 годзе Галівуд выпусціў першы фільм са славутай серыі «Брудны Гары» з Клінтам Іствудам у галоўнай ролі. Пасля гэтага ў мастацтве ўзнік новы вобраз: дэтэктыў, які ненавідзіць бюракратыю, свята верыць у пісталет у якасці аргументу, выкарыстоўвае жорсткія метады ў адносінах да злачынцаў, ігнаруе любыя заўвагі аб неапраўданым прымяненні сілы, парушае правы чалавека і ўсе пункты Крымінальнага кодэксу. Цяжка сказаць, ці натхніў кагосьці персанаж Клінта Іствуда ў свеце паліцэйскіх, а вось сярод палітыкаў у «Бруднага Гары» знайшоўся адэпт.

Радрыга Дутэртэ — новы прэзідэнт Філіпінаў — абяцае дзейнічаць як «Брудны Гары». Дутэртэ, які стаў прэзідэнтам на выбарах 9 мая, набраўшы 38 працэнтаў галасоў, у чымсьці не хлусіць. Прынамсі, яго метады барацьбы з крыміналам сапраўды нагадваюць сцэны з галівудскіх баевікоў. У Даваа-Сіці — горадзе, якім ён кіраваў 22 гады да абрання прэзідэнтам, даўно пануе жорсткі паліцэйскі рэжым. Тут дзейнічае камендацкая гадзіна, забаронены продаж алкаголю, начныя вуліцы горада патрулюе ўзброеная паліцыя, якую крытыкі мэра называюць «эскадронамі смерці». Напэўна, для гэтага ёсць прычыны: паводле падлікаў прэсы, за часы Дутэртэ на пасадзе мэра, на вельмі супярэчных з пункту гледжання Феміды падставах былі забітыя каля 1800 чалавек. Да самога Дутэртэ даўно прыляпілася мянушка «Карнік». Пра тое, што ў Даваа-Сіці падазраваных у злачынствах часта забіваюць без суду, казалі нават на пасяджэннях Асамблеі ААН.

Цяжка сказаць, як бы ў іншы час выбаршчык паставіўся да такіх «подзвігаў», аднак у атмасферы крызісу і, як следства, росту крыміналу і адчування асабістай небяспекі такі чалавек, як Дутэртэ выклікае сімпатыю. Для выбаршчыка важна, што ў гэтай сферы ў яго ёсць рэальныя дасягненні. Афіцыйная статыстыка фіксуе спад колькасці цяжкіх злачынстваў у Даваа-Сіці. Пра тое, што горад стаў больш бяспечным, сведчыць і рост колькасці турыстаў, і тое, што ў сусветным рэйтынгу бяспечных гарадоў Даваа-Сіці займае 9-е месца. За кошт стварэння шпіталяў для наркаманаў часткова ўдалося вырашыць і гэтую праблему. Велізарным прарывам у вачах філіпінцаў з'яўляецца тое, што мэр Даваа-Сіці прымусіў мясцовых матацыклістаў паважаць правілы дарожнага руху.

Не толькі вобраз аматара «zero tolerance» быў піярфішкай Дутэртэ падчас выбараў. Ён ахвотна эксплуатаваў імідж абаронцы інтарэсаў правінцыялаў, якія, напэўна, як і паўсюль у свеце, не любяць багатую і тлустую метраполію. Праклёны на адрас «імперыялістычнай Манілы», якая смокча ўсе сокі з рэгіёнаў, дазволілі яму стварыць сваю сацыяльную базу за межамі Даваа-Сіці, а таксама правацца ў цэнтральныя СМІ.

Прарыў у СМІ быў вельмі важным для выбарчай кампаніі Дутэртэ, паколькі асаблівых рэсурсаў у палітыка не было. Напярэдадні кампаніі яго партыя PDP-Laban мела толькі аднаго дэпутата ў нацыянальным парламенце. Прыцягнуць да сябе інтарэс палітык здолеў у тым ліку за кошт папулісцкіх і брутальных эскападаў. Напрыклад, ён паабяцаў, што ў выпадку абрання прэзідэнтам за шэсць месяцаў знішчыць увесь філіпінскі крымінальны свет.

Немалаважную ролю ў трыумфе Дутэртэ адыгралі і іншыя кандыдаты ў прэзідэнты. Усе апаненты «Бруднага Гары» належалі да старой палітычнай эліты, за якой цягнецца шлейф карупцыйных афер і асабістых скандалаў. У дадатак яны так ненавідзелі адзін аднаго, што выкарысталі выбары для ўзаемнага зліву кампрамату. У выніку на аднаго з працяўнікаў Дутэртэ наўпрост падчас выбарчай гонкі распачалі крымінальную справу па падазрэнні ў карупцыі.

Феномен Дутэртэ толькі пачалі аналізаваць, і трэба сказаць, што ацэнкі вельмі розныя. Заходняя грамадскасць бачыць у новым філіпінскім прэзідэнце не толькі копію папуліста Дональда Трампа. Некаторыя лічаць, што выбар філіпінцаў — не самы кепскі варыянт для краіны, дзе цэлыя рэгіёны кантралююцца экстрэмісцкімі групоўкамі. Тым больш, што Дутэртэ зарэкамендаваў сябе як асоба, якая здольная дамаўляцца з экстрэмістамі і інтэграваць іх у прававое поле. Падчас працы мэрам ён праявіўся як прыхільнік правоў жанчын, і нават выдаў спецыяльны закон супраць дыскрымінацыі па прыкмеце полу. Даваа-Сіці вядомы таксама тым, што тут паважаюць прадстаўнікоў нацыянальных і рэлігійных меншасцей.

«Washington Post» адзначае: «Дутэртэ захапіў думкі выбаршчыкаў, абяцаючы хуткія рашэнні праблем краіны. Аднак пры гэтым ён стаў антыподам такім з'явам, як палітычнае расчараванне, фанабэрыстасць эліты на адрас простага чалавека». «Яго (Дутэртэ) перамога — гэта следства дэфіцыту барацьбы з крыміналам, наркотыкамі, беднасцю, ростам коштаў і беспрацоўем». Левая прэса ў Еўропе лічыць, што інтарэс да сацыяльнай праблематыкі і гендарнай роўнасці дазваляе разглядаць Дутэртэ як дэміурга новай генерацыі сацыяльнага прагрэсіўнага руху на Філіпінах.

Праўда, першыя крокі новага гаранта цяжка назваць прагрэсіўнымі. Радрыга Дутэртэ ўжо паабяцаў увесці смяротнае пакаранне за цэлы пакет злачынстваў, сярод якіх ужыванне забароненых наркотыкаў і рабаванне. Па яго словах, тыя, хто будзе асуджаны за два злачынствы, будуць павешаныя двойчы. Белы дом з гэтай нагоды заклікаў новаабранага прэзідэнта паважаць правы чалавека. У сувязі з пералічанымі вышэй супярэчлівымі ўчынкамі і заявамі Дутэртэ, варта пагадзіцца з высновай аднаго з піцерскіх інтэрнэт-выданняў: «Ніхто на цяперашні момант не ведае, куды пойдзе пры Дутэртэ стомільённая астраўная дзяржава Філіпіны».

**Дутэртэ захапіў думкі выбаршчыкаў, абяцаючы хуткія рашэнні праблем краіны. Яго перамога — гэта следства дэфіцыту барацьбы з крыміналам, наркотыкамі, беднасцю, ростам коштаў і беспрацоўем**

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Шматгадовае лавіяванне паміж Расіяй і Захадам, падобна, падыходзіць да канца, і латэнтная празаходняя пазіцыя Лукашэнкі становіцца ўсё больш відавочнай. У дадзеным кантэксце варта ўзгадаць правальную ідэю Крамля размясціць свае самалёты на авіябазе ў Бабруйску і заяву самога Лукашэнкі пра неабходнасць паглыблення супрацоўніцтва Беларусі і NATO і пра небяспекі гібрыднай вайны для рэспублікі. Акрамя таго, візіт Лукашэнкі ў ЕС адбыўся пад акампанемент чарговага газавага канфлікту паміж Беларуссю і Расіяй.

**НТН (Украіна)**

Караткевіч і раней была наводшыбе «вялікай» беларускай палітыкі, нягледзячы на ўсе яе намаганні. Цяпер жа, пасля выступу сябра яе каманды, на яе палітычных перспектывах можна паставіць крыж. Хаця, як гэта ні парадаксальна для кагосьці прагучыць, менавіта цяпер Таццяна Караткевіч можа прэтэндаваць на пасаду беларускага дэпутата. За чатыры месяцы да выбараў у беларускі парламент, яшчэ да складання спісу дэпутатаў, ужо можна амаль з 90-працэнтнай упэўненасцю казаць, што адным з іх будзе Таццяна Караткевіч. Улада ацаніла яе «прыстойнасць» і, як зможа, так і аддзячыць «прыстойную» жанчыну. Яе прысутнасць у парламенце будзе пададзена Захаду як дасягненне беларускай дэмакратыі.

**REGNUM (Расія)**

Палітолагі мяркуюць, што аўтарытэт Ватыкана можа дапамагчы Мінску наладзіць адносіны з Захадам. Аднак, нягледзячы на вялікую гісторыю дыпламатычных адносін і сімвалічную ролю Ватыкана, у Святога прастола і свецкіх урадаў розныя механізмы ўзаемадзеяння з палітычнымі рэжымамі кшталту цяперашняга беларускага. Ватыкан – дакладна не моцны гулец у сусветнай палітыцы (паколькі ў яго няма ніякіх рычагоў уздзеяння ні на беларускі рэжым, ні на ўлады краін Захаду), але, магчыма, гэта адзіная апора для Беларусі ў дадзены момант.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Візіт Папы Францыска на берагі Нёмана — цалкам рэальная перспектыва. Але проста назіраць за працэсам — для Украіны самы дурны варыянт. А вось стымуляваць, падтрымліваць і думаць, як выкарыстоўваць рэсурс народнай (дый не толькі) дыпламатыі — гэта ўжо іншая размова. Без маштабных выдаткаў (на якія ў краіны папросту няма грошай) Кіеў можа дамагчыся змены грамадскай думкі на сваю карысць на сумежных тэрыторыях. А цяпер, па меншай меры, украінскаму МЗС варта хоць бы скончыць справу з прызначэннем пасла ў Мінску. Бо атрымліваецца весела: рабочыя групы перамоўшчыкаў засядаюць там, краіна залежыць ад беларускіх паставак паліва, аб'ёмы гандлю ўражваюць, кажуць пра будучыню палітычнага супрацоўніцтва ў рэгіёне. І на фоне гэтага пасла як не было, так і няма.

**«Хвиля» (Украіна)**

Беларуская АЭС можа апынуцца непрадуманым рашэннем. Аднак Бацька не сумуе. Паводле яго слоў, лішняя энергія спатрэбіцца самой Беларусі. На яго думку, ужо цяпер пры ўводзе ў працу новых аб'ектаў, жылля, неабходна прадугледжваць больш шырокае выкарыстанне электраэнергіі. І кіраўніка не бянтэжыць, што, калі рэалізоўваць гэтыя планы, спатрэбіцца маштабная мадэрнізацыя ўсёй энергасістэмы краіны, а на гэта патрэбныя гіганцкія сродкі. Магчыма, таму што «апошні дыктатар Еўропы» ведае: грошы заўсёды можна папрасіць у брацкай Расіі.

**«Энергетика и промышленность России» (Расія)**

У Ватыкана ёсць свой інтарэс у Беларусі — размовы аб падпісанні канкардату (пагаднення аб супрацоўніцтве паміж дзяржавай і Касцёлам) упарта хадзілі напярэдадні мінулага візіту Лукашэнкі. Святому прастолу неабходна пашыраць уплыў Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі, і зараз даволі зручны момант для гэтага. Балансуючы паміж Усходам і Захадам, Лукашэнка балансуе і паміж дзвюма Цэрквамі. Дарэчы, эксперты не выключаюць, што візіт Папы Рымскага ў Беларусь усё ж такі адбудзецца.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. На долар — выяву індзейца!

Як вядома, яшчэ ў красавіку амерыканскі Мінфін анансаваў змену дызайну банкноты ў 20 долараў. Профіль прэзідэнта Эндру Джэксана павінна замяніць выява Гарыет Табмен — вядомай змагаркі за правы афраамерыканцаў напярэдадні і ў часы Грамадзянскай вайны ў ЗША. Ідэю новых купюр таксама віталі арганізацыі індзейцаў. Справа ў тым, што прэзідэнт Джэксан увайшоў у гісторыю як арганізатар прымусовай дэпартацыі шэрагу плямёнаў з Поўдня ЗША на Захад. Прыблізна 4 тысячы чалавек падчас перасялення загінулі. Тыя, хто не захацеў ехаць на Захад, былі знішчаныя. Паколькі Джэксан увайшоў у гісторыю з мянушкай «забойца індзейцаў», індзейцы вітаюць замену, але лічаць, што Табмен — не лепшая альтэрнатыва Джэксану. На іх думку, лагічней будзе, калі замест Джэксана на купюры змясціць выяву якога-небудзь правадыра індзейцаў. Чырванаскурыя ўжо правялі кастынг кандыдатаў. Найбольш «падабаек» пакуль набірае Татанка Ётаке (Бізон, што сядзіць на зямлі), лідар племені сіу, які ў 1876 годзе разбіў войскі амерыканцаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. «Саюз мяча і плуга»

Палітолагі СНД на поўным сур'ёзе сцвярджаюць, што Кыргызстан наведала рэінкарнацыя славутага літаратурнага прайдзісвета Астапа Бэндэра. Толькі такім чынам, на іх думку, можна растлумачыць цяперашнюю маштабную зачыстку мясцовай апазіцыі. Прыкладна з 16 мая ў краіне ідуць арышты лідараў апазіцыйнага руху «Народны парламент», які падазраюць у спробе арганізацыі дзяржаўнага перавароту на карысць Масквы. Тыя, хто ведае кыргызскую палітычную кухню, у шоку, паколькі «Народны парламент» — не тая структура, якая будзе знянацку рыхтаваць пераварот. У пошуках адказу наконт прычын арыштаў з'явілася думка, што арганізацыя стала ахвярай прайдзісвета з Масквы. Лічыцца, што нейкі аферыст, які прыехаў у Бішкек, паабяцаў лідарам «Народнага парламенту» падтрымку ў Крамлі за невялікі грошы. Атрымаўшы грошы, той Астап Бэндэр знік, а «Народны парламент», наіўна мяркуючы, што за ім стаіць ці не асабіста Пуцін, пачаў рабіць радыкальныя заявы. Апошнія, быццам бы, і справакавалі ўладу на рэпрэсіі.

**Паводле кіргізскай прэсы**

### ЗША. Ці дапаможа піва Трампу?

Бельгійская кампанія «Anheuser-Busch», вытворца амерыканскага піва «Budweiser» (у ЗША яго часцей называюць «Bud»), прыняла рашэнне пра часовы рэбрэндынг напою. Да пачатку лістапада 2016 года гэты адзін з самых папулярных у Злучаных Штатах гатункаў будзе называцца «America». Ідзя ў тым, каб абудзіць у амерыканцаў патрыятычныя настроі і прымусіць іх больш актыўна ўдзельнічаць у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Высакародная місія, тым не менш, выклікала крытычную рэакцыю. Маркетолагі кажуць, што простыя спажыўцы «Bud» як мінімум не зразумеюць кроку кампаніі. Больш за тое, продажы «Budweiser» могуць абрынуцца, бо новая назва яўна пасуе слогану аднаго з кандыдатаў. Гаворка пра Дональда Трампа, які выкарыстоўвае слоган «Зробім зноў Амерыку моцнай». Між тым, сацыялагічныя апытанні паказваюць, што Трамп — далёка не фаварыт сярод простых амерыканцаў. Усе пагаджаюцца, што з гэтай гісторыі найбольш выйграюць чэшскія піваавры, якія разліваюць піва пад аналагічнай назвай. У Чэхіі, дзе ў XIII стагоддзі прыдумалі «Budweiser» (або «Budvar», як яго называюць у Чэхіі), даўно даводзяць свае правы на гэты брэнд. Цяпер у чэхаў ёсць усе падставы казаць, што заакіянскі «Budweiser» — гэта не «Budweiser», а нейкая «America».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. На выбарах яўка складзе 300 працэнтаў

Расійская грамадскасць намагаецца асэнсаваць сенсацыйную прапанову дырэктара Інстытута эканамічных стратэгій Расійскай акадэміі навук Аляксандра Агеева, які падчас канферэнцыі ў Санкт-Пецярбургу прапанаваў надаць выбарчае права загінулым падчас Другой сусветнай вайны 27 мільёнам ваяроў. Агееў лічыць, што тыя такім чынам змаглі б уплываць на палітычную сітуацыю ў краіне. Схема «ўплыву» прапануецца вельмі простая: выбарчым правам нябожчыкаў скарыстаюцца іх жывыя сваякі. Нягледзячы на ўвесь абсурд заявы, шмат хто лічыць верагодным нават такі крок Крамля, які гуляе на патрыятычных настроях і калектыўнай памяці пра вайну. У сувязі з гэтым з'явіліся самыя неверагодныя праекты канкрэтных механізмаў галасавання тых, хто загінуў у 1941–1945 гадах. Найбольш цікавы апісаў на форуме сайта «Радыё Свабода» каментатар пад нікам Vitalijus Kvitka: «Пытанне вырашаецца проста: спачатку выдаецца ўказ аб даследаванні генеалагічнага дрэва кожнага грамадзяніна, затым у пашпартным стале выдаецца пакет на права голасу: напрыклад, Іванову атрымлівае 40 галасоў. Такім чынам колькасць тых, хто прагаласаваў у Расіі на наступных выбарах можа скласці 300–400 працэнтаў ад агульнай колькасці выбарцаў, але гэта не важна — галоўнае, каб продкі прагаласавалі».

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.connaissancetravel.com

# Папу не запалохаць!

Алег НОВІКАЎ

**Частка польскага грамадства стала ахвяраў паранойі наконт магчымых вылазак экстрэмістаў падчас ліпеньскага візіту Папы Рымскага ў Кракаў.**

Папа Францыск збіраецца ў Кракаў па важных справах. 25–31 ліпеня старажытная сталіца Польшчы прымае Сусветныя дні моладзі (SDM) — зборы маладых каталікоў, якія адбываюцца кожныя 2–3 гады. Нягледзячы на тое, што практыка правядзення SDM узнікла не так даўно (першыя Дні моладзі адбыліся ў 1985-м з ініцыятывы Папы Яна Паўла ІІ), мерапрыемства карыстаецца вялікім інтарэсам. Апошнія Сусветныя дні моладзі ў бразільскім Рыа-дэ-Жанейра ў 2013-м наведала больш за 3,7 мільёна чалавек.

Што тычыцца Кракава, то тут спачатку чакалі больш за два мільёны пілігрымаў. Аднак цяпер арганізатары агучваюць больш сціплую лічбу — 1,5–1,8 мільёна. Скарачэнне колькасці патэнцыйных удзельнікаў SDM тлумачыцца дзіўным культуралагічным феноменам: грамадства ахоплена чуткамі, што кракаўскія Дні моладзі не абыдуцца без нейкіх правакацый і нават замаху на пантыфіка.

Цяпер ужо цяжка сказаць, хто першым запусціў гэтыя чуткі ў польскае інфармацыйнае поле, аднак дзякуючы жоўтай прэсе яны выйшлі ў топы. Прычым канспіралогія будуецца на самых экстравагантных фактах. Напрыклад, адно бульварнае выданне сцвярджае, што слова «Кракаў» усё часцей ужываецца ў лексіцы інтэрнэт-карыстальнікаў Сірыі, Іраку і Саўдаўскай Аравіі. Гэта, маўляў, натуральна сведчыць пра тое, што армады фундаменталістаў ужо рушылі ў накірунку Польшчы. Іншае выданне смакуе «навіну» пра тое, што дасюль не вызначана канкрэтнае месца сустрэчы Папы з вернікамі. Гэта спісваюць таксама на пагрозы тэрактаў.

Цяжка сказаць, наколькі такія спекуляцыі знайшлі масавага адрасата, калі б ход арганізацыі SDM не крытыкавалі вядучыя апазіцыйныя СМІ. Зараз Польшча перажывае этап моцнай грамадскай канфрантацыі, калі літаральна ўсе з'явы жыцця трактуюцца як праява палітычнага маркетынгу. Сусветныя дні моладзі, відавочна, — вельмі добры шанец для ўрадавай партыі «Права і Справядлівасць» прапіярыцца і кансалідаваць электарат, што, у сваю чаргу, не падабаецца апазіцыі.

Напэўна таму ў ліберальных СМІ можна сутыкнуцца з пасажамі наступнага кшталту: «Спрэчкі наконт месца сустрэчы Папы з вернікамі. Невялікая колькасць добраахвотнікаў. Адсутнасць жылля для паломнікаў і супрацоўнікаў паліцыі. Зварот да жыхароў, каб тыя ўзялі вернікаў па сваіх хатах. Так выглядае падрыхтоўка да Сусветных дзён моладзі, якія плануецца правесці ў канцы ліпеня ў Кракаве. Гісторыя падрыхтоўкі да Сусветных дзён моладзі з'яўляецца прыгожай метафарай польскай пасрэднасці і трыумфу прынцыпу «неяк яно будзе». Прычым да гэтага часу ніхто не ведае, хто будзе плаціць за ўсё гэта» («Polityka»).

**Грамадства ахоплена чуткамі, што кракаўскія Дні моладзі не абыдуцца без правакацый або нават замаху на пантыфіка. Дзякуючы жоўтай прэсе чуткі выйшлі ў топы артыкулаў**

Найбольш радыкальныя апазіцыянеры з сайтаў атэістаў увогуле пужаюць жыхароў Кракава жудаснымі катаклізмамі. Па іх разліках, два мільёны пілігрымаў за чатыры дні ў сталіцы Малой Польшчы пакінуць пасля сябе 48 мільёнаў літраў урыны, што ўшчэнт разбурыць мясцовую каналізацыю.

Праўда, жахі пра каналізацыю мала каго турбуюць, у адрозненне ад тэмы тэрарыстаў. Інсінуацыі на гэтую тэму настолькі моцныя, што некаторыя вернікі сапраўды перагледзелі свае планы на карысць таго, каб застацца дома. «Gazeta Wyborcza» цытуе ксяндза Яраслава Станішэўскага, аднаго з арганізатараў SDM, які кажа, што ў некаторых парафіях колькасць жадаючых наведаць Кракаў скарацілася ў сярэднім на 65–70 працэнтаў. Тая ж тэндэнцыя назіраецца і сярод іншаземцаў. Праўда, тут сваё важкае слова сказаў эканамічны крызіс. Квіток да Польшчы і аплату за пакет паслуг (ад 200 да 700 злотых) у краінах Трэцяга свету дазволіць сабе можа не кожны.

Што да фобій палякаў, як прызнае той жа ксёндз Станішэўскі, у большасці выпадкаў за рашэннем застацца дома стаяць бацькі, якія хвалююцца за дзяцей. Каб заахвоціць пілігрымаў, выкарыстоўваецца незвычайны аргумент: «Сусветныя дні моладзі — гэта сустрэча з Богам, а ён ёсць лепшай гарантыяй бяспекі».

Акрамя нябесных сілаў, пілігрымаў будуць ахоўваць і зямныя. На ахову SDM збіраюцца мабілізаваць сем тысяч паліцэйскіх, тры тысячы жаўнераў і дзве тысячы патрульных з муніцыпальнай паліцыі. Сілам правапарадку будуць дапамагаць яшчэ сем тысяч пажарных, скаўтаў, сяброў розных грамадскіх службаў. Адным словам, няма падстаў сумнявацца ў словах урадавага чыноўніка, які гарантуе: «Любыя вернікі, вы ў бяспецы».

Для таго, каб праводзіць Дні моладзі насуперак плёткам пра тэрарыстаў, у Ватыкана ёсць важны аргумент. Гэта гісторыя арганізацыі SDM у канадскім Таронта ў ліпені 2002-га, калі ўся планета яшчэ жыла ўспамінамі пра трагедыю 9/11. Тады таксама шмат казалі пра магчымасць тэрактаў. Папе навят прапанавалі адмовіцца ад правядзення акцыі. Аднак Ян Павал ІІ быў рашуча супраць. «Мы хочам сабраць людзей для таго, каб пабудаваць цывілізацыю дабра і прабачэння. Нельга адмаўляцца ад гэтага. Тыя, хто вагаецца, я вас запэўніваю, што бяспека з'яўляецца прыярытэтам для нас», — заявіў пантыфік і выправіўся ў Канаду.

У сувязі з апісаным эпізодам, няма сумневаў, што Папа Францыск у ліпені наведае Кракаў. Што тычыцца праблем бяспекі, то іміджавы кошт мерапрыемства для польскага ўраду, думаецца, прымусіць спецслужбы прыняць усе неабходныя захады.

# Якая будучыня ў Надзеі Саўчанка?

Алег НОВІКАЎ

**Вызваленне з расійскай турмы і вяртанне на радзіму Надзеі Саўчанка адчыняюць новы, на гэты раз палітычны, раздзел яе біяграфіі.**



Фота www.vorobyov777.blogspot.com

«Свабоду Надзеі Саўчанка» — банер з такім надпісам амаль два гады знаходзіўся на трыбуне Вярхоўнай Рады. Цяпер нарэшце яго можна зняць: 25 мая эпапея байца добраахвотнага батальёну «Айдар», якую ў Расіі асудзілі на 22 гады, закончаная.

Надзею сустрэлі як гераіню. За часы яе знаходжання ў расійскай турме яе імя стала сімвалам супраціву, мужнасці і нават веры ў перамогу. Вакол яе склаўся сапраўдны культ асобы, аж да стварэння інтэрнэт-петыцыі, падпісанты якой заклікаюць лётчыцу пасля вяртання заявіць пра намер балатавацца ў прэзідэнты.

Але і пасля трыумфальнага вяртання Саўчанка не знікне з інфармацыйных стужак СМІ. Прынамсі пра гэта дазваляюць казаць некаторыя абставіны яе вызвалення.

Вяртанне Саўчанка прыйшлося на вельмі спецыфічную дату — другую гадавіну знаходжання Парашэнкі пры ўладзе. Да гэтай каляндарнай рысы Пётр Аляксеевіч прыйшоў не з лепшымі паказнікамі — каля 9 працэнтаў падтрымкі, што з'яўляецца своеасаблівым антырэкордам у гісторыі ўкраінскіх прэзідэнтаў. Нават Віктар Ющэнка, які ў фінале сваёй кадэнцыі карыстаўся падтрымкай 1–2 працэнтаў электарату, па выніках першых двух гадоў меў 20 працэнтаў. А з улікам свежага скандалу з афшорамі і павышэннем коштаў на камунальныя паслугі глыбокае піке папулярнасці Парашэнкі можа працягнуцца.

Спыніць негатыўны трэнд, і ў тым ліку вярнуць давер да ўлады, можа дапамагчы вяртанне Саўчанка. На думку каментатараў, гэта моцны піярход, які дазволіць Парашэнку як мінімум на 2–3 тыдні змякчыць крытыку курса ўраду. Сімвалічна, што прылёт Саўчанка медыйна перакрыў прыход да прэзідэнцкай адміністрацыі калоны медыкаў з Сумскай вобласці. Яны прайшлі каля 400 кіламетраў, пратэстуючы супраць затрымак выплат заробкаў. Гэтую акцыю падтрымалі ўсе вядучыя прафцэнтры.

Для Парашэнкі таксама важна перахапіць брэнд Саўчанка ў Юліі Цімашэнка, сябрам партыі якой яна з'яўляецца. Менавіта правадыр партыі «Батькіўшчына», якая крытыкуе Парашэнку, паводле апытанняў, з'яўляецца галоўным канкурэнтам Парашэнкі.

**50**

**грамадзян Украіны знаходзяцца ў расійскіх турмах, у тым ліку тыя, хто быў асуджаны па палітычных артыкулах. Аднак у расійскіх медыя адсочваўся выключна працэс Саўчанка**

У сувязі з гэтым шэраг украінскіх палітолагаў ужо заклікалі Парашэнку і Цімашэнка не ўцягваць Саўчанка ў дробныя палітычныя разборкі. Аптымальным варыянтам, як яны мяркуюць, будзе наданне экс-палітвязню статусу міжнароднага пасла Украіны. Яна, напрыклад, магла б займацца гуманітарнай працай, зборам сродкаў, выступамі ў замежных парламентах, вызваленнем іншых украінцаў з турмаў РФ.

Нарэшце, нельга не агучыць даволі экзатычны сцэнар, звязаны з тэзісам пра тое, што Саўчанка будзе працаваць на Пуціна. Паводле аўтараў гэтай версіі, Саўчанка — частка нейкай шматхадоўкі Крамля. Некалькі разоў на ўкраінскіх ток-шоу звярталі ўвагу на тое, што асоба Саўчанка шмат у чым была штучна раздутая расійскімі СМІ, якія цалкам манапалізаваны Крамлём. Паводле падлікаў праваабаронцаў, у расійскіх турмах налічваецца каля 50 грамадзян Украіны, у тым ліку тыя, хто быў асуджаны па палітычных артыкулах. Аднак у расійскіх медыя адсочваўся выключна працэс Саўчанка. Аматары гэтай версіі не выключаюць, што Саўчанка вызвалілі, каб яна стала ініцыятарам праекту закону пра выбары на Данбасе, які дасць зялёнае святло на стварэнне там аўтаноміі.

Нельга забываць і тое, што з яе прозвішчам звязаны надзеі, якія, напэўна, часткова завышаныя. Гэта стварае пагрозу, што Саўчанка паўтарыць шлях іншых куміраў Майдана, чый аўтарытэт дэвальваваўся, спрыяючы росту апатыі.

Ёсць, аднак, іншая думка. Паводле яе, стаўка ў Маскве робіцца на асабістыя тэмпераментны характар Надзеі. Прынамсі яе адвакаты раней казалі, што іх кліент не ў захапленні ад таго, як афіцыйны Кіеў выцягвае яе з турмы, і мае намер пасля вызвалення сказаць усё, што думае на гэты конт. Некаторыя палітолагі баяцца, што такі дэмарш не толькі змяшае карты ўкраінскім палітыкам, аднак і ўзмоцніць палітычную напружанасць.

Аднак не трэба забывацца, што ў свой час Саўчанка паступіла вучыцца на вайсковага лётчыка па асабістай рэкамендацыі тагачаснага міністра абароны Грыцэнкі. Наўрад ці ён бы даў рэкамендацыю невядома каму.

Сваімі думкамі пра будучыню Надзеі Саўчанка з чытачамі НЧ падзяліўся кіеўскі палітолаг Юры Палянін:

— Ужо на цяперашні момант збываюцца ўсе прагнозы тых, хто баяўся, што Саўчанка стане козырам прэзідэнцкіх палітэхнолагаў. Адразу пасля прыбыцця Парашэнка ўручыў ёй узнагароду Героя Украіны. Прэзідэнт Украіны яўна намагаецца зрабіць яе сваім актывам, што таксама з'яўляецца сігналам SOS для Цімашэнка. Нават калі Саўчанка застанецца ў партыі «Батькіўшчына», яна падрывае асабісты прынцып кіравання партыі, аслабляе палітычную сілу Юліі Цімашэнка перад пазатэрміновымі парламенцкімі выбарамі, якія ўсе чакаюць. Пытанне толькі ў тым, ці пагодзіцца сама Саўчанка на ролю чалавека Парашэнкі ці Цімашэнка, або кінецца атакаваць рэжым? Каб адказаць на гэтае пытанне, лепш дачакацца наступнага аўторка, калі адбудзецца пасяджэнне Вярхоўнай Рады і Саўчанка як дэпутату, натуральна, дадуць слова.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ягор Фірсаў



Прыкладна месяц таму 29-гадовага Фірсава пазбавілі мандата дэпутата Украіны пасля таго, як выключылі з фракцыі «Блок Пятра Парашэнкі» за крытыку кіраўніка. Цяпер Фірсаў вырашыў вярнуцца ў Вярхоўную Раду праз удзел у так званых «прамежкавых выбарах». Маюцца на ўвазе датэрміновыя выбары ў акругах, дэпутаты ад якіх пайшлі працаваць у міністры і аўтаматычна, як патрабуе закон, страцілі статус дэпутатаў.

Кампанія Фірсава, якая пройдзе на адной з акруг Чарнігаўскай вобласці, мае агульнанацыянальнае значэнне, бо вакол экс-дэпутата аб'ядналася група вядомых грамадскіх актывістаў, валанцёраў і журналістаў. Балатаванне Фірсава яны разглядаюць як тэст на стварэнне ў краіне шырокага грамадскага руху прыхільнікаў праеўрапейскіх рэформ, якія, на іх думку, каманда Парашэнкі рэалізаваць з-за сваёй карупцыйнай прыроды не здольная.

Дарэчы, Фірсаў — не адзіны малады ўкраінскі палітык, які гучна заявіў пра свае амбіцыі. Па слядах маршу нацыяналістаў у Кіеве 20 мая ідэю стварэння сваёй партыі агучыў Сяргей Бяляцкі, камандзір батальёну «Азоў», байцоў якога часта абвінавачваюць у сімпатыях да неанацызму. Створаная на базе «Азова» структура, на думку палітолагаў, можа сур'ёзна паўплываць на сітуацыю на правым полі ўкраінскага палітычнага спектра.

### Даніэль Мілер



Лідар ініцыятывы «Нацыянальны рух Тэхасу», які ўваходзіць у партыю рэспубліканцаў, моцна напалохаў істэблішмент ЗША. Напярэдадні збораў секцыі рэспубліканскай партыі ў Тэхасе ён прапанаваў дэлегатам праект рэзалюцыі пра выхад штату са складу ЗША.

Увогуле, ідэі аднаўлення незалежнасці Тэхасу, які быў фармальна самастойнай дзяржавай у 1838–1845 гадах, агучваліся і раней, аднак заўсёды заставаліся маргінальнымі. У тым ліку яны не ставіліся на галасаванне на партыйных з'ездах рэспубліканцаў. Аднак у гэтым годзе ўсё змянілася.

Мілер дамогся падтрымкі 10 суполак рэспубліканцаў, і арганізатары мерапрыемства былі вымушаныя, паводле статуту партыі, выставіць праект рэзалюцыі Мілера на галасаванне. Хаця яшчэ з XIX стагоддзя існуе пастанова Вярхоўнага суду пра забарону выхаду штатаў са складу федэрацыі, навіны з Тэхасу ў сталіцы ЗША ўспрынялі як замах на дзяржаўнае адзінства.

Так ці інакш, у выніку для Вашынгтона ўсё закончылася добра. Падчас галасавання Мілера падтрымалі толькі 20 з 240 прысутных. Між тым, прэса называе тое, што адбылося, сур'ёзным званком, нагадваючы, што яшчэ ўчора намінацыю Дональда Трампа ў Белы дом таксама лічылі чымсьці з жанру фантастыкі.

### Нкасазана Дламіні-Зума



Выканаўчая камісія Афрыканскага Саюзу (AU — арганізацыі палітычнага, ваеннага і эканамічнага характару, куды ўваходзяць усе афрыканскія дзяржавы) пад кіраўніцтвам Дламіні-Зума, зрабіла заяву, паводле якой Гаіці адмоўлена ў просьбе быць сябрам аб'яднання. Фармальнай падставай для адмовы была геаграфія, паводле якой Гаіці знаходзіцца не ў Афрыцы.

Учынак Нкасазана Дламіні-Зума выклікаў абурэнне сярод чарнаскурага насельніцтва ва ўсім свеце. Не толькі таму, што гаіцяне, як вядома, наўпроставыя нашчадкі афрыканцаў, якіх французы і іспанцы ў якасці рабоў прывезлі на Карыбы. Менавіта прыклад Гаіці стаў чыннікам фармавання дзяржаўнай думкі на Чорным кантыненце, бо гэтая краіна была першай дзяржавай у свеце, уладу ў якой пасля паўстання 1791 года ўзялі чарнаскурыя. Незадаволеная рашэннем Дламіні-Зума і дыяспара. Лічылася, што сяброўства Гаіці ў AU стане першым крокам па стварэнні пры арганізацыі прадстаўніцтва афрыканскіх эмігрантаў у краінах па-за межамі Афрыкі.

Між тым, спецыялісты сцвярджаюць, што сапраўднай прычынай адмовы была не геаграфія, а эканоміка: Гаіці даўно пабіла ўсе сусветныя рэкорды па беднасці. Наяўнасць такога сябра наўрад ці спрыяла б росту аўтарытэту Афрыканскага Саюза. Так ці інакш, у шматлікіх афрыканскіх краінах прайшлі акцыі пад лозунгам «Гаіці — адна з нас».

# Калі б не яны, краіна была б іншай

Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ

**Мы пазнаёміліся на кухні Уладзіміра Някляева ў славутым «пісьменніцкім» доме па вуліцы Карла Маркса, 36. Я тады працаваў над альбомам «Танга з ружай». Было гэта дзесяць год таму.**

Гэткім нечаканым чынам я, зусім яшчэ смаркач, незнарок апынуўся ў адной кампаніі з дзвюма такімі незвычайнымі асобамі і літаратурнымі глыбамі. «Пасядзелі» мы ў той вечар грунтоўна. Шмат гаварылі і нямала спрачаліся. Някляеў і Бураўкін чыталі свае вершы, і я быў адзіным слухачом. Часам для «грунтоўнасці» нам неставала адпаведнага напою, і мы скіроўвалі сваю хаду ў бок найбліжэйшай крамы…

Калі была завершана праца над альбомам «Танга з ружай», я пачаў думаць пра новы праект. Зрабіўшы музычна-паэтычныя альбомы на вершы Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча і Уладзіміра Някляева, я ўжо па вызначэнні не мог не звярнуцца да паэзіі Генадзя Бураўкіна — немагчыма было ўявіць, каб я не заспяваў песні аўтара «Завірухі», «Зачараванай», «Калыханкі»!

Гэтым разам мы сустрэліся з Генадзем Мікалаевічам на яго лецішчы ў Крыжоўцы. Так пачаў нараджацца праект «Liryka». Мне, як контраверсійнаму артысту, якому ўсё нібыта дазволена, карцела зрабіць Бураўкіна не класічна інтэрпрэтаваным, а суперсучасным, суперрок-н-рольным і ў нечым нават рэвалюцыйным… Зрэшты, і па сёння мне цяжка сказаць, ці ўсё тады атрымалася, бо настрой некаторых Бураўкінскіх вершаў у музычнай інтэрпрэтацыі выглядае больш прывабным менавіта ў класічнай падачы — той ж «Месяц — жоўтая лодка» або «Ці ўспамінала ты мяне». Аднак кажуць, калі ў альбоме ёсць хоць адна добрая песня, гэта ўжо ўдача, а ў гэтым праекце іх было некалькі. Увогуле там былі сабраныя розныя вершы. Звычайна спыняюся на тым, што самому добра кладзецца на душу. Асноўны крытэрый: падабаецца — не падабаецца. Гэта ўжо потым разважаеш, як зможаш трактаваць тэму на свае рэжысёрскія фантазіі.

Гэткім чынам усё пачалося з сумеснай працы, якая з цягам часу прывяла калі не да сяброўства, дык дакладна да апякунства і настаўніцтва з боку Генадзя Мікалаевіча. Мы падтрымлівалі адносіны і пасля выхаду альбома «Liryka»: стэлефаноўваліся ці сустракаліся на нейкіх культурніцкіх мерапрыемствах. Гаварылі пра рознае. Так, да прыкладу, на маю крытыку на адрас некаторых афіцыёзных артыстаў — маўляў, імярэк быў здольны пасля смерці Уладзіміра Мулявіна зрабіцца свайго роду духоўным сімвалам і нацыянальным «сумленнем» кшталту Васіля Быкава, але ў музыцы, — Генадзь Мікалаевіч, усміхаючыся, адказаў: «Змі-і-іцер!.. — ён звычайна так інтаніраваў: — Змі-і-іцер! Ён жа харошы хлопец!..» Гэтаксама казаў і пра маладых паэтаў: маўляў, усе яны добрыя, проста па-іншаму жыццё і свет успрымаюць… Пасля гадоў «чорных спісаў» і забаронаў я нават зайздросціў гэтай яго якасці — гэткай незласлівасці і паблажлівасці. Ці гэта была простая чалавечая мудрасць?..

І вось прамінула колькі часу, і аднойчы Генадзь Мікалаевіч прапанаваў шалёную ідэю — выпусціць альбом беларускага шансону. «Дзед звар'яцеў! — падумаў я. — Які шансон?! Ён — класік, я — невядома хто. Да таго ж, дзякуй Богу, не сядзеў!..» Прачытаўшы вершы, што Бураўкін прапанаваў для гэтага цыкла, я, вобразна кажучы, пакруціў пальцам ля скроні і шчасліва забыўся пра іх. На дварэ быў, мусіць, 2011 год. Але прайшоў невялічкі час, і мы ўсё ж вярнуліся да гэтай задумы — Генадзь Мікалаевіч умеў доказна пераконваць. «Міша Таніч зрабіў праект з «Лесапавалам», — казаў ён тады. — А мы што, не можам з табою?!» Гэтае ключавое «не можам» і адыграла вырашальную



ролю — пачалася праца над вобразамі, бо тое, што расейцы называюць шансонам, кардынальна адрозніваецца ад таго, што ёсць, да прыкладу, французскі шансон. Нам трэба было знайсці сваю, беларускую сцежку…

Альбом «Варанок» атрымаўся надзіва цэласным. Тут можна прасачыць лёс чалавека, які спаліў трохі жыццёвых мастоў, бо ніхто і нідзе — ні ў нас, ні ў Еўропе, ні ў Амерыцы — не застрахаваны ад магчымасці патрапіць за краты. Прычым размова можа ісці не толькі пра турму ў прамым значэнні гэтага слова: турмой можа быць і краіна, дзе чалавек насуперак жыццёвым абставінам усё адно павінен застацца чалавекам. Разам з тым гэта альбом і пра сяброўства, і пра бацькоў. І, вядома, пра матулю, якая чакае свайго сына… Так, былі «Песняры», «Сябры», «Верасы», і былі кампазітары, заслужаныя і народныя, якія напісалі шмат песень. Але ці ёсць у іх хоць адна кампазіцыя пра маці, якую маглі б заспяваць, седзячы за святочным сталом, усе без выключэння беларусы? Бураўкінская ж песня «Дачакайся, матуля» з альбома «Варанок» знайшла свой водгук у многіх сэрцах.

Увогуле, лірычны герой Бураўкіна часта песенны ўжо ад самага пачатку — многія яго вершы вельмі лёгка кладуцца на музыку. Яго паэзія пэўна ж прасцейшая за паэзію Барадуліна, але мае сваю перавагу — яна больш песенная. І асабіста для мяне Бураўкінская паэтычная прастата не менш глыбінная за карункавасць Барадулінскага радка. І таямніца папулярнасці і запатрабаванасці яго песень палягае найперш у тым, што яны глыбока беларускія — беларускія ад зямлі, ад спрадвечнага народнага духу. Часам іх метафарычнасць надзвычай зразумелая. У той жа «Матулі» нібыта і няма нічога асаблівага. Але песня выйшла кранальная, бо ў кожнага з нас ёсць ці была маці, і кожны нешта не дагаварыў са сваёй матуляй, нешта недасказаў… Калі я быў студэнтам, дык, з'яўляючыся дамоў, кідаў заплечнік і бег з сябрамі на танцы, а мама чакала мяне да першай-другой гадзіны ночы. Раніцай сабраў рэчы і — у Ліду на навучанне. Вось і ўся гісторыя нашых стасункаў…

*Ты мне родная самая*
*Па душы, па крыві.*
*Ты жыві, мая мама,*
*Доўга-доўга жыві.*

Ён не толькі заўсёды прыходзіў на мае выступленні (гэтаксама, як і Уладзімір Някляеў), і нават яшчэ былі часы, калі падымаўся на сцэну той жа канцэртнай залы «Мінск») — Генадзь Мікалаевіч быў адзіны з паэтаў-суаўтараў, хто тэлефанаваў пасля канцэртаў. Прычым рабіў заўвагі надзвычай далікатна, ніколі не было ў гэтым ані ценю прыніжэння. (Да прыкладу, у мяне ёсць адна хіба — падчас выканання песень магу забыцца словы. Раней мне здавалася, што гэта не так ужо істотна, галоўнае — энергетыка,


Фота www.budzma.org

пасыл. Але Генадзь Мікалаевіч трымаўся, вядома, іншай думкі.) І ў гэтых тэлефанаваннях таксама выяўлялася яго настаўніцкая роля. Мне гэта было важна, я нават чакаў яго званкоў…

І на ўсіх канцэртах я абвяшчаў, што тры гэтыя славутыя чалавекі — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін і Уладзімір Някляеў — мае суаўтары. Наогул кажучы, яны былі для мяне больш, чым проста паэты. Мой бацька загінуў, калі мне было тры з паловай гады, таму я рос бязбацькавічам. Традыцыйны савецкі двор, падвалы, хлапчуковыя гульні ў «вайнушку»… Мама і бабка, вядома, пільнавалі мяне. Калі вырас і пасталеў, па-свойму пільнавалі мяне ўжо яны — Барадулін, Бураўкін і Някляеў. Прычым не магу сказаць, хто ж з іх лепшы, бо яны — розныя. Барадулін яшчэ пры першым знаёмстве прызнаўся, што яны з Караткевічам любілі выпіць. Народны паэт расказваў мне, хлапчуку, як яны злізвалі каньяк, які, разбіўшыся, разліўся. Мы гулялі ўздоўж Бангалора, Барадулін без супынку жартаваў, а я

**Барадулін яшчэ пры першым знаёмстве прызнаўся, што яны з Караткевічам любілі выпіць. Народны паэт расказваў мне, хлапчуку, як яны злізвалі каньяк, які, разбіўшыся, разліўся. Бураўкін быў трошкі іншы. Але я не магу ўявіць Барадуліна без Бураўкіна**

слухаў, адкрыўшы рот… Бураўкін быў трошкі іншы. Але я не магу ўявіць Барадуліна без Бураўкіна. Я бачыў фотаздымкі, дзе абодва яны маладыя. І калі працаваў над песняй «Чувіха клёвая», якую яны напісалі сумесна ў часы маладосці, дык прыдумаў сам сабе, што Генка — гэта, маўляў, гэткі дэндзі, а Грышка — хоць і не вахлак, але хлопец папрасцей. Канешне, для публікі я такім чынам іх не прадстаўляю, але ў маім разуменні Бураўкін выгадна адрозніваўся. Затое такіх, як Барадулін (паводле ўсё таго ж майго «сцэнару»), кабеты больш павінны былі любіць. Някляеў жа не толькі маладзейшы з іх — ён у маім уяўленні перш-наперш авантурыст. Апроч таго, у яго, як напісаў Барадулін да майго партрэту, «агонь у паглядзе». Але гэтаксама ён мог напісаць не толькі пра мяне, але і пра Някляева… І што цікава — кожны з іх мог бы, мусіць, мець зусім іншае, больш забяспечанае і шчаслівае жыццё: яны маглі б жыць, не маючы клопату, у Амерыцы ці ў Хельсінкі. Старасць у той жа Фінляндыі дае магчымасць чалавеку дажыць годна да ста гадоў. Але яны — засталіся тут. І ў гэтым яны таксама былі дый застаюцца прыкладам.

…Апошні раз мы бачыліся з Генадзем Мікалаевічам у красавіку 2014-га, калі ён крыху ачуняў. Мы тады нават каньяку з ім выпілі. І я заспадзяваўся, і ўсе заспадзяваліся, што ён адужае хваробу…

Падчас той апошняй сустрэчы мы абмяркоўвалі, у прыватнасці, песню на ягоны верш «Вячэра»:

*— Чэрава-чэрава,*
*Чым ты павячэрала?*
*— Павячэрала капустай,*
*Аржанога хлеба лустай,*
*Свежасмажаным лінам,*
*Свежаспечаным блінам,*
*Бабкаю з начынкаю,*
*Сальцісонам з шынкаю,*
*Хатняю каўбаскаю,*
*Вантрабянкай наскаю.*
*А яшчэ былі, канешне,*
*І мачанка, і яешня,*
*Сала, грэчневая каша*
*І смятана-сыракваша!*

«Генадзь Мікалаевіч, нешта мы з вамі ўпусцілі — трэба, каб яшчэ пра беларускія напоі было: і каб вішнёўка была, і самагонка…» — папрасіў я, ён у адказ засмяяўся. Я спадзяваўся, што ён яшчэ напіша гэты куплет. Аднак — не лёс…

Мне і па сёння яго не хапае. Пасядзець бы разам, як у мінулыя часы. Бо была ж яшчэ Крыжоўка, і калі гаварыць пра Бураўкіна, дык нельга браць адных толькі Генадзя Бураўкіна і Зміцера Вайцюшкевіча — трэба казаць пра сем'і Бураўкіных і Вайцюшкевічаў, бо за гэтыя гады мы ўжо сем'ямі здружыліся. Шкада толькі, што разам да Вайцюшкоў не даехалі…

Не хапае яго яшчэ і таму, што часы перажываем па-ранейшаму няпростыя, і Генадзь Мікалаевіч быў бы вельмі патрэбны. Не хапае яго самога, не хапае яго голасу. Гэтаксама як нестае Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча… Я часта думаю пра іх. Пра іх дый пра сябе — кузурку. Бо калі б не яны, і сам быў я не такі, і краіна наша была б, мусіць, іншай.

**Літаратурны запіс Сяргея Шапрана**

# Варта весці дзяцей у беларускі клас:12 прычын

Алесь КРОЙ

**У пачатку чэрвеня бацькі будуць выбіраць мову навучання для сваіх дзетак у першым класе. Калі бацькі хочуць, каб іх дзіця ў будучым мела важкія перавагі перад сваімі аднагодкамі, трэба — аддаць дзіця ў беларускую школу. І вось чаму.**

## 1 Беларуская мова — мова большасці

Беларуская мова патрэбна, каб ведаць свае карані і традыцыі пазнавання свету па-беларуску.

Пасля апошняга перапісу насельніцтва аказалася, што 5 мільёнаў 58 тысяч чалавек назвалі роднай мовай беларускую. Амаль кожны чацвёрты штодзённа карыстаецца ёю. А што трэба рабіць, каб узняць аўтарытэт роднай мовы і культуры сярод тых, хто не ёй карыстаецца, але лічыць роднай? Паступова вяртацца да сваіх каранёў, а бацькам будучых першакласнікаў — пісаць заявы ў беларускія класы.

Чым больш будзе жадаючых вучыцца па-беларуску, тым больш будзе павагі і ўвагі да беларускай мовы. Беларусы пазбавяцца комплексу нацыянальнай прыніжанасці, будуць з павагай ставіцца да свайго, роднага, будуць ведаць, адкуль пачынаўся іх род.

## 2 Каб адпавядаць імператыву сучаснасці

Пасля пераводу гарадскіх беларускіх школ на рускую мову, авалодаць аднолькава добра рускай і беларускай мовамі стала для большасці вучняў немагчымым. Пасля заканчэння «рускай» школы значная колькасць дзяцей не можа па-беларуску сказаць і двух сказаў, некаторыя лепей гавораць па-англійску.

Як гэта выправіць? Проста! Трэба пісаць заяву ў беларускі клас. Калі ваша дзіця будзе вучыцца ў беларускім класе, яно будзе добра валодаць і рускай, і беларускай мовамі. Праз 10–15 гадоў, пасля школы і ВНУ, гэтыя веды спатрэбяцца для любога дзяржчыноўніка і проста адукаванага чалавека. Беларускамоўныя бацькі сёння ведаюць і рускую, і беларускую, таму адпавядаюць імператыву сучаснасці. Рускамоўныя, як правіла, аднамоўныя, беларускую мову разумеюць, але гаварыць і выконваць прафесійныя абавязкі на ёй не могуць. Навучаючы дзяцей па-беларуску, вы не губляеце рускай мовы!

## 3 Наша мова адна з самых мілагучных і сэксуальных у Еўропе

Шматлікія даследаванні паказваюць, што беларуская мова па мілагучнасці саступае толькі італьянскай. Дастаткова ўспомніць Мулявіна і яго «Песняроў»: іх песні ведалі і спявалі амаль ва ўсім СССР.

Мілагучнасць той ці іншай мове дае «генетычны код» — набор галосных і зычных гукаў, па якіх мы можам казаць пра яе прыгажосць. Навукоўцам вядома, што большасць людзей успрымае галосныя гукі больш прыемна за зычныя. Па самых частых галосных гуках вучоныя склалі мапы, якія характарызуюць еўрапейскія мовы. Беларускае «аканне», гук [а] у нашай мове адметна пашыраны: на яго прыходзіцца каля пятай часткі гучання. У людзей гэты гук асацыюецца з каханнем, сэксам, крывёю, палкасцю, рамантыкай.

Моцнае дамінаванне гука [а] сярод еўрапейскіх моваў сустракаецца толькі ў беларускай. Таму тых, хто гаворыць на беларускай, успрымаюць як надзвычай палкіх і рамантычных людзей, а беларускую мову можна назваць найбольш сэксуальнай у Еўропе.

## 4 Каб мова была больш натуральнай

Дзеці звычайна не маюць забабонаў у адносінах да якой-небудзь мовы, і шырокая праца з імі закладае падмурак для звычак карыстання моваю на ўсё жыццё.

Самы трывалы асяродак функцыянавання мовы — гэта сям'я. Адначасова гэта і найбольш замкнёная сфера для грамадскага ўздзеяння. Але калі здолець змяніць моўныя звычкі ў сям'і, тады вельмі складана, нават у самых неспрыяльных умовах, зруйнаваць гэты асяродак.

## 5 Мова ўплывае на прадукцыйнасць і здароўе

Ёсць багата даследаванняў, якія паказваюць, што шматмоўныя людзі атрымліваюць вышэйшыя адзнакі падчас навучання, іх мозг даўжэй не старэе і яны іншым чынам выйграюць ад шматмоўя. Але адна з моваў абавязкова мусіць быць роднай. Яшчэ ў ХХ стагоддзі англічане даказалі, што мова продкаў дапамагае хворым палепшыць стан імуннай сістэмы.

Нашы продкі стагоддзямі развіваліся, эвалюцыянавалі разам з мовай. Таму характарыстыкі артыкуляцыйнага апарату, нервовай сістэмы, антрапаметрычныя параметры перадаюцца нам генетычна. Калі вы размаўляеце на мове сваіх продкаў, гены дапамагаюць вам быць больш прадукцыйнымі. Аўстралійскія даследаванні мясцовых народнасцяў паказалі: хто з іх перайшоў на англійскую мову, той меў ніжэйшыя вынікі ў адукацыі. «Чужынамоўныя» спажывалі болей алкаголю, сярод іх часцей сустракаліся наркаманы, яны часцей сталі ахвярамі жорсткага абыходжання ў параўнанні з «роднамоўнымі». Людзі, якія гавораць на роднай мове, адчуваюць сябе больш упэўненымі і маюць лепшае здароўе.




## 6 Беларуская мова — масток да еўрапейскіх універсітэтаў

Выпускнікі беларускамоўных школ 90-х гадоў сталі запатрабаванымі не толькі на сваёй Радзіме. Сёння шмат з іх прадстаўляюць інтарэсы замежных кампаній, робяць ім рэкламу на беларускай мове, ствараюць запатрабаваныя беларускамоўныя брэнды, выкладаюць у замежных ВНУ.

Добра ведаючы беларускую, лягчэй засвойваць замежныя мовы, найперш польскую, чэшскую, славацкую, украінскую, дзе шмат родnative слоў, якіх няма ў рускай мове. Лягчэй адбываецца адаптацыя да іншамоўнага асяроддзя. Калі хочаце, каб ваша дзіця вучылася ў Празе, Кракаве, Браціславе, Варшаве і мела дыплом, прызнаны ў Еўропе, то пачынайце з беларускага класу.

## 7 Беларуская мова становіцца прэстыжнай

Кожны дзяржаўны чыноўнік павінен адказваць на той мове, на якой звярнуўся грамадзянін (пісьмова ці вусна). Гэтага патрабуе заканадаўства. Чыноўнік, які выконвае свае абавязкі толькі на рускай мове, праз пэўны час можа стаць незапатрабаваным.

Сёння дзяржслужбоўцы яшчэ могуць разлічваць на сакратара, які валодае рускай і беларускай. А калі давядзецца адказваць грамадзяніну вусна? А калі грамадзянін акажацца прынцыповым? Такіх прынцыповых штогод становіцца ўсё больш, а значыць, яны не дадуць чыноўнікам спакойна сядзець на пасадзе з веданнем толькі рускай мовы. Валоданне беларускай — неабходная ўмова, каб зрабіць кар'еру ў дзяржкіраванні.

## 8 Былая «вясковая» мова становіцца папулярнай

Беларуская мова — сучасны і модны брэнд, асабліва сярод «прасунутай» моладзі. Віктар Марціновіч, малады беларускі пісьменнік, кнігі якога выдаюць у ЗША, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, сказаў пра родную мову: «Мова — гэта код, у якім зашыфраваны этычнасць і падтэксты, якія нават прамовіць складана… З'яўляецца новая генерацыя беларускамоўных, для якіх мова — гэта не боль, а проста мода і адзнака чалавечай якасці… Мова для мяне — гэта, хутчэй, прыкмета сучаснасці, прыкмета адукаванасці, прыкмета таго, што ты свой і што ты не «калхазан»… Гэта прыкмета таго, што ты чалавек адукаваны, мадняvы і такі, з якім можна паразмаўляць».

Не дзіва, што ў прадпрымальнікаў, якія могуць спрытна весці гутарку па-руску і па-беларуску, звычайна большае кола пастаянных пакупнікоў. А ў колькі разоў падняліся продажы пральнага парашка «Мара» з-за беларускамоўнай рэкламы! Зазірніце ў інтэрнэт — беларушчына цяпер спрэс і вельмі актыўна развіваецца, уключаючы інтэрфэйсы і камп'утарныя гульні.

## 9 Талерантная будучыня — за двухмоўнымі і шматмоўнымі

Найлепшы выбар — не дзяліць мовы, а карыстацца імі. Кожны беларускамоўны павінен добра ведаць рускую мову, а кожны рускамоўны павінен лёгка пераходзіць на беларускую. Каб стаць сапраўдным грамадзянінам Беларусі, трэба ведаць дзве мовы. А пачынаць трэба са школы.

Амерыканскія спецыялісты кагнітыўнай неўралогіі пераканаўча даказалі перавагу двухмоўных людзей над аднамоўнымі. Двухмоўныя маюць большыя здольнасці разбірацца з дзвюма праблемамі аднachасна. Двухмоўныя — лепшыя кіроўцы транспарту, чым аднамоўныя. Хвароба Альцгеймера, калі такая здараецца, прыходзіць да двухмоўных у сярэднім пазней на 6 гадоў. Двухмоўе ўзмацняе агульны інтэлектуальны патэнцыял чалавека, дзіця — засвойвае ў два разы больш інфармацыі. Вывучэнне мовы ўзмацняе працу мозгу. Вывучэнне роднай ці замежнай моваў моцна стымулюе левае паўшар'е, адказнае за аналітычныя і вербальныя функцыі.

Значная частка беларускамоўных з'яўляецца, папраўдзе, як мінімум двухмоўнымі, і ў гэтым сэнсе беларускамоўныя пакуль лепш адпавядаюць сучаснасці, бо шматмоўе ў нас не мае альтэрнатывы.

## 10 Каб дзеці не камплексавалі

Улічваючы сучасныя тэндэнцыі, можа стацца, што вашы дзеткі, калі вырастуць, то на пытанне, чаму не валодаюць аднолькава добра беларускай і рускай мовамі, будуць шукаць прычыны і ў сваіх бацьках. Не ў той клас аддалі, не размаўлялі па-беларуску, не разумелі тэндэнцый часу. А бацькі, магчыма, проста вучыліся па тых падручніках, дзе пра гонар, павагу да свайго роднага было напісана толькі некалькі радкоў дробным шрыфтам. Таму бацькам трэба зрабіць усё, каб іх нашчадкі ўжо з дзяцінства цікавіліся сваёй сям'ёй, горадам, краінай, ведалі сваю мову, гісторыю і культуру. Каб дзеці не саромеліся і не камплексавалі, а з лёгкасцю пераходзілі з адной мовы на другую.

## 11 Гэта канкурэнтная перавага на працоўным рынку

Чалавек, які ведае на адну мову больш, мае і большую вагу ў канкурэнцыі за працоўнае месца (пры іншых роўных умовах). У Беларусі раней гэта было не запатрабавана. Але зараз на розных сайтах можна прачытаць аб'явы, дзе запрашаюцца журналісты, афіцыянты, менеджары, праграмісты з добрым валоданнем беларускай. І гэта толькі пачатак. Праз паўтара дзясятка гадоў сітуацыя зменіцца кардынальна, таму важна гэта асэнсаваць сёння! Не спазніцеся, бо іншыя бацькі гэта зразумелі раней.

## 12 Каб паважалі суседзі, трэба зрабіць першы крок

Выдатнае валоданне як мінімум дзяржаўнымі мовамі — гэта паказчык талерантнасці грамадства, а павага да роднай мовы — гэта павага і да сябе!

Не звяртайце ўвагу на іншых, калі ў моўным пытанні вы з імі не згодны, рабіце так, як патрабуе ваша душа і сэрца. Мы ўсе розныя, таму і ўнікальныя!

Не кожнаму хопіць волі адмовіцца ад моўных стэрэатыпаў, якія ствараліся гадамі. Але, калі вы сапраўды хочаце, каб вашы дзеткі ведалі нароўні з рускай і беларускую мову, вы маеце рэальную магчымасць гэта зрабіць, напісаўшы заяву ў першы беларускі клас.

***Дык будзьма беларусамі, каб не было сорамна!***

***P.S.** Раім знайсці іншых бацькоў, якія вучаць дзяцей на беларускай мове ў садку ці школе і пракансультавацца з імі. Могуць дапамагчы і мясцовыя ТБМ, ТБШ, аддзел адукацыі раёна. Можна знайсці інфармацыю ў інтэрнэце, ёсць адмысловыя сайты для беларускамоўных бацькоў. Можна проста набраць у пошуку: «беларускія класы». Важна зрабіць першы крок.*

# Гей-проза па-беларуску

**Дэбютны зборнік аповедаў Уладзя Гарбацкага «Песні тралейбусных рагуляў» запрашае чытачоў у свет вясёлых і сумных праўдзівых гісторыек, напісаных у мастацка-дакументальным жанры.**




З дзяцінства аўтара натхняе віцебская казка, і само княжацкае месца Віцебск стала непаўторным тлом усіх казак і прозы жыцця. А ў цэнтры расповедаў месціцца жыццё аднаго простага і такога адрознага віцябляніна...

Кніга выйдзе друкам і ў электронным варыянце ў выдавецтве belarusians.co.uk 1 чэрвеня 2016 года.




# Нататкі таткі

**У офісе Беларускага ПЭН-цэнтра 24 мая былі абвешчаныя вынікі прэміі «Кніга года». Ёй сталі «Нататкі таткі» Андрэя Хадановіча.**




Сёлета ў журы ўвайшлі 74 пісьменнікі, інфармацыю пра галасаванне кожнага з іх глядзіце на старонцы прэміі. У журы прэміі мог увайсці любы беларускі пісьменнік, які выдаў мастацкую або нон-фікшн кнігу цягам апошніх 7 гадоў.

Агулам на перамогу прэтэндавалі 82 выданні.

«Кніга года» заснаваная Беларускім ПЭН-цэнтрам у 2015 годзе. Першы раз яна ўручалася ў трох намінацыях: «Проза», «Паэзія», «Дзіцячая літаратура». Сёлета прэмія намінацый не прадугледжвала. У мінулым годзе пераможцамі «Кнігі года» зрабіліся: Альгерд Бахарэвіч з кнігай «Дзеці Аліндаркі» («Проза»), Антон Рудак з кнігай «Верхні горад» («Паэзія»), «Сумны суп» Вольгі Гапеевай і «Авантуры студыёзуса Вырвіча» Людмілы Рублеўскай («Дзіцячая літаратура»).

**Паводле прэс-службы Беларускага ПЭН-цэнтра**

# Да 25-годдзя Згуртавання «Бацькаўшчына»

**Міжнароднае журы падвяло вынікі конкурсу працаў пра беларускае замежжа, які ладзіўся Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» да 25-гадовага юбілею аб'яднання.**




Пераможцамі сталі:

1-е месца — Вольга Мярчук. «Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны свету ў 1921–1939 гг.»;

2-е месца — Аляксей Кухта. «Я не паляк, а беларус»: паўстанец 1863 г. Мікалай Віткоўскі, яго жыццёвы шлях і навуковыя дасягненні ў Сібіры»;

3-е месца — Эмануіл Іофе. «Арыгінальны талент вучонага, паэта і палітыка».

Таксама журы адзначыла наступныя працы:

— Аляксандр Крук. «Мне сняцца сны аб Беларусі...» (Станаўленне і дзейнасць арганізацыі беларусаў Прыбайкалля);

— Канстанцін Касяк. «Культурніцкая дзейнасць Вацлава Ластоўскага ў Ковенскай Літве»;

— Марына Яўсейчык. «Вобраз нацыянальнага героя ў перыёдыцы дыяспары».

Нагадаем, конкурс быў абвешчаны ЗБС «Бацькаўшчына» з нагоды юбілею дзеля прыцягнення ўвагі да спадчыны беларускай дыяспары, вывучэння і папулярызацыі яе дасягненняў як неад'емнай часткі нашай супольнай гісторыі і сучаснасці, нашай культуры.

Як адзначыла старшыня журы конкурсу, даследчыца эміграцыі Наталля Гардзіенка, паводле агульнага меркавання сябраў журы, пераважная большасць прац, дасланых на конкурс, сапраўды вельмі цікавыя і вартыя публікацыі.

Урачыстае ўганараванне пераможцаў конкурсу адбудзецца ў чэрвені ў Мінску.

Пазнаёміцца з працамі-пераможцамі і іншымі найбольш цікавымі тэкстамі, дасланымі на конкурс, неўзабаве можна будзе на сайце «Бацькаўшчыны» zbsb.org у раздзеле «ЗБС «Бацькаўшчына» — «Да 25-годдзя Згуртавання».

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС «Бацькаўшчына»**

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ______

Всего ______

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанававаць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 501

Падпісана да друку 27.05.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.